Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

т. XXXVII АДДЗЕЛ ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ № 5

ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЛЯСНАЯ ДАСЬЛЕДЧАЯ СТАНЦЫЯ БССР

# МАТАР'ЯЛЫ ПА ЛЯСНОЙ ДАСЬЛЕДЧАЙ СПРАВЕ БССР

пад рэдакцыяй праф. С. П. МЕЛЬНІКА



Белорусский Научно-Исследовательский Институт Сельского и Лесного Хозяйства имени В. И. Ленина при СНК БССР

ОТДЕЛ ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА

Центральная Лесная Опытная Станция БССР

## ТРУДЫ ПО ЛЕСНОМУ ОПЫТНОМУ ДЕЛУ БССР

под редакцией проф. С. П. МЕЛЬНИКА

Выпуск V

Belarussisches Institut für Wissenchaftliche Forschungen der Land-und Forstwirtschaft auf den Namen von W. I. Lenin beim Rate der Volkskommissare von der B.S.S.R.

ABTEILUNG FÜR FORSTWIRTSCHAFT

Centrale Forstliche Versuchsstation von Belarussj

## Mitteilungen aus dem Forstlichen Versuchswesen in Belarussj

redigiert von Prof. S. P. MELNIK

V Band

МЕНСК—MİNSK

1930.



## ЗЬМЕСТ. ОГЛАВЛЕНИЕ. INHALTSVERZEICHNISS.

Стар.
Стр.
Seite.

# Навуковыя працы Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі ў 1927-28 год.

(Навуковая справаздача за 1927-28 год.)

Як і ў папярэднім годзе дзейнасьць Аддзелу Лясное Гаспадаркі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна складалася 1) з навукова-дасьледчых работ Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі, 2) з работ па падрыхтоўцы асьпірантаў, 3) спэцыяльных работ па даручэньню НКЗ БССР і 4) кансультацый па пытаньнях лесаводзтва і лясное гаспадаркі.

Асьпірантаў у 1927-28 годзе было 5: А. І. Чарнянкоў, Ф. І. Фамін, В. П. Сініцкі, А. Ф. Галавач, Д. Ф. Закрэўскі.

*А. І. Чарнянкоў* працаваў пры Аддзеле Лесазнаўства, догляду і рубак пад кіраўніцтвам праф. *С. П. Мельніка*. Апроч праграмнае падрыхтоўкі па лясной літаратуры, чужаземных мовах і грамадзкіх навуках ён выконваў пад кіраваньнем першую самастойную навукова-дасьледчую работу ў вэгетацыйным доміку на тэму—„уплыў вапнаваньня глебы тыпу сьзежай рамені на рост елкі звычайнае, дуба чарэшчатага, ліпы дробналістнай, клёна востралістнага, ясеня звычайнага і вяза" і невялікую другую работу на тэму—„параўнальныя фэналягічныя нагляданьні над некаторымі відамі дрэўнае расьліннасьці сталага і маладога ўзросту". Удзельнічаў таксама ў працах Станцыі па лесафэналягічных нагляданьнях і ў кіраваньні нагляданьнямі над насеннамерамі.

Асьпірант *Ф. І. Фамін* скончыў сваю дыплёмную працу, пасьля абароны некалькі месяцаў займаўся падрыхтоўкай і распрацоўкай спробных плошчаў, а ў канцы красавіка 1928 г. адкамандыраваны для заняткаў пры Ленінградзкім Лясным Інстытуце. Асьпірантам лічыцца пры Аддзеле Лясное Эканоміі.

Асьпірант *В. П. Сініцкі* працаваў пры Лесатэхнічным Аддзеле Станцыі па лясной хімічнай тэхналёгіі пад кіраўніцтвам праф. *В.В. Шкацелава*. Апроч звычайнае асьпіранскае падрыхтоўкі сумесна з дацэнтам К.Н. Кораткавым выканаў і надрукаваў экспэрымэнтальную лябараторную работу, а на працягу ўсяго летняга сэзону вёў работы па падсочцы сасны на дасьледчых плошчах пры Вяляціцкім Лясным Дасьледчым вучастку.

Асьпірант *А. Ф. Галавач* падрыхтоўваецца па мэханічнай сэкцыі Лесатэхналягічнага аддзелу і з гэтаю мэтаю быў адкамандыраваны ў Ленінград, дзе праходзіць курс мэханічнага аддзяленьня Лесатэхналягічнага факультэту пры Лясным Інстытуце. Удзелу ў працах ЦЛДСБ ня прымаў.

Асьпірант *Д. Ф. Закрэўскі* рыхтуецца па лясной энтамалёгіі. На ўвесь год быў адкамандыраваны ў Ленінград для заняткаў па энтамалёгіі пры Энтамалягічным Тэхнікуме. Увосень 1928 году пры Лясфаку БДСГА абараніў дыплёмную працу і атрымаў годнасьць вучонага лесавода.

З работ па даручэньню НКЗ БССР Цэнтральная Лясная Дасьледчая Станцыя Беларусі па Таксацыйна-Лесаўпарадкавальнаму Аддзелу ў 1927-28 г. скончыла працу па складаньню „Табліц аб'ёму, зьбегу і сар-

тымэнтных для сасны, елкі, дубу, ясеня, вольхі, асіны, бярозы і грабу". Табліцы складзены на аснове апрацоўкі 5566 модэльных дрэў, узятых у лясох Беларусі, і выдадзены на грошы, адпушчаныя Наркамземам, у вы глядзе кнігі ў 298+XXII стар.

Кансультацыйная дзейнасьць усё разрастаецца. У справаздачным годзе ў працы гэтага роду прымалі ў пэўнай меры удзел усе аддзелы Лясное Дасьледчае Станцыі. Навуковыя працаўнікі Аддзелу Лясное Гаспадаркі прымалі ўдзел сваімі артыкуламі ў спэцыяльных часопісах, што выдаюцца на Беларусі. У прыватнасьці варта адзначыць, што ў 1927-28 г. ўпершыню пачалі друкаваць свае артыкулы, як у спэцыяльных часопісах, так і ў працах Інстытуту, маладыя навуковыя працаўнікі Аддзелу Лясное Гаспадаркі. Дружны і ўдалы пачатак іх удзелу ў гэтым зьяўляецца, па маёй думцы, добрым пацьвярджэньнем таго, што маладыя навуковыя працаўнікі сталеюць і што курс кіраваньня імі ўзяты правільна.

Навуковыя Дасьледчыя працы вяліся па праграме зацьверджанай для 1927-28 г. і надрукаванай у II-м томе „Матар'ялаў па Лясной Дасьледчай Справе БССР" (VIII том „Працы БНДІ) на стар. 1—6. Па прычыне скарачэньня папярэдне запраектаваных крэдытаў частка работ, што лічацца ў праграме, ня выканана. Поўнасьцю прышлося адкласьці работы па Сьляпянскаму Лясному Дасьледчаму Вучастку, па Дубраўнаму Дасьледчаму Вучастку, па экспэдыцыйнаму дасьледваньню тыпаў дрэвастанаў на Беларусі. Часткова прышлося скараціць выкананьне тэм і па некаторых другіх разьдзелах праграмы.

Пералік навукова-дасьледчых работ, якія выконваліся па Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі Беларусі ў далейшым прыводзіцца па аддзелах Станцыі, а ў межах кожнага аддзелу па групах работ, у якія тэмы згрупаваны былі і ў пяцігадовым пэрспэктыўным пляне, і ў справаздачах за папярэднія годы.

## А.

## Па Аддзелу Лесазнаўства, Догляду і Рубак.

### I. Працы па вывучэньню дэндралёгіі і біялёгіі дрэўных відаў Беларусі.

1) Экскурсыйным шляхам зьбіраўся матар'ял аб межах прыроднага распаўсюджваньня некаторых дрэўных відаў у БССР.

2) Лесаводна-фэналягічныя нагляданьні вяліся ў Горацкім Дэндралягічным Садзе над 113 экземплярамі 103 відоў дрэў і кустарнікаў, у Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку над 91 экзэмплярамі 74 відаў. Упяршыню ў 1928 г. арганізаваны лесаводна-фэналягічныя нагляданьні на Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку, дзе вяліся над 26 экзэмплярамі 21 віда. На Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку тыя-ж нагляданьні вяліся над 50 экзэмплярамі 37 відаў.

3) Вывучэньне каляровванасенных рас сасны звычайнай (Pinus silvestris L.). Восьмага сакавіка 1928 г. быў зроблены збор шышак з 24 дрэў, якія занумараваны пастаяннымі нумарамі і з каторых штогод, пачынаючы з 1923 г., зьбіраецца насеньне. З шышак здабыта насеньне, насеньне дасьледвана і вясною высеяна ў градкі № 4 і № 5 лясного дасьледчага гадавальніка ў Горках.

4) Вывучэньне фармацыйных рас сасны звычайнае. Насеньне, здабытае з шышак сабраных вучоны лесаводам Г. Г. Круглікавым у Горацкай

дачы і вучоным лесаводам М. Н. Лубяка ў Вяляціцкай дачы з паасобных дрэў у дрэвастанах, якія растуць пры рэзка розных глебава-грунтовых умовах, дасьледвана асыстэнтам Д. О. Манцэвічам, а вясною высеяна на градках № 6 і № 7 Горацкага дасьледчага гадавальніка. Высеяна 8+5 сэрый насеньня.

5. Працягнута вывучэньне сэзонна-дыморфных адмен елкі звычайнай (Picea excelsa var. chlorocarpa, Purk і Picea excelsa var. erythrocarpa. Purk.). У пачатку студзеня 1928 году сабраны шышкі з 40 дрэў, занумараваных вясною 1927 г. у кварталах 39, 40 і 48 Горацкае лясное дачы (гл. работу № 3 разьдзелу А справаздачы па ЦЛДСБ за 1926-27 г., II том, стар. 281) і вылучаных па колеру шышак. Пасьля дасьледваньня насеньне з 15 дрэў Picea excelsa var. erythrocarpa высеяна на градках № 1 і № 2 дасьледчага гадавальніку ў Горках, а насеньне з 17 дрэў Picea excelsa var. chlorocarpa высеяна на градках № 2 і № 3 таго-ж 19-го кварталу і таго-ж гадавальніку.

Рэзультаты аналізу насеньня не паказалі якіх-небудзь розьніц у насеньні вышэйпаказаных дзьвёх адмен. Застаецца біялягічныя розьніцы шукаць у нагляданьнях над паводзінамі маладых патомкаў старых елак.

Вясною 1928 г. ізноў у той-жа Горацкай дачы, у кв. 47 і 52 занумаравана 53 елкі, пры чым вылучаны дрэвы ня толькі з рэзка зялёнымі і з рэзка чырвонымі шышкамі, але і з 3-ма афарбоўкамі пераходных колераў.

6) На Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку ў кв. № 48 Вяляціцкай дачы вясною 1928 г. высаджаны *2-хлетнія сеянцы* Pinus silvestris L. выгадаваныя з насеньня ад асобных дрэў розных рас па колеру насеньня. Высаджаны сеянцы 15-ці рас па колеру насеньня ад 29 матчыных дрэў. Сеянцы пасеву вясны 1928 г. выгадаваны былі ў Горацкім Дасьледчым Гадавальніку з насеньня, сабранага зімою 1925-26 г. ў Вяляціцкай-жа дачы.

7) Працягнута стварэньне чыстых дрэвастанаў з чужаземных дрэўных відаў і тых відаў СССР, якія ня маюць прыроднага распаўсюджваньня ў БССР.

а) У кв. № 14 Горацкай Лясной Дасьледчай Дачы папоўнены пасадкі экзотаў вясны 1927 г. (гл. работа № 4 разьдзелу А. справаздачы за 1926-27 г. том II. стар. 281 і 282). Высаджана каштана конскага (Aesculus hippocastanum L.) 3-летніх сеянцаў з насеньня, сабранага з дрэў у сядзібе Беларускае Акадэміі С. Г. 1064 шт., морвы белай (Morus alba L.) 4-хлетніх саджанцаў, выгадаваных з насеньня, сабранага ў г. Новачаркаску, 559 шт. і клёну амэрыканскага (Acer Negundo L.) 1—летніх сеянцаў з насеньня, атрыманага ад Сэйтлерскага гадавальніку (Крым) 2606 шт. Пасадка зроблена 15—17 мая 1928 г.

б) На Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку ў клетцы № 26 кварталу № 44 высаджана 1527 экзэм. 9 відаў чужаземных дрэўных відаў.

в) На Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку ў кв. № 48 Вяляціцкае дачы вясною 1928 г. 2-хлетнімі сеянцамі высаджана 11803 экзэмпляры Pinus Banksiana на плошчы 1,23 гэкт. і 4350 экзэмпляраў Pinus Laricio на плошчы 0,46 гэкт.

У пачатку лістапада зроблен пералік экзотаў, як пасадкі папярэдняга году так і пасадкі справаздачнага году.

8) Працягвалася выгадоўваньне экзотаў на ўсіх гадавальніках, а на Горацкім і Вяляціцкім гадавальніках зноў высеяна насеньне, сабранае ў 1928 г. праф. С. П. Мельнікам у Нямечыне і ва Францыі, атрыманае ад некаторых устаноў СССР і часткова сабранае з экзотаў, што растуць у БССР.

9) Увосень 1928 г. зроблен абмер у 3-хлетнім узросьце 17 відаў дрэў, высаджаных вясною 1927 г. для вывучэньня параўнальнае хуткасьці росту гэтых дрэў (досьлед № 8. аддзелу А, па справаздачы 1926-27 г., II том, стар. 286).

10) Працягнуты досьлед завяльваньня асіны на корані ў клетцы № 1 кв. № 45 Горацкае дачы. Досьлед распачаты 1/IV-1927 г. і складаецца з акальцаваньня 1—3 чысла кожнага месяцу 3 асін і далейшых нагляданьняў за імі. З 1/X 1927 г. да 1/X 1928 г. акальцавана 37 асін.

Вяліся наглядані над асінамі, акальцаванымі ў клетцы № 52 кв. № 44 Горацкае дачы ў траўні 1925 г, а 2/VIII-1928 г. зроблен вучот гэтых асін.

11) Працягнуты нагляданьні над вэгетацыяй адмен дубу на Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку.

## II. Дасьледваньні біялёгіі лясных дрэвастанаў Беларусі і ўмоў месцавырастаньня.

12) Скончана дасьледваньне глеб Горацкага Дасьледчага Лясьніцтва і складзена глебавая карта Горацкай дачы.

13) Зроблены дасьледваньні па вызначэньню актуальнае кіслотнасьці верхніх глебавых паземаў лясных глеб у тыпе раменяй у кв. № 44 Горацкае лясное дачы (паземаў $A_0$, $A_1$, $A_2$). Дасьледвана тут 1056 глебавых узораў і зроблена *2112 вызначэньняў pH.*

Такі багаты матар'ял, сабраны ў рэзультаце энэргічнае працы асыстэнта Д. О. Манцэвіча, дазваляе пасьля яго распрацоўкі:

а) *скласьці карту разьмеркаваньня ступеняў кіслотнасьці на плошчы кв. № 44 Горацкага лясного вучастку для кожнага з дасьледваных генэтычных паземаў глебы з правядзеньнем на карце ізаліній, якія злучаюць пункты з аднолькавым pH,* б) *прасачыць сувязь паміж кіслотнасьцю верхніх глебавых паземаў і рэльефам мясцовасьці, тыпам глебы, тыпам насаджэньня і характарам дрэвастану, флёрыстычным складам падлеснае флёры, характарам лясное падсьцілкі;* в) *устанавіць суадносіны паміж pH асобных генэтычных паземаў аднаго і таго-ж глебавага разрэзу для розных умоў месцавырастаньня.*

Папярэдняя апрацоўка атрыманых дадзеных паказала наступнае: а) у тыпах яловае рамені Горацкага Лясного Дасьледчага Вучастку pH для верхніх глебавых паземаў хістаецца ад 6,7 да 3,6, дасягаючы найбольшай кіслотнасьці ў тыпе сырое рамені. Для глеб торфавых у тыпах сумшара і мшара pH зьмяняецца ў межах ад 4,8 да 3,0. б) Кіслотнасьць самых верхніх глебавых паземаў на суцэльнай задзярнелай лесасецы прыметна ніжэй, чым кіслотнасьць тых-жа глебавых пластоў пад насаджэньнем *Для пазему $A_0$* яна была ніжэй у 56 % выпадкаў, раўнялася кіслотнасьці таго-ж пазему пад насаджэньнем у 32 % выпадкаў і была вышэй у 12 % выпадкаў. *Для пазему $A_1$* у 42 % выпадкаў кіслотнасьць меней, у 48 % выпадкаў раўнялася і ў 10 % выпадкаў была болей. *Для пазему $A_2$* у 12 % выпадкаў меней, у 78 % выпадкаў аднолькавая і ў 10 % выпадкаў вышэй. в) *У вэртыкальным напрамку глебавага разрэзу тыпаў рамені найбольш кіслым быў падзолісты пазем. Уверх і ўніз ад яго pH звычайна падвышаецца.*

На балоце (у тыпах сумшары і мшары) кіслотнасьць торфу вельмі мала зьмяншаецца з глыбінёю. Глей, які падсьцілае тарфавікі, звычайна характарызуецца некалькі большым pH, чым суседні з ім пласт торфу. Найбольш кіслым у гэтым разрэзе зьяўляецца, як відаць, ніжэйшы пласт

паўраскладзенага вочасу. г) Спробы, узятыя пэрыядычна на працягу часу з 1/VI па 10/XI паказалі, што кіслотнасьць глебы ў раменных тыпах к зіме некалькі падвышаецца. На тарфавіку-жа зьмен, якія перавышаюць дакладнасьць дасьледваньня, ня было выяўлена.

Вызначэньні рН рабіліся пры дапамозе электрамэтрычнага з хінгідронным электродам ацыдымэтра сыстэмы Trenel'я і часткова пры дапамозе двукалінаватага колёрымэтрычнага компаратара сыстэмы Bjerrum-Arrhenius.

*14. Такія дасьледваньні і тымі-ж мэтадамі* зроблены на Вяляліцкім Лясным Дасьледчым Вучастку ў баравых і субаравых тыпах насаджэньняў кв. № 48 Вяляліцкай дачы. Тут кіслотнасьць дасьледвана для *125* пунктаў, пры чым узята *408* глебавых узораў і выканана *816 вызначэньняў pH.* Сабраны матар'ял дазваляе скласьці карту разьмеркаваньня кіслотнасьці ў 3 верхніх паземах глебы кв. № 48, вывучыць зьмену кіслотнасьці торфу з глыбінёю і прасачыць сувязь паміж ступеньню кіслотнасьці глебы і рэльефам, дрэвастанам, глебавым насьцілам.

*15)* Для вывучэньня рэжыму грунтовых вод пад насаджэньнямі тыпу яловых раменяў, сумшары і мшары на Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку па ранейшай праграме працягвалася штодзённае вымярэньне глыбіні ўзроўню грунтовых вод у *15* вадамерных калодзежах аснаўнога ланцуга (работа № 12 разьдзелу А справаздачы за 1926/27 г., II том, стар. 288), у *9* дадатковых калодзежах таго-ж ланцуга для вывучэньня рэжыму верхаводкі і *праз тры дні ў 16 калодзежах ланцуга № 2, закладзенага на торфавым балоце.*

*14/VII—1928 г.* зьмерана ва ўсіх калодзежах аснаўнога ланцуга глыбіня заіленьня труб. Заіленьне ў розных трубах хісталася ад 0,5 м. (труба № 6) да 0,18 м. (труба № 13).

*16) Праз кожные 10 дзён* мералася тэмпэратура вады ў вадамерных калодзежах.

*17)* На Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку ўзровень грунтовых вод мераўся праз кожныя 5 сутак на працягу ўсяго году ў 27 вадамерных трубах, а ў адной. на мэтэаралягічнай станцыі, штодзённа.

*18)* Для вывучэньня рэжыму і магутнасьці сьнегавога насьцілу на Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку вяліся штодзённыя нагляданьні над *19* сьнегамернымі рэйкамі, на Вяляціцкім—над *12* і на Жорнаўскім над *4* рэйкамі. Шчытнасьць сьнегу вызначалася на Горацкім і Веляціцкім вучастках. Сьнегавы насьціл трымаўся ў Горацкай дачы на працягу 164 дзён, на сумежных палёх 155 дзён.

*19)* Вучот ападкаў, якія затрымліваюцца кронамі на Горацкім Лясным Дасьледчым Вучастку, працягваўся пры дапамозе трох дожджамераў (гл. работа № 18 разьдзелу А справаздачы для 1926/27 г., II том, стар. 291).

За ўвесь 1928 г. рэзультаты атрымаліся наступныя.

| №№ дажджамераў / месяцы | Колькасьць ападкаў ў міліметрах 1 | 2 | 3 | ў % % 1 | 2 | 3 | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | 16,5 | 10,4 | 7,4 | 100 | 63,0 | 45,0 | |
| II | 18,5 | 10,8 | 11,1 | 100 | 58,0 | 60,0 | |
| III | 8,8 | 3,9 | 4,2 | 100 | 44,3 | 47,7 | |
| IV | 35,2 | 26,6 | 27,7 | 100 | 75,5 | 78,7 | |
| V | 80,6 | 23,4 | 50,7 | 100 | 29,0 | 62,9 | |
| VI | 86,7 | 34,3 | 42,1 | 100 | 39,5 | 48,5 | |
| VII | 82,2 | 15,9 | 41,5 | 100 | 19,3 | 50,5 | |
| VIII | 101,6 | 58,1 | 56,5 | 100 | 57,1 | 55,6 | |
| IX | 58,8 | 42,2 | 38,7 | 100 | 41,1 | 65,8 | |
| X | 39,9 | 23,7 | 23.8 | 100 | 59,4 | 59,6 | |
| XI | 65,7 | 30,4 | 39,6 | 100 | 46,3 | 60,3 | |
| XII | 43,6 | 41,3 | 39,5 | 100 | 94,7 | 90,5 | |
| Сума за год | 638,1 | 303,0 | 382,8 | 100 | 47,5 | 59,9 | |
| Сярэдняя за год | | 342,9 | | | 53,7 | | |

Такім чынам у 1928 г. пад полагам яловага блізкага к нармальнаму прысьпяваючага насаджэньня выпала ў сярэднім 342,9 мм. ападкаў або 53,7% ад ападкаў, якія выпалі за той-жа год упоруч на адкрытым месцы.

20) На працягу жніўня і верасьня 1928 г. на тэрыторыі Горацкага Лясного Дасьледчага Вучастку вяліся наглядамьні над параваньнем вады пад полагам лесу і звонку полага. *Дадзеныя паказалі, што пад полагам насаджэньняў выпарвалася вады амаль у 8—10 раз менш, чым на адкрытым прасторы ў малой адлегласьці.*

21) а) Вывучэньне абсяваньня суцэльных лесасек яловых дрэвастанаў *Горацкага Лясного Дасьледчага Вучастку* праводзілася пры дапамозе *26 нясеньнямераў*, з каторых 14 стаялі на месцах 1927 г. на лесасецы з напрамкам з N на S і з наступнымі сьценамі з W і O ў клетцы № 50 і 51 кварталу № 44, 6 насеньнямераў на лесасецы з напрамкам з N на S, па наступчай сьцяной лесу толькі з W (клетка № 15 кварталу № 45) і 6 насенамераў на лесасецы з напрамкам з W на O і наступнай сьцяною з N (клетка № 2 кв. № 45).

*б)* Вывучэньне абсяваньня пад полагам дрэвастанаў на тым-жа Горацкім Лясным Дасьледч. Вучастку вялося пры дапамозе 6 насеньнямераў у тыпе сьвежай рамені (клетка № 38 к. № 45) пад полагам дрэвастану складу 10 Е, Eg. Ac., паўнаты 0,9; 6 насеньнямераў (у клетцы № 51 к. № 44) пад палогом дрэвастану 8Е, 1 Кл, 1 Ас, Eg. Д., паўнаты 0, 5—0,6 і 6 насеньнямераў ў тыпу сумшары (клетка № 36 кв. № 45) пад палогам дрэвастану складу 8С, 2Б поўнаты 0,8.

*22)* Дасьледваньне абсяваньня ў баравых і субаравых тыпах рабілася на тэрыторыі Вяляціцкага Лясного Дасьледчага Вучастку пры дапамозе 59 насеньнямераў, з якіх 6 установулены былі ў саснова-яловым насаджэньні, 6—у сасновым з дамешкаю 0,2 елкі, 6—у чыстым сасновым насаджэньні, 6—таксама ў чыстым сасновым насаджэньні, 6—у тыпе мшара, 17—на лесасецы з двума наступнымі сьценамі куліс і 12 у кулісах.

*23)* Абсяваньне грудавых насаджэньн. дасьледвалася на Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку пры дапамозе 23 насеньнямераў і спэцыяльна абсяваньне адмен дубу летняга і дубу зімовага пры дапамозе 4 насеньнямераў і 24 пастаянных пляцовак.

*24)* Па ранейшай праграме вывучаліся фактары ветравалу і буралому на ўсёй тэрыторыі Горацкага Вучастку. Выключнае сілы ветравал і буралом наглядаўся 3 і 19 мая пры паўночна-ўсходнім ветры і 19 і 20 чэрвеня 1928 г. пры паўднёва-заходнім ветры.

## III. Вывучэньне тыпаў дрэвастанаў у лясох Беларусі.

*25)* Вывучэньне тыпаў дрэвастанаў працягвалася толькі стацыянарным шляхам у межах дасьледчых вучасткаў. Заканчэньне глебавага пляну Горацкай дачы і вывучэньне кіслотнасьці глебы ў гэтай дачы набліжаюць к заканчэньню працу, якая вялася за адсутнасьцю неабходных сродкаў вельмі памалу. Для болей дэталёвай лесаводнай і таксацыйнай характарыстыкі тыпаў увосень 1928 г. ў найбольш тыповых вучастках дрэвастанаў закладзены спробныя плошчы.

*26)* Стыцыянарнае вывучэньне баравых і субаравых тыпаў на тэрыторыі Вяляціцкага Лясного Дасьледчага Вучастку таксама пасунута наперад: зроблена гарызантальная і вертыкальная здымка вучастку, для кв. № 48 абсьледваны глебы і ўзяты ўзоры для аналізу і складаньня глебавага пляну, выкананы выдзелы дрэвастанаў, адведзены і часткова абмераны сталыя спробныя плошчы з падрабязным іх апісаньнем.

Экспэдыцыйнае вывучэньне тыпаў дрэвастанаў БССР не пачата і ў справаздачным годзе за скарачэньнем крэдытаў на спэцыяльныя для гэтага дасьледчыя партыі.

## IV. Дасьледваньне прыроднага аднаўленьня ў лясох БССР.

*27)* Зроблен чарговы вучот прыроднага падросту на 14 сталых дасьледчых пляцоўках пад полагам грудавога дрэвастанаў Жорнаўскага вучастку. Там жа закладзены 4 новых пляцоўкі.

*28)* На тэрыторыі таго-ж Жорнаўскага Вучастку зроблен чарговы пералік 32 спробных пляцовак на плошчы, пакінутай пад прыроднае зарастаньне лесам.

## V. Досьледы па догляду за дрэвастанамі.

*29)* Дапоўнена дасьледчая плошча к досьледу па прарэджваньню елкі, закладзенаму ў 1923 годзе ў клетках № 31 і № 32 кв. № 45 Горацкага Дасьледчага Вучастку.

*30)* Закладзены тут-жа новы досьлед на тую-ж тэму ўвосень 1928 г.

*31)* У сасновым дрэвастане Жорнаўскага вучастку закладзены палосы для розная інтэнсыўнасьці прарэджваньняў.

*32)* У Горацкім Дасьледчым Лясьніцтве зроблены прачысткі і прарэджваньні на плошчы да 60 гэктр. і падрыхтованы плошчы для далейшых вучотаў.

## VI. Дасьледчыя рубкі.

*33*) Выкананы чарговыя вырубкі і ўсе дасьледчыя пералікі па пастуловай рубцы, закладзенай на тэрыторыі Жорнаўскага вучастку (кв № 70) (праграма ў I томе стар. 89—91.)

*34*) Выкананы чарговыя рубкі і зроблены ўсе праграмныя дасьледваньні па рубцы Карнакоўскага ў квартале № 105 Жорнаўскае дачы Лапіцкага Лясьніцтва (праграма ў I томе стар. 91 - 93).

*35*) Рабіўся чарговы нагляд за дасьледчымі лесасекамі ў Горацкай дачы па досьледу з лесасекамі рознае шырыні і рознага напрамку, закладзенымі ў 1925/26 г.

*36*) Зьбіраўся матар'ял для закладаньня далейшых дасьледчых рубак у яловых, сасновых і дубовых лясох.

## VII. Працы ў лясным вэгетацыйным доміку.

*37*) Закончана праца на тэму—„Уплыў генэтычна розных паземаў падзолістай з адзнакамі збыткавага ўвільгаценьня глебы тыпу вільготнае рамені на разьвіцьцё *елкі, мадрыны, дубу, бярозы пушыстае і ліпы*". Увосень 2-летнія сеянцы вынуты з вэгетацыйных судзін і паступілі ў апрацоўку.

*38*) Пачаты той-жа досьлед з *ясенем, вязам, клёнам звычайным* (*востралістным*), *сасною і паўтораны з елкаю* ў 90 вэгет. судзінах.

*39*) Закончана леташняя праца са стымулянтамі.

*40*) Пачаты досьлед на тэму: „Уплыў вапнаваньня глебы вільготнае рамені на рост і разьвіцьцё елкі, ліпы, дубу, клёну звычайнага, ясеня звычайнага і вяза ў 180 судзінах. Градацыі вапнаваньня глебы пры дапамозе CaO ўзяты наступныя: 0%; 0.05%; 0,1%; 0,3%, 0,5%; 0,7%; 1,0%; 1,3%; 1,5%; і 2,0%.

*41*) Пастаўлены досьлед з вязам і мадрынаю для вырашэньню пытаньня, які уплыў робіць урадлівасьць глебы на сьвятлалюбнасьць дрэўнай пароды у 36 судзінах.

*42*) Выгадаваны матар'ял у 96 судзінах з 32 дрэўных відаў для дасьледваньня патрэбнасьці гэтых відаў у ступені вільготнасьці глебы.

Дадзеныя па скончанаму першаму досьледу ў гэты час лябараторна апрацоўваюцца асьпірантам І. І. Дзікоўскім. Папярэднія рэзультаты для бярозы можна бачыць наглядна на фотаздымку (глядзі на старонцы 19)

## VIII. Іншыя работы.

*43*) На ўсіх трох лясных дасьледчых вучастках вяліся мэтэаралягічныя нагляданьні, бо без сваіх мясцовых мэтэаралягічных нагляданьняў у лесе дасьледчыя лясныя вучасткі ня могуць рабіць і лесаводных досьледаў. На вучастках абсталёўваюцца мэтстанцыі спэцыяльнага назначэньня. На жаль да поўнага абсталяваньня яшчэ далёка.

## В.

## Па Аддзелу Лясных Культур і Лесамэліярацый.

### I. Досьледы і дасьледваньні ў Горацкім Лясным Дасьл. Гадавальніку

*1*) Працягнуты і пашыраны работы па вывучэньню ўплыву глыбіні пасеву насеньня елкі, сасны звычайнай, мадрыны сібірскай.

Гэтымі досьледамі заняты ўвесь квартал № 10.

2) Працягнуты досьлед па вывучэньню суадносін паміж % усходжасьці насеньня елкі і сасны ў апараце для прарасьліваньня і % усходаў, якія зьяўляюцца з гэтага-ж насеньня ў прыроднай абстаноўцы на насеннай градзе. Досьлед ні ў якім выпадку ня можа лічыцца скончаным. Але таму што для лесагаспадарчай практыкі нязвычайна важна ведаць, што яна робіць, калі высявае насеньне дрэннае ўсходжасьці, дык прыводзім рэзультаты досьледу 1928 году ў выглядзе наступнай папярэдняй, але вельмі нагляднай таблічкі:

| Від дрэва, насеньне, якога дасьледвалася<br>Вид дерева, семена которого исследовалися | % усходжасьці ў прарашчвацелі<br>% всхожести в проращивателе | % усходаў на градцы<br>% всходов на грядке | Увага<br>Примечание |
|---|---|---|---|
| Елка | 8 [1]) | 3 [2]) | 1. Ва ўсіх выпадках сярэдняя з 6 сотак. |
| | 20 | 3 | |
| | 28 | 7 | 2. Ва ўсіх выпадках сярэдняя з 10 сотак |
| | 39 | 11 | |
| | 51 | 30 | 3. Паніжэньне тлумачыцца выпадковымі шкодамі, нанесенымі вараб'ямі |
| | 60 | 50 | |
| | 69 | 55 | |
| | 80 | 60 | |
| | 89 | 52 [3]) | |
| | 95 | 77 | 1. Во всех случаях среднее из 6 сотен |
| Сасна | 20 | 16 | 2. Во всех случаях среднее из 10 сотен |
| | 29 | 25 | |
| | 38 | 36 | 3. Понижение об'ясняется случайным ущербом, нанесенным воробьями. |
| | 50 | 35 | |
| | 60 | 40 | |
| | 70 | 40 | |
| | 80 | 71 | |
| | 90 | 65 | |
| | 97 | 72 | |

3) Паўтораны досьлед пасеву елкі ў розныя тэрміны вэгетацыйнага пэрыяду (сярэдзіна кв. № 13) і зноў закладзены такі-ж досьлед з пасевам сасны (у паўночнай частцы кв. № 13). Тэрміны пасеву: 16/VI, 1/VII, 15/VII. 1/VIII, 15/VIII, 1/IX, 15/IX, 1/X і 15/X.

4) Закладзены досьлед уплыв перасадкі ў школу на розную глыбіню вышэй карнявое шыйкі сеянцаў елкі 1, 2 і 3-летняга ўзросту. Досьлед разьмешчаны на паўднёвай палавіне кв. № 2. Перасаджана 1745 сеянцаў.

5) Закладзены досьлед для высьвятленьня ўплыву featured часу на перасадку ў школу сеянцаў дубу, ясеня амэрыканскага, як з падрэзкай карэньня так і без падрэзкі. Досьледам заняты квартал № 1 гадавальніка.

6) Досьлед па высьвятленьню ўплыву часу падрэзкі карнявое сыстэмы ў сеянцаў дубу на градках на далейшы іх рост і разьвіцьцё (кв. № 7).

7) Закладзены ў паўднёва-ўсходнім куце кв. № 12 досьлед пасеву насеньня елкі рознае велічыні і рознае вагі.

8) З мэтаю вывучэньня дзеяньня лубіна, як сыдэрацыйнага ўгнаеньня, 9/VI—28 г. зроблен пасеў сіняга лубіну на ўсёй плошчы кв. № 11 і на заходняй палове кв. № 5. Адзіночныя ўсходы лубіна сталі зьяўляцца 20/VI-1928 г., масавыя—23/VI-1928. У поўным цьвеце лубін быў 12/IX-1928г., а 14/IX-1928 г. яго зааралі.

9) Зроблены некаторыя досьледы барацьбы са шкоднікамі: птушкамі, мышамі. Асабліва шкоднымі ў спраздачным годзе для гадавальніка былі гракі.




Від усходняй часткі Дасьледчага ляснога гадавальніку № 2 ЦДСБ (Сфатаграфавана ў верасьні 1928 г.)

## II. Дасьледваньні па вывучэньню збору і здабываньня насеньня.

*10*) Асыстэнтам К. Ф. Міронам вялася праца па выяўленьню найлепшых тэмпэратур пры здабываньні насеньня з шышак елкі з пашляхоўным вырашэньнем некаторых другіх пытаньняў лясного насеннаэнаўства.

## Ш. Закладаньне дасьледчых лясных культур.

*11*) У пэрыяд часу з 25 мая па 2 чэрвеня 1928 г. ў Горацкім Дасьледчым Лясьніцтве ў кварталах 26б і 30 на старой неадноўленай вырубцы тыпу вільготнае рамені закладзены досьлед па вывучэньню ўплыву прыёмаў вытворчасьці яловых культур на пасьпяховасьць штучнага аблясеньня і распачат досьлед вытвару пасеву ёлкі ў розны час вэгетацыйнага пэрыяду.

Агульны схэматычны плян месцапалажэньня вучастку дасьледчых культур 1928 году (рыс. № 1) і прыватны схэматычны плян разьмяшчэньня дасьледчых дзялянак на гэтым вучастку (рыс. № 2) прыводзяцца ніжэй.

Па першаму досьледу зроблена пасадка елкі: а) 1-летніх сеянцаў, 2-х і 3-х летніх саджанцаў у абернутую дзярну пляцкамі разьмерам 50×50 см. пры вышыні іх (дзярны з прылягаючай да яе част-

Черт. №1.




Черт. №2.




каю мінэральнага субстрату А, пазема) у 12—15 см., b) 2-х, 3-х і 5-ці летніх саджанцаў у неапрацованую глебу (цаліну) і c) 3-х летніх саджанцаў у цаліну на розную глыбіню вышэй карнявое шыйкі.

Пасадка сеянцаў, 2-х і 3-х летніх саджанцаў елкі рабілася пад меч Колесава і 5-ці летнія сабджанцы елкі пад лапату ў ямкі. Ва ўсіх выпадках на пляцок і пасадачнае месца высаджвалася па адным экзэмпляры, пасадачнага матар'ялу пры разьмяшчэньні 1×0,75 mtr.

Пасадачны матар'ял вырасьліваўся на Горацкім Дасьледчым Лясным Гадавальніку № 2 з насеньня елкі, сабранага ў Горацкім Дасьледчым Л-ве. №№ дасьледчых дзялянак, іх плошча, узрост і лік высаджанага пасадачнага матар'ялу, прыём падрыхтоўкі глебы на дасьледчых дзялянках прыводзяцца ў наступнай зводнай табліцы.

| №№ дасьледчых дзялянак | Плошча ў $m^2$ | Узрост пасадачнага матар'ялу ў гадох | Лік экзэмпляраў | Прыём падрыхтоўкі глебы |
|---|---|---|---|---|
| 75 | 1225 | 1 | 638 | пляцкамі |
| 76 | 1260 | 3 | 574 | пляцкамі |
| 77 | 1260 | 2 | 607 | пляцкамі |
| 78 | 360 | 3 | 245 | Цаліна (без падрыхтоўкі) |
| 79 | 300 | 5 | 262 | Ямкі па цаліне |
| 80 | 300 | 3 | 281 | Цаліна |
| 81 | 300 | 2 | 247 | Цаліна |

Па другому досьледу пасьля адначаснае падрыхтоўкі глебы 29—30/V 1928 г. неперарыўнымі падоўжнымі роўналежнымі паміж сабою насыпнымі палосамі шырынёю ў 30 см. і вышынёю ў 15—18 см. на адлегласьці палос друг ад другаў 1,25 mtr. пачынаючы з 2/VI праз кожныя 15 дзён, г. зн., 17/VI, 2/VII, 17/VII, 1/VIII, 16/VIII, 31/VIII, 15/IX і 1/X рабіўся пасеў аднаго і таго-ж насеньня елкі.




Агульны выгляд дасьледчае пасадкі елкі, зробленай ў абернутую дзярніну на дасьледчых дзялянках 75 і 76 (сфатаграф. 2-VI 1928 г.).

У кожны прыём пасеў робіцца на 3-х чарговых палосах усяго на працягу 300 паг. мэтраў і па дне адпаведна належачых ім выемак (за выключэньнем радоў 1, 2 і 3, дзе пасеў не рабіўся) таксама на працягу 300 паг. мэтраў.

Усяго ў дзевяць прыёмаў было засеяна 2700 паг. мэтраў палос і 2400 паг. м. дна належачых да іх выемак.

Як правіла, перад тэрміновымі пасевамі рабілася пухленьне палос і дна выемак граблямі, якімі таксама рабілася і засыпка насеньня пры пасевах. На 1 паг. мэтр палос і на 1 паг. мэтр дна выемак высявалася па 3 гр. насеньня елкі са ўсходжасьцю ў 75%. Насеньне сабрана ў дрэвастанах Горацкага Дасьледчага Л-ва.

Агульны схэматычны плян дасьледчае дзялянкі № 82 з нумэрацыяй пасеваў прыводзіцца на рысунку № 2 (стар. 11).




Агульны выгляд дасьледчае дзялянкі № 81 з пасевамі (сфатаграф. 2-VI 1928 г.)

*12*) Прадоўжан уход за культурамі елкі мінулых гадоў.

*13*) Зроблен уход, пералік і абмер дасьледчых пасадок 1925 г. у кв. кв. № 44 і № 45 Горацкай дачы і папраўлены культуры ў кв. № 51.

*14*) Вырашчваліся сеянцы хваі для культур на Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку.

*15*) Вясною 1928 закладзена на 1,00 гк. на Жорнаўскім вучастку Бабруйскай акругі дасьледчая культура па тыпу: граб—дуб—дуб—граб—ясень—ясень—граб—дуб—дуб—граб і г. д. Высажана 3000 дубкоў, 3000 ясеню, 3000 грабу. Разьмяшчэньне: 2 м. × 0,5 м.

*16*) Тады-ж і там-жа зроблена культура: 1 рад дубу, 1 рад ліпы і г. д. на плошчы 0,25 гк. Высажана: 980 дубкоў і 840 ліпы. Разьмяшчэньне: 2,0 м × 0,75 м.

## IV. Досьледы па лесаахове.

*17)* У 33 кв. Горацкага Дасьледчага Л-ва закладзен досьлед на тэму „Вывучэньне ўплыву пасьбы жывёлы на пасьпяховасьць прыроднага аднаўленьня елкі".




Для мэтаў досьледу, у паўднёвай частцы квартала, у яловай аднаго тыпу сьвежай рамені, прыблізна, у аднолькавых умовах месцавырастаньня, агарожаны дзьве аднаго ўзросту і аднолькавыя па месцапалажэньню і плошчыне аднаўленыя лесасекі агульнаю плошчаю ў 5 ha, з якіх у сваю чаргу разгарожана на пяць роўных паўгэктарных дзялян.

Схэматычны плян лесасек, узятых для дасьледчых мэтаў і разьмяшчэньне дасьледчых дзялянак на апошніх прыводзяцца на рысунку № 3.

З 20/VI па I/X 1928 г. на 3-х дзялянках першай дасьледчай лесасекі і роўналежна для паўторнасьці досьледу на 3-х дзялянках другое дасьледчае лесасекі рабілася дасьледчая пасьба сялянскай дарослай рагатай жывёлы па наступнаму разьмеркаваньню і разьліку ліку галоў на дзялянку і на плошчу лесасекі ў 1 ha:

| №№ дасьледчых л-к<br>№№ опытных л-к | №№ дасьледчых дзялянак<br>№№ опытных делянок | Лік галоў рагатае жывёлы на: Число голов рогатого скота на: Дзялянку Делянку | 1 ha | Увагі<br>Примечания |
|---|---|---|---|---|
| I | 2 | 1 | 2 | Пры разьмеркаваньні ліку рагатай жывёлы па дзялянках кіраваліся гаспадарчымі меркаваньнямі<br>При распределении числа рогатого скота по делянкам руководствовались хозяйственными соображениями |
| II | 4 | | | |
| I | 3 | 2 | 4 | |
| II | 5 | | | |
| I | 1 | 4 | 8 | |
| II | 3 | | | |
| I | 5 | — | — | Ахоўныя спробныя дзялянкі<br>Заповедные пробные делянки |
| II | 1 | | | |
| I | 4 | — | — | Выключаныя з досьледу па прычыне забалочанасьці<br>Исключенные из опыта по причине заболоченности |
| II | 2 | | | |

16—18/VI перад пачаткам і, 16—18/VIII, праз два месяцы пасьля пачатку дасьледчае пасьбы жывёлы, на ўсіх дзялянках абедзьвёх лесасек, выключаючы дзялянку № 4 на I лесасецы і дзялянку № 2 на II лесасецы, рабіліся: вучот прыроднага лесааднаўленьня і вывучэньне травянога пакрову,—апошняе па мэтадах Drude і Raunkiaer'а. Усяго закладзена 240 спробных вучотных пляцовак разьмерам у 1 кв. мэтр.

Па прычыне, што за першы год экспэрымэнту атрыманы толькі частковыя дадзеныя і што досьлед падлягае працягненьню, болей падрабязныя зьвесткі ў гэтай справаздачы ня прыводзяцца.

## C.

## Па аддзелу Лясное Таксацыі і Лесаўпарадкаваньня.

Па справаздачы Загадчыка Аддзелам Таксацыі і Лесаўпарадкаваньня праф. В. К. Захарава дзейнасьць Аддзелу складалася з наступнага: I) З працягу работ мінулага году па складаньню табліц аб'ёму, зьбегу і сартымэнтных для лясоў Беларусі, якія табліцы ў дадзены момант ужо складзены і надрукованы. Аб разьмерах гэтых прац гаворыць кніжка табліц у 298 старонак.

Ня маючы магчымасьці па тэхнічных прычынах асьвятліць тут усю тую працу, якая была праароблена ў мінулым годзе па складаньню гэтых табліц, прыходзіцца ўсё-ж упамянуць аб наступным.

Матар'ял, на аснове якога былі складзены табліцы, быў атрыманы поўнасьцю толькі ў першых чыслах студзеня 1928 г., дзякуючы таму, што ён у большай сваёй часьці быў сабраны лесаўпарадкавальнымі партыямі Лясногa Аддзелу НКЗ БССР. Пасьля атрыманьня гэтага матар'ялу і канчатковае яго апрацоўкі, якая складалася ў вылічэньні картачак мадэльных дрэў, 9 студзеня 1928 г. кіраўніком гэтае працы, Загадчыкам Лесатаксацыйным Аддзелам праф. В. К. Захаровым быў зроблен у Лясным Камітэце даклад на тэму аб дэталях мэтодыкі складаньня табліц. Гэты даклад пасьля падрабязнага і ўсебаковага абгаварэньня яго ў Лясным Камітэце і быў пакладзены ў аснову далейшай работы.

Усяго ў арудаваньні Лесатаксацыйнага Аддзелу для ўсіх парод было каля 6500 мадэльных картак дрэў, абмераных у лесе, але пасьля іх прагляду і праверкі з гэтае колькасьці магло быць скарыстана толькі 5566 штук.

Пры складаньні табліц быў ужыты камбінаваны мэтад: па разрадах вышынь і па пануючых каэфіцыентах формы ў межах разрадаў па вышыні.

Пры некатарых параўнаньнях выявілася, што ёсьць магчымасьць думаць, што ў рэзультаце ўжываньня новых табліц кубатура хваёвае гадовае лесасекі (якая складае прыблізна 2/3 гадовага водпуску з усяго ляснога фонду БССР) павялічыцца арыентыровачна для сасны на 18%, для елкі на 10%, а ў сярэднім на 15%. Апроч таго было зроблена параўнаньне зноў складзеных табліц з „Часовымі масавымі табліцамі". Рэзультаты прыводзяцца ў наступнай табліцы.

**Параўнаньне Беларускіх Масавых табліц з „Расейскімі Часовымі Масавымі Табліцамі“, лічачы дадзеныя па Расейскіэ Часовых Масавых Табліцах за 100%**

| Парода | Банітэты або разрады табліц | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Iа | I | II | III | IV | V |
| Сасна . | 137% | 130% | 117% | I р. ВМТ 106% | II р. 108% | III р. 123% |
| Елка . . | 122% | 117% | 108% | I р. 97% | II р. 107% | III р. 115% |
| Дуб . . | — | I р. МВТ 88% | II р. ВМ 94% | III р. 88% | IV р. 86% | — |
| Ясень . | — | I р. 98% | II р. 103% | III р. 106% | — | — |
| Вольха . | — | 120% | I р. 107% | II р. 108% | III р. 111% | — |
| Асіна . | 11 | 115% | I р. 102% | II р. 99% | III р. 98% | — |
| Бяроза . | 129% | 121% | I р. 103% | II р. 98% | III р. 90% | — |

Увага: У табліцах паказаны таксама і разрады „Расейскіх Часовых Масавых Табліц“ у графах тых банітэтаў, якім яны больш за ўсё адпавядаюць па сярэдніх дыямэтрах і вышынях.

*2)* Апроч гэтага Аддзелам вяліся работы на тэму: „Ход росту прысьпяваючых і сьпелых насаджэньняў Беларускіх лясоў“. У рэзультаце ня зусім апрацаваных дасьледваньняў на трох сталых спробных плошчах, закладзеных у Горацкай Лясной Дасьледчай Дачы былі зрублены *10* штук мадэльных дрэў для аналізу ствалоў.

*3)* Працягвалася апрацоўка матар'ялу па тэме: „Ход росту культур у Прылукскай Лясной Дачы.

## D.

## Па лесаэканамічнаму аддзелу,

Работы Лесаэканамічнага Аддзелу ў пачатку апэрацыйнага 1927/28 г. складаліся за збору матар'ялу для новых такс для лясоў Беларусі і ў распрацоўцы матар'ялу, сабранага летам у 1927 г. на вучотных кварталах пры Горацкім і Вяляціцкім лясных дасьледчых вучастках. За адсутнасьцю сталага кіраўніка Аддзелу і галоўным чынам за адсутнасьцю пры Аддзеле другіх штатных навуковых працаўнікоў у пачатку-ж апэрацыйнага году гэтыя работы спыніліся.

Аддзел патрабуе рэарганізацыі і ўкамплектаваньня штатным пэрсаналам.

## E.

## Па лесатэхналягічнму аддзелу,

### I. Па хэмічнай лясной тэхналёгіі.

*1*) Зімою і вясною аддзелам распрацоўваўся ў лябараторыі матар'ял, сабраны летам 1927 году на Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку па падсочцы сасны.

*2*) Летам у 1928 годзе работы вяліся на Вяляціцкім вучастку *на трох падсочных спробных плошчах сасны, закладзеных у мінулым годзе* па ранейшай праграме і ранейшымі мэтадамі. *Выхад жывіцы на працягу другога году падсочкі даў большыя рэзультаты, чым у першым годзе.*

*3*) *У квартале № 59* Вяляціцкае дачы закладзены падсочкі для параўнаньня амэрыканскага і нямецкага спосабаў.

### II. Па мэханічнай лясной тэхналёгіі.

*4*) Дацэнтам Беларускай Акадэміі Сельскае Гаспадаркі М. Г. Сільніцкім працягвалася апрацоўка матар'ялу, здабытага ў лесе ў папярэднія годы, па тэмах, выкладзеных у папярэдніх справаздачах.

## F.

## .Па станцыі апрабаваньня лясного насеньня.

### I. Кантрольнае апрабаваньне насеньня, якое паступіла з лясьніцтваў Беларусі.

1) За час з 1/X-1927 па 1/X-1928 гаступіла *124* спробы насеньня. З іх *119* ад лясьніцтваў Беларусі, *5* ад лясьніцтваў суседняй Бранскай губэрніі, *1* ад лясьніцтва Смаленскай губ. Па пародах было: *82* спробы сасны, *36*—елкі і 2—дуба.

Лясьніцтва Беларусі, якія прыслалі спробы, разьмеркаваліся па акругах вельмі роўнамерна. Атрыманы спробы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| З Менскай | акругі | 6 | лясьніцтваў |
| „ Бабруйскай | „ | 6 | „ |
| „ Гомельскай | „ | 6 | „ |
| „ Мозырскай | „ | 6 | „ |
| „ Віцебскай | „ | 6 | „ |
| „ Полацкай | „ | 7 | „ |
| „ Аршанскай | „ | 8 | „ |
| „ Магілеўскай | „ | 10 | „ |

Усяго ад *55* лясьніцтваў, г. зн. прыблізна ад $^1/_3$—$^1/_4$ усіх лясьніцтваў БССР.

У справаздачным годзе атрымалася сярэдняя ўсходжасьць для насеньня сасны *70,37*%, а для насеньня елкі *63,05*%. У мінулым годзе сярэдняя ўсходжасьць для насеньня сасны была 62,8%.

Ваганьні ўсходжасьці для насеньня сасны наглядаліся ад 17,2% да





97,5% (у мінулым годзе—ад 6,8% да 91,3%) для елкі ад 8,21% да 95,3% (у мінулым годзе ад 15,7% да 86,2%.)

Як і ў мінулым годзе прыметна, што на поўдні Беларусі насеньне цяжэй, на поўначы лягчэй. Іменна, абсалютная вага (г. зн. вага 1000) насеньня сасны па акругах атрымалася ў сярэднім наступная:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гомельская | 6,56 гр. | Віцебская | 5,89 гр. |
| Мозырская | 6,34 „ | Полацкая | 5,67 „ |
| Бабруйская | 6,45 „ | | |

Бабруйская акруга дала некаторае перавышэньне над Мозырскою магчыма таму, што ў Бабруйскай акрузе ў некаторых лясьніцтвах практыкуецца адвейваньне насеньня.

## II. Спэцыяльныя навуковыя дасьледваньні станцыі апрабаваньня ляснога насеньня.

2) Зроблена чарговае дасьледваньне насеньня сасны і елкі, закладзенага ў 1925/26 годзе для хаваньня пры розных умовах.

3) Скончана дасьледваньне па вывучэньню ўплыву дыфузнага сьвятла рознай напружанасьці на прарастаньне насеньня Pinus Laricio, Pinus Banksiana, Larix sibirica, Betula verrucosa, Alnus incana, Caragana arborescens.

4) Працягнута праца па апрабаваньню прарасьліваньня насеньня, якое мачылі ў растворах стымулянтаў.

## III. Дапаможныя работы па апрабаваньню насеньня.

5) Дасьледваньне насеньня сасны звычайнай і елкі звычайнай сабранага летам 1927 году насенамерамі на Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку.

6) Тое-ж для такога-ж насеньня Жорнаўскага Вучастку.

7) Дасьледваны 32 спробы насеньня адмен елкі звычайнай для работы, якая праводзіцца Аддзелам Лесаведаньня, догляду і рубак.

8) Дасьледваны 72 спробы насеньня елкі звычайнай для работы, якая вядзецца Аддзелам Лясных Культур і Лесамэліарацый.

9) Дасьледвалася ўсе насеньне, якое зьбіралася і набывалася для высеву ў дасьледчым гадавальніку.

Асабовы склад навуковых працаўнікоў ЦЛДСБ ў справаздачным 1927—28 г. быў наступны:

1. Пры Аддзеле Лесазнаўства, Догляду і Рубак: загадчык Аддзелу праф. *С. П. Мельнік* (ён-жа і Дырэктар Станцыі), асыстэнт Аддзелу вуч. лесавод *З. Я. Манцэвіч*, асьпірант вуч. лесавод *А. І. Чарнянкоў*.

2. Пры Аддзеле Лясных культур і Лесамэліарацый: абавязкі Загадчыка Аддзелу выконваў Дырэктар Станцыі праф. *С. П. Мельнік*, асыстэнт Аддзелу вуч. Лесавод *К. Ф. Міран* і асьпірант *З. П. Закрэўскі*.

3. Пры Аддзеле Лясной Таксацыі і Лесаўпарадкаваньня: Загадчык Аддзелу праф. *В. К. Захараў*, асыстэнт Аддзелу вуч. лесавод *Ф. П. Міхневіч*.

4. Пры Аддзеле Лясной Эканоміі: пасада Загадчыка Аддзелу—вакансыя, асьпірант пры Аддзеле *Ф. І. Фамін*.

5. Пры Лесатэхналёгічным Аддзеле Загадчык Аддзелу праф. *В. В. Шкацелаў*, асьпіранты: вуч. лесавод *В. П. Сініцкі* і *А. Ф. Галавач*.

6. Пры Станцыі Спробы Ляснота Насеньня: Загадчык праф. *С. П. Мельнік*, асыстэнт вуч. лесавод *С. М. Бруеў*.

7. Пры Горацкім Лясным Дасьледчым вучастку: Загадчык Вучастку вуч. лесавод *Г. Г. Круглікаў*.

8. Пры Вяляціцкім Лясным Дасьледчым Вучастку: Загадчык Вучастку вуч. лесавод *М. Н. Лубяка*.

9. Пры Жорнаўскім Лясным Дасьледчым Вучастку: Загадчык Вучастку—вуч. лесавод *Н. М. Якаўлеў*, назіральнік вуч. лесавод *А. І Казакевіч*.

10. Пры Горацкім Дасьледчым Лясьніцтве: Лясьнічы—вуч. лесавод *Я. Я. Слука*, памочнікі: вуч. лесавод *К. І. Дзікоўскі* і вуч. лесавод *А. Ф. Шаўчук*.

*Загадчык Аддзелу Л. Г. БНДІ і Дырэктар*

*ЦЛДСБ* **Праф. С. П. Мельнік.**

I—1929




Уплыў генэтычна розных гарызонтаў падзолавай глебы тыпу вільготнай рамені на рост бярозы пушыстай. 2-х гадовыя сеянцы.

Влияние генетически разных горизонтов подзолистой почвы типа влажной рамени на рост березы пушистой. 2-х летние сеянцы.

Der Einfluss der genetischen Schichten von podsolierten Boden auf dem Wuchse Betula pubescens Ehrh. Zweijährige Pflanzen.

# Научные работы по Центральной Лесной Опытной Станции Белоруссии в 1927-28 г.

(сокращенный текст)

Как и в предыдущем году деятельность Отдела Лесного Хозяйства Белорусского Научно-Исследовательского Института Сельского и Лесного Хозяйства имени Ленина состояла: 1) из научно-исследовательских работ Центральной Лесной Опытной Станции Белоруссии, 2) из работ по подготовке аспирантов, 3) специальных работ по поручению НКЗ БССР и 4) консультаций по вопросам лесоводства и лесного хозяйства.

Аспирантов в 1927-28 году было 5: А. И. Черненков, Ф. И. Фомин, В. П. Синицкий, А. Ф. Головач, Д. Ф. Закревский.

*А. И. Черненков* работал при Отделе Лесоведения, ухода и рубок под руководством проф. *С. П. Мельника*. Кроме програмной подготовки по лесной литературе, иностранным языкам и общественным наукам он выполнял под руководством первую самостоятельную научно-исследовательскую работу в вегетационным домике на тему „влияние известкования почвы типа свежей рамени на рост ели обыкновенной, дуба черешчатого, липы мелколистной, клена остролистного, ясеня обыкновенного и вяза“ и небольшую вторую работу на тему— „сравнительные фенологические наблюдения над некоторыми видами древесной растительности взрослого и молодого возраста“. Принимал также участие в работах Станции по лесо-фенологическим наблюдениям и в руководстве наблюдениями над семеномерами.

Аспирант *Ф. И. Фомин* заканчивал свою дипломную работу, после защиты несколько месяцев занимался подготовкой и разработкой пробных площадей, а в конце апреля 1928 г. откомандирован для занятий при Ленинградском Лесном Институте. Аспирантом числится при Отделе Лесной Экономии.

Аспирант *В. П. Синицкий* работал при Лесо-техническом Отделе Станции по лесной химической технологии под руководством професора *В. В. Шкателова*. Кроме обычной аспирантской подготовки совместно с доцентом К. Н. Коротковым выполнил и напечатал экспериментальную лабораторную работу, а в течении всего летнего сезона вел работы по подсочке сосны на опытных площадях при Велятичском Лесном Опытном участке.

Аспирант *А. Ф. Головач* подготовляется по механической секции Лесотехнического Отдела и для этой цели был откомандирован в Ленинград, где проходит курс механического отделения Лесотехнологического факультета при Лесном Институте. Участие в работах ЦЛОСБ не принимал.

Аспирант *Д. Ф. Закревский* готовится по лесной энтомологии. На весь год был откомандирован в Ленинград для занятий по энтомологии при Энтомологическом Техникуме. Осенью 1928 г при лесфаке БГАСХ защитил дипломную работу и получил звание ученого лесовода.

Из работ по поручению НКЗ БССР Центральная Лесная Опытная Станция Белоруссии по Таксационно-Лесоустроительному Отделу в 1927

и 1928 г. закончила работу по составлению „Таблиц об'ема, сбега и сортиментных для сосны, ели, дуба, ясеня, ольхи, осины, березы и граба". Таблицы составлены на основании обработки 5566 модельных деревьев, взятых в лесах Белорусии и изданы на деньги, отпущенные Наркомземом в виде книги в 298+XXII страниц.

Консультационная деятельность все разрастается. В отчетном году в этого рода работе принимали известное участие все отделы лесной опытной Станции. Научные работники принимали участие своими статьями в специальных журналах, издающихся в Белоруссии. В частности следует отметить что в 1927-28 г. впервые начали печатать статьи, как в специальных журналах, так и в Трудах Института молодые научные работники Отдела Лесного Хозяйства. Дружное и удачное начало участия их в этом является, полагаю, хорошим свидетельством того, что молодые научные работники зреют и что курс руководства ими взят правильно.

Научно-Исследовательские работы велись по программе, утвержденой для 1927-28 г. и напечатанной во II томе „Матар'ялаў па Лясной Дасьледчай Справе БССР" (VIII том „Працы БНДІ на стр. 1—6). По причине сокращения предварительно запроектированных кредитов часть работ, числящихся в программе, не выполнена. Полностью пришлось отложить работы по Слепянскому Лесному Опытному Участку, по Дубравному Опытному Участку, по экспедиционному исследованию типов насаждений в Белоруссии. Частично пришлось сократить выполнение тем и по некоторым другим разделам программы.

Перечень выполнявшихся научно-исследовательских работ по Центральной Лесной Опытной Станции Белоруссии в дальнейшем приводится по отделам Станции, а в пределах каждого отдела по группам работ, в которые темы сгрупированы были и в пятилетнем переспективном плане, и в отчетах за предыдущие годы.

## А.

## По отделу лесоведения, ухода и рубок.

### I. Работы по изучению дендрологии и биологии древесных видов Белорусии.

1) Экскурсионным путем собирался материал о границах естественного распространения некоторых древесных видов БССР.

2) Лесоводственно-фенологические наблюдения велись в Горецком Дендрологическом Саду над 113 экземплярами 103 видов деревьев и кустарников, на Жорновском Лесном Опытном Участке на 91 экземплярах 74 видов. Впервые в 1928 г. организованы лесоводственно-фенологические наблюдения на Горецком Лесном Опытном Участке, где велись над 26 экземплярами 21 вида. На Велятичском Лесном Опытном Участке те же наблюдения велись над 50 экземплярами 37 видов.

3) Изучение цветосемянных рас сосны обыкновенной (Pinus silvestris L). Восьмого марта 1928 г. произведен сбор шишек с 24 деревьев, которые занумерованы постоянными нумерами и с которых ежегодно, начиная с 1923 г., собираются семена. Из шишек добыты семена, семена исследованы и весною высеяны в грядки № 4 и № 5 квартала № 19 лесного опытного питомника в Горках.

4) Изучение формационных рас сосны обыкновенной. Семена, до-

# Праграма дасьледваньня тыпаў дрэвастанаў у лясох БССР

## I. Задачы лесатыпалягічнай экспэдыцыі і арганізацыя партый.

1. Асноўным і канцовым заданьнем лесатыпалягічнай экспэдыцыі зьяўляецца ўстанаўленьне тыпаў дрэвастанаў у лясох Беларусі, складаньне клясыфікацыі гэтых тыпаў; выяўленьне генэтычнае сувязі друг з другам і выпрацоўка такое дыягностыкі кожнага тыпу, якую маглі-б скарыстаць лесаводы-вытворнікі.

2. Сваю работу экспэдыцыя выконвае праз лесатыпалёгічныя партыі. Задача партыі: 1) сабраць па пэўнай праграме матар'ял, неабходны для вывучэньня лясоў Беларусі ў тыпалёгічных адносінах і 2) зьвесьці гэты матар'ял у такі выгляд, каб ён быў зручным для агульнае апрацоўкі, а таксама ўдзел у апошняй.

3. Аб'ём працы і частата месц дасьледваньня вызначаецца адпушчанымі сродкамі. У адпаведнасьці з гэтым, летам 1928 году арганізаваны 2 партыі: паўночная і паўднёвая. Паўночная—сваю працу пачынае ў Віцебскай акрузе, паўднёвая—ў Мазырскай. Кожная партыя складаецца з асыстэнта—начальніка партыі і аднаго альбо двох памочнікаў таксатара. У межах адпушчаных крэдытаў начальнік партыі можа запрашаць дадаткова часовых: практыканта, лічыльніка, перапішчыка, гэрбарызатара і г. д.

4. Унутраны распарадак прац у партыі вызначаецца правіламі, якія ўстанавіліся на ЦЛДСБ, а ў паасобных выпадках указаньнямі кіраўніка ўсяе экспэдыцыі.

## II. Парадак вывучэньня дач.

1. Праца экспэдыцыі папярэдне разьлічана на працяжнасьць у 2 гады на збор матар'ялу ўлетку і апрацоўку яго зімою і каля 1 году на вытварэньне канчатковае зводнае апрацоўкі.

Таму што дэталёвым вывучэньнем усе дачы БССР абыйсьці нельга, а часам у гэтым і няма нэабходнасьці, дык кожная партыя ў сваей працы прытрымліваецца наступнага парадку: працы пачынаецца з найбольш характэрнай і найбольш уцалеўшай дачы, намечанай нарадаю Аддзелу Лесазнаўства ЦЛДСБ на аснове папярэдне сабраных матар'ялаў. Гэта дача вывучаецца дэталёва.

Кальцо прылягаючых дач і лясьніцтваў прапушчаецца за выключэньнем выключна важных і цікавых у тыпалёгічных адносінах дач. Наступнае кальцо вывучаецца рэкагнасцыровачна. Зусім аналёгічныя з ужо вывучанымі тыпы прапушчаюцца, зьвяотаецца падвойная увага толькі на адмены тыпаў у параўнаньні з ужо вывучанымі.

Працуючы такім чынам, паўночная партыя пасоўваецца маршрутам на поўдзень і на захад, а паўднёвая—на ўсход і поўнач.

Дайшоўшы да дач з акрэсьлена іншымі тыпамі або з рэзка выяўленымі адменамі тыпаў, партыя зноў выбірае характэрную дачу і вывучае яе дэталёва. Пры выборы дачы для дэталёвага вывучэньня зьвяртаецца ўвага на тое, каб 1) дрэвастаны дачы былі характэрнымі для вакольнага лесарасьліннага раёну, 2) каб насьцільныя пароды дачы таксама былі характэрнымі для таго-ж вакольнага раёну.

Тэмп работы павінен быць гэткім, каб у канцы другога году абедзьве партыі, у крайнім выпадку пры некаторай дапамозе трэцяй партыі, самкнуліся прыблізна у цэнтры Беларусі.

## III. Праграма дэталёвага вывучэньня дачы

1. Азнаямленьне з мінулым дачы, з сучаснай гаспадаркаю ў дачы, з лесаўпарадкавальнай справаздачаю. Дадзеныя аб гаспадарках у дачы, аб разьмеркаваньні дрэвастанаў (табліца клясаў узросту, банітэтаў, дабротнасьцяй), таксама другія характэрныя дадзеныя для дрэвастанаў і гаспадарак упісваюцца начальнікам партыі ў сваю справаздачу па дачы.

2. Рэкагнасцыровачнае вывучэньне дачы ў натуры. Параўнаньне рэзультатаў гэтага вывучэньня з плянам лесадрэвастанаў.

3. Сьпіс відаў дрэўнай і куставой расьліннасьці ў дачы. Рыхтаваньне схэмы пляну дачы (праца пам. таксатара).

4. Апісаньне дачы ў араграфічных і гідраграфічных адносінах (па 3-вёрстнай мапе і па рэзультатах рэкагнасцыроўкі).

5. Насьцільныя пароды і геалёгія дачы, пераважна на аснове літаратурных дадзеных.

6. Вывучэньне і апісаньне рэльефу дачы. Тыповыя формы рэльефу і пануючыя формы рэльефу.

7. Вывучэньне глеб дачы пры дапамозе глебавай трысьціны або прыкопак. (Можна гэта зрабіць пры рэкагнасцыровачным абсьледваньні дачы і азнаямленьні з яе дрэвастанамі. Ямы і маналіты бяруцца пазьней).

8. На аснове вышэйпаказанага папярэдняга вывучэньня дачы і на аснове апошняга пляну лесадрэвастанаў робіцца папярэдняя разьбіўка дачы на групы тыпаў (сямействы) і на папярэдне ўстаноўленыя тыпы.

9. У межах найбольшых плошчаў распаўсюджаньня і найбольш характэрных месц для кожнага тыпу выбіраюцца месцы для закладаньня спробных плошчаў з мэтаю дэталёвага (аналітычнага) вывучэньня кожнага тыпу. Аснаўною прытрымкаю пры выбары вучастку для спробных плошчаў павінен быць дрэвастой, калі ён не псаваны, не бязладны, калі ён бязумоўна захаваўся ў натуральным выглядзе. Столькі ж захаванымі, натуральнымі павінны быць і глебавы насьціл, і падлесак, і падрост, калі апошні наогул ёсьць. Звычайна ў такіх выпадках з пераходам да іншага тыпу дрэвастану пэўным чынам зьмяняецца і глеба, і рэльеф, і насьціл. У рэзка бязладных дрэвастанах і ў часовых тыпах прыходзіцца карыстацца больш глебавымі умовамі.

10. Выбіраецца месца і адводзіцца спробная плошча па кожнаму тыпу. Гэта найбольш адказная частка працы. Спробная плошча павінна быць бязумоўна характэрнай для лесу дадзенага тыпу ва ўсіх адносінах.

Дрэвастаны для спробных плошчаў павінны выбірацца сярэднеўзростныя або прысьпяваючыя, з лепшымі паўнотамі, па магчымасьці ў цэнтры характэрнага для тыпу вучастку, па магчымасьці з непарушаным глебавым насьцілам і па магчымасьці з нячэпаным дрэвастоем, г. зн. зна-

чыцца такія месцы дрэвастану, якія ўяўлялі-б сабою „*замкнёнае*“ расьліннае згуртаваньне.

Велічыня спробнае плошчы $^1/_2$ гэктара пры харошых не бяэладных дрэвастанах.

Калі ёсьць удалыя спробныя плошчы, узятыя нядаўна пры лесаўпарадкаваньні, дык можна пакарыстацца імі для вылічэньня таксацыйных элемэнтаў. Усе-ж іншыя элемэнты па спробных плошчах здабываюцца самою партыяй (насьціл, падрост, глеба ды інш.).

Для найбольш важных тыпаў паўторнасьць у спробных плошчах павінна быць 3—6. Для малацікавых тыпаў можна браць адзінарную або падвойную паўторнасьць.

11. Вывучэньне спробнае плошчы (аналіз):

а) *Глеба.* Апісаньне разрэзу. Гарызонт ускіпаньня. Гарызонт рэакцыі на закіснае жалеза. Узровень грунтовых вод. Браньне моналіту. Браньне ўзораў для аналізу. Водныя ўласьцівасьці глебы і водны рэжым.

б) *Мёртвы глебавы насьціл.* Характар. Магутнасьць. Шчытнасьць. Склад на вока Ступень раскладаньня. Удзел грыбных гіфаў.

в) *Наглебавы ярус*: махі, лішайнікі. Відавы склад, мноства, ступень пакрыцьця (на вока); высота слою, шчытнасьць слою.

г) *Глебавы насьціл* (травы, дробныя ягаднікі, высокія махі, калі апошнія носяць характар не наглебавага, а глебавага насьцілу). *Поўны сьпіс відаў. Мноства* па Drude (да 7 балаў Drude дабавіць 8-ы бал „un“— выключна рэдка).

*Сустракальнасьць або разьмеркаваньне* па мэтаду Raunkiaer'a (для галоўнейшых відаў у галоўнейшых тыпах).

*Яруснасьць.*

*З сынтэтычных адзнак* варта вызначыць толькі сталасьць (константнасьць) відаў для кожнага тыпу па Braun-Blanquet.

д) *Падрост.* Вывучэньне прыроднага аднаўленьня робіцца ў дэталёвы дасьледваемай дачы пад полагам дрэвастану па асобнай праграме. Тут жа характарызуецца падрост толькі для пэўнае спробнае плошчы, г. ё. для пэўнае поўнаты і пэўнага ўзросту дрэвастану. Улічваюцца асобна: усходы (1-леткі), падрост (1 > летняга ўзросту), разьмеркаваньне іх па складу, узросту, вышыні, стану (дабранадзейны, недабранадзейны) па здароўю (здаровыя, пэдазроныя, хворыя). Да хворых належаць і паломаныя. Важна высьвятліць узрост, пасьля якога падрост пераходзіць з дабранадзейнага ў недабранадзейны. Разьмеркаваньне усходаў і падросту вызначаецца па мэтаду Raunkiaer'a.

е) *Падлесак.* Склад. Мноства. Насенны або парасткавы. Гушчыня.

ж) *Апісаньне дрэвастану па ярусах.* Па падрабязных фармулярах поўнага таксацыйнага іх пераліку і абмеру: склад, паўната, банітэт, дабротнасьць, узрост, вышыня ў м., сярэдні дыямэтр у см., лік ствалоў на 1 гк., сума плошчаў сячэньня ў кв. м, запас на 1 гк. у куб. м., сярэдні прырост (абсалютны і ў %), бягучы прырост(абсалютны і ў %), разьмеркаваньне па клясах Крафта (апошняе, пры высьвятленьне затрачваемага часу, мажліва скарацiць). Формула дрэвастану па Крудэнэру для дрэвастану ў 100 год і ва ўзросьце ўзятых спробных плошчаў. Для вызначэньня запасу і другіх элемэнтаў дрэвастою, вылічэньне спробных плошчэў робіцца прасьцейшым мэтадам. Можна мэтадам Робэрта Гартыга.

12. Гэрбары травяное і махавое флёры зьбіраецца агульны для ўсіх тыпаў дачы ў інтарэсах патаненьня працы, хаця, як відаць з раней паказанага, глебавы і наглебавы насьціл улічваюцца і вывучаюцца па кож-

най спробнай плошчы асобна. Тыя віды, якія не паддаюцца вызначэньню, абазначаюцца асобаю нумарацыяй і зьбіраюцца ў асобны гэрбары.

13 Зводка матар'ялу і сынтэтычная апрацоўка яго на месцы, у лясьніцтве, робіцца толькі ў такой меры, каб увесь матар'ял быў надзейным чынам замацаваны.

14. Складаецца карта тыпаў дрэвастанаў дачы.

15. Абсьледваньне і апісаньне кожнага тыпу ў другіх узростах (у юным, у болей маладым і болей старым, чым дрэвастан на ўзятых спробных плошчах). Стан лесасекі пасьля суцэльнае вырубкі дасьледваецца рэкагнасцыровачна і падрабязна апісваецца.

16 Лесааднаўленьне ў сьпелых або прысьпяваючых дрэвастанах пры розных паўнотах. Лесааднаўленьне на лесасеках (спробныя пляцкі без разьбіўкі іх на клеткі).

17. Распаўсюджанасьць кожнага з тыпаў у вывучанай дачы, у навакольным масыве і генэтычная сувязь паміж тыпамі.

18. Папярэднія меркаваньні аб гаспадарках у тыпах (карыстаньне рубкі, аднаўленьне) і аб аб'яднаньні тыпаў з гаспадарчымі мэтамі.

## IV. Тыпалягічная номэнклятура.

1. Па прычыне, што ў навуковай літаратуры яшчэ няма агульнапрызнанае тыпалягічнае номэнклятуры (тыпы дрэвастанаў, тыпы вучасткаў лясных плошчаў, тыпы лесу, лясныя тыпы) і няма яшчэ ўсюды ўжывальных і агульнапрызнаных прынцыпаў клясыфікацыі тыпаў, а ёсьць толькі канкрэтныя апісаньні тыпаў пэўных дач, пэўных масываў і раёнаў і выкладаньні прынцыпаў, прапанованых асобнымі аўтарамі, то ў працы нашае экспэдыцыі нельга загадзя прыняць поўнасьцю той або іншы ўзор клясыфікацыі і номенклятуры. Неабходна скарыстаць усе раней выкананыя тыпалягічныя працы, але свае дасьледваньне весьці зусім па-за ўсякімі гатовымі клясыфікацыямі. Стварэньне клясыфікацыі або далучэньне да аднае з існуючых павінен аб'ектыўна вырашыць толькі намножаны экспэдыцыяй матар'ял.

Да такое прадпасылкі нас штурхае і тое, што спэцыяльнаму тыпалягічнаму вывучэньню у шырокім маштабе лясы Беларусі падлягаюць упяршыню.

Варта мець на ўвазе, што і па сутнасьці дакладнае апісаньне тыпаў можна даць (і даецца звычайна) толькі ўсяго для абмежаваных прастораю лесарасьлінных раёнаў (кліматычных).

2. За аснову, як рабочую клясыфікацыю, варта прыняць разьмеркаваньне дрэвастанаў (у згодзе з Марозавым, Крудэнэрам, Аляксеявым і др.) у залежнасьці ад глебава-грунтовых умоў (бо мы працуем у межах прыблізна аднае кліматычнае вобласьці) і іменна ад двух аснаўных фактараў глебава-грунтовых умоў: а) пэтраграфічнага складу почвы, які вызначае яе багацьце і ўрадлівасьць і в) воднага рэжыму глебы, які вызначае сабою і паветравы рэжым і ступень аптымальнасьці воднага жыўленьня расьлін.

3. У схэме ў межах Беларусі мы сустракаем наступныя градацыі глеб па мінэральнаму складу, па багацьці, па вільготнасьці, а значыцца і наступныя сямейства і тыпы дрэвастанаў:

| Багацьце глебы / Ступень увільгаценьня і харак. водн. рэжым / сямействы. | Бедныя. Пяскі. | Слаба-багатыя. Супясі. | Сярэдне-багатыя. Супясі. | Багатыя. Суглінкі. | Вельмі багатыя. Суглінкі і гліны. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Бары | Субары | Суградкі | Груды | Рамені |
| Сухія 1 . . . . . . . . | $A_1$ | $B_1$ | $C_1$ | $D_1$ | — |
| Сьвежыя 2 . . . . . . | $A_2$ | $B_2$ | $C_2$ | $D_2$ | $E_2$ |
| Вільготныя 3 . . . . . | $A_3$ | $B_3$ | $C_3$ | $D_3$ | $E_3$ |
| Сырыя 4 . . . . . . . | $A_4$ | $B_4$ | $C_4$ | $D_4$ | $E_4$ |
| Сумшары . . . . . . . | $A_5$ | $B_5$ | $C_5$ | $D_5$ | $E_5$ |
| Мшары . . . . . . . . | $A_6$ | $B_6$ | $C_6$ | $D_6$ | $E_6$ |
| Алёсы . . . . . . . . | $A_7$ | $B_7$ | $C_7$ | $D_7$ | $E_7$ |
| Лог . . . . . . . . . . | $A_8$ | $B_8$ | $C_8$ | $D_8$ | $E_8$ |
| Пойма . . . . . . . . | $A_9$ | $B_9$ | $C_9$ | $D_9$ | $E_9$ |
| Балота мохавае . . . . | $A_{10}$ | $B_{10}$ | $C_{10}$ | $D_{10}$ | $E_{10}$ |
| Балота травяное . . . | $A_{11}$ | $B_{11}$ | $C_{11}$ | $D_{11}$ | $E_{11}$ |

Дрэвастаны, якія могуць спаткацца на двайных субстратах або разьмяркоўваюцца па паказаных сямействах, або для іх прыдзецца стварыць асобыя сямействы.

4. Пры правізорным вызначэньні тыпу да асноўное, прынятае тут назвы, варта прыбаўляць у скобках і назвы па іншых номенклятурах: па Крудэнэру (поўная яго назва, або другая яго назва), па Аляксееву, па Агафонаву для Бранскіх лясоў, па Сукачову для Бранскіх лясоў, па Паграбняку і Вараб'ёву для лясоў Украіны, па Высоцкаму для грудоў, па Сукачову і яго флёрыстычнай клясыфікацыі, калі, канечна, дадзены наш тып зусім ідэнтычны з адпаведным тыпам указаных аўтараў.

Апроч таго абавязкова даецца яшчэ лацінская радавая і відавая назва тыпу, як расьліннага згуртаваньня, на аснове здабытага партыяй у лесе матар'ялу.

5. Разьлічаць тыпы „аснаўныя“ (або карэнныя) і „часовыя“, а таксама „комплексы тыпаў“.

## V. Вывучэньне кліматычных фактараў росту.

1. Кліматычная характарыстыка ў дачы не вывучаецца, а распрацоўваецца шляхам вывядзеньня сярэдніх па важнейшых мэтэаралягічных элемэнтах на аснове зводак, што ёсьць на Беларусі (праца зімовая).

**Праф. С. П. Мельнік.**

IV—1929.
Горкі.

# Інструкцыя для закладаньня рубак догляду за дрэвастанамі аддзелам лесазнаўства, догляду і рубак Цэнтральнае Лясное Дасьледчае Станцыі Беларусі

## І. Агульныя палажэньні.

§ 1. Мэтаю закладаньня дасьледчых плошчаў з рубкамі догляду зьяўляецца: a) устанаўленьне магчымага разьмеру прамежнага карыстаньня па масе, b) устанаўленьне яго па сартымэнтах, c) вывучэньне ўплыву розных мэтадаў прамежнага карыстаньня і (догляду) і розных ступеняў прамежнага карыстаньня на далейшы рост дрэвастанаў пры розных умовах месцавырастаньня (тыпах, банітэтах) і d) як канцовая мэта: выпрацоўка найбольш рацыянальных у лесаводна-біялягічных, лесаводна-тэхнічных і лесаводна-эканамічных адносінах мэтадаў і ступеняў прамежнага карыстаньня для галоўных парод (сасны, саснова-яловых дрэвастанаў, ялова-сасновых, елкі, дубу, зьмешаных лісьцёвых, вольхі), а ў межах пароды для розных тыпаў (і банітэтаў) дрэвастанаў у лясох Беларусі.

§ 2. Для выкананьня вышэйпаказанае задачы дасьледчыя плошчы з рознымі відамі, мэтадамі і ступенямі рубак догляду закладваюцца ў *тыповых дрэвастанах* у выглядзе *сталых спробных* плошчаў паперш за ўсё ў межах кожнага дасьледчага вучастку Цэнтральнай Лясной Дасьледчай станцыі Беларусі, затым у бліжэйшых да вучастку кварталах лясное дачы, далей у больш аддаленных кварталах і нарэшце,—пры немагчымасьці знайсьці падыходзячае месца ў межах таго лясьніцтва, якое служыць дасьледчым, або ў якім знаходзіцца дасьледчы вучастак (раённая дасьледчая станцыя з 1/X—29 г.)—у суседніх лясьніцтвах і лясных дачах, а ў крайнім выпадку і ў аддалёных.

§ 3. Праца выконваецца ў наступным парадку:

a) вывучаецца лясная дача. Выяўляюцца пануючыя ў дачы дрэвастаны па складу, тыпах, банітэтах. Устанаўліваюцца месцы з вышэйпаказанымі дрэвастанамі (па складу, тыпах, банітэтах), выяўляецца разьмеркаваньне іх па ўзростах і дабротнасьці.

b) Выяўленыя такім чынам тыповыя для дачы і падыходзячыя для закладаньня дасьледчых рубак догляду дрэвастаны наведваюцца для дэталёвага азнаямленьня з імі ў натуры і для выбару сярод іх месц для закладаньня дасьледчых плошчаў.

c) Пасьля такога папярэдняга намечаньня значнага ліку месц выбіраюцца ў натуры канчаткова найбольш удалыя для дасьледчай працы месцы. Апошнія абсьледваюцца больш старанна і больш дэталёва і пры здавальняючых выпадках на кожным з іх закладваецца пэўная сэрыя з пэўнай колькасьцю спробных плошчаў.

d) Велічыня спробнае плошчы 0,25 гэктара. У выключных выпадках меней або болей.

У адной і той-жа сэрыі спробныя плошчы з рознымі, напрыклад, ступенямі рубкі пажадана разьмяшчаць падрад. У крайнім выпадку з перарывамі, калі таго патрабуюць мясцовыя ўмовы.

Забясьпечныя палосы вакол сэрыі спробных плошчаў быць павінны.

У патрэбных выпадках забясьпечныя палосы адводзяцца і вакол спробнае плошчы.

e) Абмежаваньне спробных плошчаў і сэрый робіцца пры дапамозе кутамернага інструманту і сталёвае стужкі, і замацоўваецца моцнымі абугленымі ўнізе слупамі. Супроць кожнае спробнае плошчы ўстанаўліваецца пасьля сканчэньня галоўнейшых прац слуп з этыкетаю, на якой азначаецца № сэрыі і № спробнае плошчы, а таксама і від, мэтад, ступень рубкі, час рубкі.

f) Пасьля абмежаваньня і замацаваньня спробнае плошчы на ёй робіцца пералік і зьбіраюцца ўсе дадзеныя для складаньня апісаньня.

*Праграма зьвестак і апісаньні для спробнай плошчы для вытварэньня догляду:*

1. Лясьніцтва.
2. Дача.
3. Дата дасьледваньня і пераліку.
4. Квартал.
5. Вучастак.
6. Год зрубкі папярэдняга пакаленьня лесу, калі можна ўстанавіць. Год пасадкі або пасеву культур, калі культура.
7. Ці быў раней догляд? Калі быў, дык які і калі?
8. Ступень патраўленасьці і пашкоджанасьці жывёлаю.
9. Ступень папсаванасьці дрэвастану самавольнымі парубкамі.
10. Глеба. Апісаньне разрэзу. Гарызонт ускіпаньня. Гарызонт рэакцыі на закіслае жалеза. Узровень грунтовых вод. Браньне мо[illegible]ту. Браньне ўзораў для аналізу. Усё гэта вызначаецца і бярэцца не для кожнае спробнае плошчы, а для цэлае сэрыі плошчаў, калі яны разьмешчаны ў поруч або наогул не мяняюцца рэзка.
11. Мёртвы глебавы насьціл. Яго характар. Магутнасьць. Шчытнасьць. Склад на вока. Ступень раскладаньня. Удзел грыбных гіфаў.
12. Наглебавы насьціл: махі, лішайнікі. Відавы склад. Мноства, ступень пакрыцьця (на вока), вышыня слою, шчытнасьць слою.
13. Глебавы насьціл (травы, дробныя ягаднікі, высокія махі): поўны відавы сьпісак. Мноства па шкале Drude з дабаўленьнем 7-га балу (un):

Soc. (socialis) — дадзеная расьліна ўсьцяж сустракаецца. Утварае фон і наземныя часткі яго смыкаюцца.

Cop.[3] (copiosus)—дадзеная расьліна сустракаецца багата, ў вялікіх колькасьцях, але фону не дае, не дае і смыканьня наземных частак.

Cop.[2] (copiosus)—расьліна сустракаецца меней багата.

Cop.[1] (copiosus)—яшчэ меней багата.

Spars (sparsus)—расьліна сустракаецца ў невялікай колькасьці і яе ўдзел у складаньні насьцілу (або травастою) невялікі.

Sol. (solitarius) — расьліна сустракаецца ў вельмі малой колькасьці, адзіночна.

Un (unicus) — выключна адзіночна, напр., у адным экзэмпляры.

Увага: Сьпіс відаў насьцілу з азначэньнем мноства па Drude складаецца для кожнае спробнае плошчы. Гэрбары-ж зьбіраецца

і падрыхтоўваецца адзін агульны для сэрыі спробных плошчаў. Кожнага віду засушваецца 2 экзэмпляры Віды, якія цяжка паддаюцца вызначэньню і зусім не вызначаныя, павінны мець свой асобны №, апроч парадкавага, звычайным сьпісу і для такіх відаў, махоў і траў, зьбіраецца асобны гэрбары ў 4-х экзэмплярах.

14. Падрост. Для маладнякоў, прызначаных да прачысткі і прарэджваньняў падрост, калі ён ёсьць, характарызуецца на вока. Для дрэвастанаў, прызначаных да праходных рубак і рубак на сьвятловы прырост, падрост улічваецца, апісваецца падрабязьней.

15. Падлесак. Яго склад. Мноства. Насенны або парасткавы. Гушчыня. Вышыня.

16. Апісаньне дрэвастану.

Тып.
Склад.
Паўната.
Банітэт.
Дабротнасьць.
Узрост.

Сярэдняя вышыня ў м. (па ярусах і пародах).

Сярэдні дыямэтр у см. па ярусах і пародах (абмер ствалоў з дакладнасьцю да 2 см.).

Лік ствалоў (па ярусах і пародах).

Сума плошчаў сячэньня ствалоў (па пародах і ярусах у квадратных мэтрах).

Запас у куб. мэтрах (па пародах і ярусах).

Бягучы прырост у куб. мэтр.

Сярэдні прырост у куб. мэтр.

Увага: 1) Вылічэньне запасу і другіх таксацыйных элемэнтаў вызначаецца з браньнем патрэбнага ліку мадэляй;

2) Для зусім юных маладнякоў, канечна, вызначаюцца ня ўсе пералічаныя тут элемэнты, але лік ствалоў, вышыня і запас павінны быць вызначаны хаця-бы па малому спробнаму пляцку;

3) Да заканчэньня работ тыпалягічных партый у БССР пры азначэньні тыпу варта кіравацца намянклатураю схэмы, прыведзенай ў главе V „Праграма для дасьледваньня тыпаў дрэвастану ў лясох Беларусі“.

g) Наступнаю працаю будзе складаньне праекту ўборкі ствалоў на кожнай спробнай плошчы ў адпаведнасьці з выбраным відам, мэтадам і ступеньню рубкі догляду і станам дрэвастою.

Ва ўсіх выпадках у першую чаргу вырубаюцца дрэвы сухія, адміраючыя і хворыя.

h) Затым на спробнай плошчы адмячаюцца (крэйдаю або фарбаю) усе іншыя дрэвы, якія падлягаюць уборцы згодна патрабуемай схэмы. Робіцца праверка вылучэньня ствалоў адпаведнымі кіраўнікамі. Пры ўсёй гэтай працы зьвяртаецца асаблівая ўвага на дрэвы, прызначаныя к астаўленьню, на тое, якая ступень самкнутасьці (або разамкнутасьці) будзе ў полага пасьля вырубкі адмечаных дрэў, на тое, наскольki правільна аднесена дадзенае дрэва да тае або іншае клясы па прынятай клясыфікацыі.

i) Робіцца валка і ўборка дрэў, прызначаных да рубкі. Варта імкнуцца да таго, каб дрэвы, што пакідаюцца, не псаваліся. У патрэбных выпадках буйное сучча і верхавіны спускаюцца асобна да зрубкі ствала.

k) Вучот вырубленае часткі дрэвастану вядзецца па сартымэнтах, з вызначэньнем колькасьці па кожным з іх і ацэнкі па цяпер існуючых правілах.

Лік вынятых ствалоў, сума плошчаў сячэньня іх і аб'ём (у зьмешаных дрэвастанах па пародах) вызначаеца шляхам розьніцы пераліку на спробнай плошчы да вытварэньня догляду і непасрэдна пасьля вытварэньня догляду.

l) Увесь выбраны пры закладаньні спробных плошчаў матар'ял пасьля заканчэньня яго абмеру, вучоту і ацэнкі перадаецца прадстаўніку Лесзага ў лясьніцтве.

m) Застаўшаяся частка дрэвастану на спробнай плошчы ўлічваецца шляхам новага пераліку і абмеру дрэў. Вылічваюцца і фіскуюцца:

лік ствалоў (па пародах і па ступенях таўшчыні),

сярэдні дыямэтр,

сярэдняя вышыня,

сума плошчаў сячэньня ствалоў (агульная і па парадох), запас.

n) Па заканчэньні ўсіх вышэйпаказаных прац на месцы кожная сэрыя сталых спробных плошчаў абгароджваецца. Калі ў межах дасьледчага вучастку, дык больш лёгкаю агарожаю. Калі за межамі дасьледчага вучастку, дык агарожаю больш моцнай.

o) Адразу-жа пасьля заканчэньня прац у лесе па пэўнай сэрыі спробнае плошчы немарудна складаецца чыставая справаздача з дадаткам ісіх ведамасьцяй, рысункаў і інш.

§ 4. Па прынятай тэрміналёгіі ў СССР меры догляду за дрэвастанамі паддзяляюцца на:

a) прачысткі,

b) прарэджваньні,

c) праходныя рубкі,

d) рубкі на сьвятловы прырост,

e) уборка перастойных дрэў,

f) вырубка падлеску (і ўвядзеньне падлеску) у неабходных выпадках.

Паняцьці аб кожнай з гэтых мер у цяперашні час можна лічыць ужо ўстаноўленымі.

З нямецкаю номэнклятураю рубак догляду наша не супадае толькі ў тым, што ў немцаў прачысткі і прарэджваньні аб'ядноюцца адною мераю—Durchforstung.

§ 5. Нашы досьледы павінны быць закладзены ў першую чаргу па прарэджваньнях і прачыстках, у другую чаргу па праходных рубках. Іншых мер догляду мы пакуль што ня будзем рабіць.

§ 6. Прасьцей за ўсё прарэджваньні і праходныя рубкі закладваць у чыстых аднаўзростных дрэвастанах Складаней у зьмешаных, аднаўзростных. Яшчэ цяжэй у зьмешаных рознаўзростных.

Загэтым для набываньня навыку варта першую сэрыю спробнае плошчы залажыць у чыстым дрэвастане, а потым ужо перайсьці да больш складаных выпадкаў.

§ 7. У лясох Беларусі ў ранейшы час не вялося рубак догляду. Нам у пераважнай большасьці выпадкаў прыходзіцца весьці догляд за такімі дрэвастанамі, у якіх да гэтай пары рубак догляду ня было. Гэта, па-першае ускладняе працу ў тых адносінах, што выпрацаваныя ў Заходняй Эўропе схэмы і мэтады часам нельга вытрымаць поўнасьцю ў чыстым іх выглядзе; па-другое, вельмі часта пры прарэджваньнях прыходзіцца імкнуцца дасягнуць і мэт прачысткі і мэт прарэджваньня адначасова; па трэцяе вельмі часта прыдзецца лічыцца з вельмі спазьнелым доглядам

§ 8. Паўторнасьць досьледу пажадана прынамсі тройная.

§ 9. Як ужо гаварылася ў п. п. 2 і 3 м гэтае главы, у першую чаргу дасьледчыя плошчы закладваюцца ў найбольш распаўсюджаных тыпах і банітэтах. Пры магчымасьці выбраць месцы ў некалькіх тыпах (і банітэтах) варта па-перш за ўсё ахапіць досьледамі рэзка адрозныя па дрэвастою тыпы і банітэты.

## II. Клясыфікацыя дрэў у дрэвастане.

§ 10. Пры прарэджваньнях і праходных рубках карыстаюцца тою або іншаю клясыфікацыяй дрэў. Часьцей за ўсё клясыфікацыяй Крафта, але часта і іншымі.

Таму што ні ў адным падручніку на расейскай мове няма поўнае зводкі гэтых клясыфікацый, дык яны прыводзяцца тут у тым парадку, у якім яны храналягічна зьявіліся.

§ 11. Клясафікацыя па *Буркгардту* і *Зэебаху* (1847).

| 6 клясаў. | 5 клясаў. |
|---|---|
| 1. Найпануючыя. | I } пануючая частка дрэвастану. |
| 2. Пануючыя. | II |
| 3. Умерана пануючыя. | III |
| 4. Нязначна пануючыя. | IV } падначаленая. частка дрэвастану. |
| 5. З заценена ве<sub></sub>хавінаю. | V |
| 6. Прыгнечаныя і адміраючыя | |

§ 12. Клясыфікацыя *Котта* (1842 г.);

a) Пануючыя ствалы.

b) Затененыя (зьверху затенены пануючымі).

c) Прыгнечаныя (бяз росту ў вышыню, нават з адміраючай верхавінай)

d) Адміраючыя, сухія.

§ 13. Клясыфікацыя *Кеніга* (1854 г.).

A. Пануючыя ствалы:
- a) Найпануючыя,
- b) Супануючыя
- c) Падрастаючыя да пануючых.

B. Ствалы, адстаўшыя ў росьце:
- a) З затененаю верхавінаю.
- b) Прыгнечаныя.

§ 14. Першая клясыфікацыя Саюзу *Нямецкіх Лясных Дасьледчых Станцый (1873 г.).*

1. Пануючыя ствалы.
2. Адстаўшыя ствалы.
3. Прыгнечаныя ствалы (з затененаю верхавінаю).
4. Адміраючыя аба адмёршыя ствалы.

§ 15. Клясыфікацыя *Крафта* (1884 г.);

I Выключна пануючыя.

II. Пануючыя.

Ш. Супануючыя.

IV. Прыгнечаныя.

a) З каронаю, верхавіна якое яшчэ знаходзіцца паміж верхавінамі пануючых і супануючых дрэў, але карона сьціснута суседнімі дрэвамі;

b) з каронаю, моцна ўшчэмленаю, большаю часткаю аднабокаю і пры тым толькі верхняя частка кароны ўваходзіць у полаг, а ніжняя частка яе ўжо выціснута пад полаг, ўсім затенена і адмірае.

V. Зусім прыгнечаныя:
a) дрэвы з яшчэ жывою каронаю;
b) дрэвы з ужо адміраючай або адмершаю каронаю.

§ 16. Клясыфікацыя *Швэйцарскай Лясное Дасьлед. Станцыі* (*1888*).
1. Панyючыя ствалы.
2. Супанyючыя ствалы.
3. Зацененыя ствалы.
4. Прыгнечаныя ствалы.
5. Засохлыя або адміраючыя ствалы.

§ 17. *Дацкая* клясыфікацыя (1896 г.).
1. Галоўныя дрэвы, г. зн. такія, якім трэба спрыяць, дзякуючы іх простаствольнасьці і роўнамернаму разьвіцьцю кароны.
2. Шкодныя падпарадкаваныя дрэвы, г. зн. такія, якія шкодзяць захаваньню і разьвіцьцю карон галоўных дрэў. Загэтым яны падлягаюць зьнішчэньню.
3. Карысныя падпарадкаваныя дрэвы, г. зн. такія, якія спрыяюць ачышчэньню ад сучча галоўных дрэў і загэтым бязумоўна захоўваюцца (пры прарэджваньні).
4. Індыфэрэнтныя дрэвы, г. зн. такія, аб якіх пакуль што яшчэ невядома, ці будуць яны ў далейшым галоўнымі або падпарадкаванымі дрэвамі. Загэтым іх варта пры рубцы пашкадаваць. Пры адным з наступных паўтарэньняў прарэджваньня лёс іх выявіцца.

18. Клясыфікацыя *Heck'a* (1898г.). (пры яго „вольным прарэджван.)“
α) Простыя, харошыя, гонкія дзелавыя ствалы.
β) Звычайныя, кароткаствольныя дзелавыя ствалы.
γ) Крывыя, моцна сукаватыя ствалы.
δ) Падвойныя ствалы.
ε) Вельмі моцна разьвітыя ствалы (калі яны стаяць у клясах a і b, іх завуць „выскачкамі, што задаюцца“).
ζ) Ствалы вэгетатыўнага пахаджэньня.
η) Хворыя ствалы.

§ 19. Новая клясыфікацыя *Саюзу Нямецкіх Лясных Дасьледчых станцый* (1902 г.).

| | | |
|---|---|---|
| I. Панyючыя ствалы. (Сюды адносяцца ўсе тыя ствалы, якія прымаюць удзел у верхнім полагу карон). | 1. Дрэвы з нармальным разьвіцьцём карон і з добраю формаю ствала. | |
| | 2. Дрэвы з ненармальным разьвіцьцём карон або з дрэннаю формаю ствала. | a) Ушчэмленыя дрэвы.<br>b) Дрэвы дрэннае формы з прыгнечанага падросту.<br>c) Дрэвы, якія празмерна разрасьліся, з нізкаапушчанаю каронаю, асабліва з разьвілінамі.<br>d) Ахлістальнікі.<br>e) Усіх відаў хворыя дрэвы. |
| II. Падпарадкаваныя дрэвы. (Сюды належаць тыя ствалы, якія ня прымаюць удзелу ў верхнім полагу карон). | 3. Дрэвы, якія адсталі ў росьце, але яшчэ вольныя ад зацяненьня.<br>4. Дрэвы прыгнечаныя, з верхавінамі ўжо пад полагам, але яшчэ жыцьцяздольныя. | Маюць значэньне пры доглядзе за глебаю і дрэвастанам. |
| | 5. Дрэвы адміраючыя і адмёршыя. | Ня маюць ужо значэньня для догляду за глебаю і дрэвастанам. |

§ 20. *Швэдзкая* клясыфікацыя (1912 г.).

Усе дрэвы ў дадзеным дрэвастане падзяляюцца на 4 ярусы:

I ярус—дрэвы вышей $^5/_6$ пануючага полагу.

II ярус—дрэвы, вышыня якіх складае ня болей $^5/_6$ і ня меней $^4/_6$ ад вышыні дрэў пануючага полагу.

III ярус—дрэвы, вышыня якіх складае ня больш $^4/_6$ і ня менш $^3/_6$ ад вышыні дрэў пануючага полагу.

IV ярус—усе дрэвы з вышынёю ня больш $^3/_6$ вышыні I ярусу.

У межах кожнага ярусу дрэвы падзяляюцца на:

a—дрэвы з плоскаю на адзін бок каронаю;

b—дрэва „воўк“, г. зн. з шырокаю нізка апушчанаю каронаю і з вялікаю колькасьцю сухога суччa;

c—дрэва скрыўленае, прыгоднае толькі на дровы;

d—дрэва са сьціснатую каронаю з двух і болей бакоў і з заціненаю верхавінаю;

e—дрэва хворае, моцна пашкоджанае;

f—сухаверхавіннае, мёртвае дрэва.

Калі ёсьць у дрэва ня рэзка выражаная адна з вышэйпаказаных форм няправільнасьцяй, а зьмегчаная, дык пры азначэньні адпаведная літара бярэцца ў дужкі (a), (b), (c), (d), (e), (f), і гэта значыць:

(a)—дрэва з умерана плоскаю каронаю з аднаго боку.

(b)—дрэва з меней выражаным тыпам „воўк“.

(c)—дрэва ня так скрыўленае, якое дае і спраўную драўніну.

(d)—дрэва са сьціснутаю з двух і болей бакоў каронаю, але з вольнаю верхавінаю.

(e)—дрэва хворае, але мала яшчэ пашкоджанае.

(f)—усыхаючае, але яшчэ жывое дрэва.

Накшталк дадатковых устаноўлены яшчэ наступныя азначэньні: „злс“—дрэва зламанае сьнегам, „сгс“—дрэва сагнутае сьнегам, „пс“ — дрэва перастойнае (такімі лічацца тыя, якія на 40 і больш год старэй пануючых ў дрэвастане, „пр“ — дрэва падрост (такімі лічацца тыя, якія на 40 і болей год маладзей дрэў I-га ярусу).

Нармальнае здаровае дрэва азначаецца проста тою лічбаю бяз буквы і значка, да якога ярусу яно належыць: I, II. III, IV, або 1, 2, 3, 4.

## III. Прачысткі.

§ 21. Гэта, як вядома, догляд за складам у інтарэсах будучага дрэвастану. Выбіраюцца другарадныя, нежаданыя пароды. Горшыя стволікі галоўнае пароды выбіраюцца ў тых мясцох, дзе яны занадта ціснуць друг друга.

Зрубаньне тапаром або косырам робіцца ў самае зямлі.

Мэтадаў 3: a) праходзяць з выбаркаю і ўборкаю адпаведных стволікаў усю плошчу і b) праходзячае калідорамі і c) асьвятляюць асобныя дрэўцы або групы дрэвак. Для маладняку ў дубовай гаспадарцы шырыня калідораў 1 мэтр, адлегласьць паміж калідорамі 4 мэтр. Для хваёвых шырыні калідораў 2 мэтры, адлегласьці паміж калідорамі 2—3 мэтры.

Вучот выбранага матар‘ялу ў складачных мэтрах з указаньнем колькасьці і ацэнкі хмыза, гальля, дробных дрэў.

Вучот дрэвак, што засталіся па пародах і высотах. Калі вельмі дорага абыдзецца суцэльны пералік, дык робіцца на частцы спробнае плошчы ў крайнім выпадку (за выключэньнем дубу). Пералік папярэдні пры прачыстках у малых узростах дрэвастану ня робіцца.

Агляд закладзеных сталых спробных плошчаў штогодкі. Паўтараюць рубкі прачыстак праз 2—3 гады.

## IV. Прарэджваньні.

§ 22. Мэта—догляд за формаю ствала.

*Мэтады:* Нізавы, верхавы і камбінаваны.

Таму што мы маем справу з дрэвастанамі, у якіх ня было раней рэгулярнага догляду і таму што пры ўсякім мэтадзе догляду ў першую чаргу павінны быць прыбраны дрэвы засохлыя, засыхаючыя і безнадзейна хворыя, то і 1) пры нізавым мэтадзе ў нас прыдзецца выбіраць і адзіночныя дрэвы зьверху (безнадзейна хворыя), і 2) самае галоўнае — пры верхавым мэтадзе трэба прыбіраць вядомую частку дрэў зьнізу (сухія і засыхаючыя). Загэтым па сутнасьці ўжываньне верхавога мэтаду ў нас часта зьвядзецца к мэтаду камбінаванаму. Пры чым у гэтым выпадку прарэджваньне зьнізу будзе толькі ўсяго вельмі слабое. Другімі словамі: нізавое прарэджваньне зводзіцца да выемкі ствалоў толькі ў падпарадкаванай частцы дрэвастану, а верхавое (і камбінаванае) да выемкі ствалоў як у галоўнай частцы (пануючым полагу), так і ў падпарадкаванай частцы дрэвастану (гл. § 9).

Загэтым правільна было бы адрозьніваць толькі два мэтады прарэджваньня (як гэта робіць і прафэсар Bühler), а іменна:

1—прарэджваньне ў падпарадкаванай частцы дрэвастану (па падручніках нізавое).

2—прарэджваньне ў галоўнай і падпарадкаванай частках дрэвастану (па падручніках верхавое і камбінаванае).

*Ступеняў* прарэджваньня адрозьніваюць тры, чатыры, пяць, часам і шэсьць.

§ 23. *Азначэньні для ступеняў* прарэджваньня зьнізу варта ўжываць, што зрабіліся інтэрнацыянальнымі: A, B, C, D, E. Часам дабаўляюць яшчэ і L.

Ступень A—слабае прарэджваньне.
„ B—умеранае прарэджваньне.
„ C—моцнае прарэджваньне.
„ D—вельмі моцнае прарэджваньне
„ E—выключна моцнае прарэджваньне.
„ L—так званая „сьветлая ступень“ прарэджваньня.

Пры правядзеньні ступеняў A, B, C, самкнутасьць дрэвастану не парушаецца. Пры ступені D непасрэдна пасьля правядзеньня прарэджваньня самкнутасьць парушана, паколькі ў асобных месцах выняты супануючыя ствалы. Аднак праз 3—5 год яна ў маладых дрэвастанах зноў аднаўляецца.

Пры ступені E, напрыклад, пры рубках „вольнага стаяньня“ (дубу, ясену, клёну) пасьля прарэджваньня дрэвы стаяць вольна; змыканьне можа надыйсьці толькі праз 10 і болей год.

Пры ступені L самкнутасьць ня можа зусім надыйсьці або надыйдзе толькі ў рэдкіх выпадках.

Калі дрэвастан прарэджваецца ня толькі зьнізу, але адначасова і зьверху, дык азначэньне робіцца пры дапамозе тых-жа сымбаляў, але ў выглядзе дробу. Напрыклад $\frac{D}{A}$ азначае, што дрэвастан прарэджаны ўверсе (г. зн. у галоўным полагу) да вельмі моцнае ступені, а ўнізе

(г. зн. падпарадкаванай часткі дрэвастану) да слабае ступені. Адпаведнае тлумачэньне мае $\frac{E}{A}$ і г. д.

§ 24. *Па старому нямецкаму нізавому мэтаду* адрозьнівалі тры ступені прарэджваньня:

A—слабае, пры якім прыбіраюцца дрэвы $V^b$ і $V^a$ клясаў па Крафту.

B — умеранае, пры якім прыбіраюцца дрэвы $V^b$, $V^a$ і $IV^b$ клясаў па Крафту

C — моцнае; пры ім выбіраюцца дрэвы $V^b$, $V^a$, $IV^b$, $IV^a$ клясаў па Крафту (гл. § 15).

Калі гэтую схэму працягнуць да вельмі моцнага прарэджваньня, тады атрымліваем:

D — вельмі моцнае прарэджваньне, пры якім прыбіраюцца ня толькі дрэвы—$V^b$, $V^a$, $IV^b$, $IV^a$, але і частка сцвалоў III клясы.

§ 25. Па *Швэйцарскай* схэме, выпрацаванай Швэйцарскаю Лясною Дасьледчай Станцыяй, (па Бюлеру) ступені інтэнсыўнасьці рубак прарэджваньня характарызуюцца наступнаю табліцай. Уверсе па мэтаду нізавому (I), уніге па мэтаду верхавому, а па сутнасьці камбінаванаму (II). Ніжняя частка табліцы прыбаўлена Бюлерам да ранейшае Швэйцарскае пазьней. (Клясыфікацыю дрэў гл. § 16 або блізкую да яе ў § 15).

**I. Прарэджваньне ў падпарадкаванай часткі насаджэньня (нізавое).**

| Ступень прарэджваньня. | Вырубаемыя клясы | Пакідаемыя клясы |
|---|---|---|
| A—слабое | V — сухія і адміраючыя. | I, II, III, IV. |
| B—умеранае | V — сухія і адміраючыя.<br>IV — прыгнечаныя. | I, II, III. |
| C—моцнае | V — сухія і адміраючыя.<br>IV — прыгнечаныя.<br>III — адстаўшыя ў росьце. | I, II. |
| D—вельмі моцнае | V — сухія і адміраючыя.<br>IV — прыгнечаныя.<br>III — адстаўшыя ў росьце<br>II — частка супануючых, а ў выглядзе выключэньня некаторыя з пануючых. | I і частка II. |

**II. Прарэджваньне ў пануючай і падпарадкаванай частках дрэвастану (верхавое, а па сутнасьці камбінаванае).**

| | | |
|---|---|---|
| $\frac{D}{A}$ — вельмі моцнае застаўленьне падлеску і прамежнага ярусу. | V — сухія і адміраючыя.<br>IV — частка прыгнечаных.<br>III—частка адстаўшых у росьце.<br>II — галоўную масу супануючых і асобныя дрэвы з пануючых. | IV—частка<br>III—частка.<br>II—незнач. частка.<br>I—амаль усе дрэвы. |
| $\frac{C}{A}$ — вызваленьне асобных пануючых дрэў з застаўленьнем падлеску і прамежнага ярусу: „Вольныя рубкі“. | V — Сухія і адміраючыя.<br>IV — частка прыгнечаных.<br>III — частка адстаўшых у росьце<br>II — параможная частка супануючых.<br>I — частка пануючых. | IV—частка.<br>III—частка.<br>II—незнач. частка.<br>I—частка. |

§ 26. *Па нова-нямецкаму мэтаду* ступені прарэджваньня наступныя: (клясыфікацыя дрэў гл. § 19).

I. Нізавое прарэджваньне:

A—слабое. Зьнішчаюцца ствалы 5 клясы, 2е.
B—умеранае. Зьнішчаюцца ствалы клясаў: 5, 2е, 2d.
C—моцнае. Зьнішчаюцца ствалы: 5, 4, 3, 2 і нават асобныя дрэвы клясы 1.

II. Вярхавое прарэджваньне:

A—слабае. Вырубаюцца дрэвы 5 клясы, па магчымасьці ўся 2 кляса (абавязкова 2е. 2d, 2c) і адзіночна ствалы 1 клясы. Апошнія для парушэньня самкненасьці груп густастаячых роўнацэнных ствалоў.

C—моцнае. (Рубка вольнага стаяньня карон). Вырубаюцца ствалы 5, 2 і 1 клясаў.

§ 27. Па *Швэдзкаму мэтаду ступені прарэджваньня такія*: (Клясыфікацыя дрэў, гл. § 20).

I. Нізавы мэтад.

A—слабое. Вырубаюцца дрэвы: 1f, 1(f), 2f, 2(f), 3f, 3(f), 4f, 4(f).
B—умераннае. Выбіраюцца ўсе дрэвы 4 ярусу, усе дрэвы 3f, 3(f), 2f, 2(f), 1f, 1(f), далей дрэвы 3е, 2е, 1е, 3d, 2d, 1d, 3c, 2c, 1c.
C—моцнае. Вырубаюцца ўсе дрэвы 4 і 3 ярусаў і большасьць дрэў са значкамі: (a), b, c, (c), d, (d), e, f, (f).
D — выклюна моцнае. Вырубаюцца ўсе са значкамі: (a) b, c, (c), d, (d), e, f, (f), і яшчэ некаторыя дрэвы з 2 і 1 ярусу.

II. Верхавы мэтад.

С я р э д н я е прарэджваньне Вырубаюцца: ва ўсіх чатырох ярусах —e, f, (f); у першым ярусе—Ib, I(b), Ic, Id; у другім ярусе—2a, 2b, 2c, 2d, а ў сасновых дрэвастанах яшчэ 3d, 4d.

У м е р а н н а е прарэджваньне. Вырубаюцца ва ўсіх чатырох ярусах: f і (f); затым 1a, 1b, 1(b), 1c, 1d. 1(d), 2a, 2(a), 2b, 2(b), 2c, 2d а ў сасновых дрэвастанах яшчэ 3d і 4d.

В ы к л ю ч н а м о ц н а е прарэджваньне. Вырубаюцца дрэвы ўсіх толькі што паказаных груп і апроч таго „е“ ва ўсіх ярусах.

Прафэсар С. П. Мельнік

IV—1929 г.

# Аб пабудове чорна-альховых дрэвастанаў па каэфіцыенту формы $q_2$

## I

Дрэвастаны, уяўляючы сабою арганічнае цэлае расьліннага і жывёлінага згуртаваньня, кіруюцца сваімі, вякамі выпрацаванымі, законамі, з прычыны каторых выяўляецца ў іх пабудове цэлы шэраг законамернасьцяй.

Вывучэньне законамернасьцяй у пабудове дрэвастанаў пачата ў другой палове XIX веку і, дзякуючы працам многіх дасьледчыкаў розных краін, частка гэтых законамернасьцяй, зрабілася вядомаю і зрабіла каштоўную ўслугу ня толькі дзеля глыбокага тэарэтычнага разуменьня сувязі і залежнасьці паміж таксацыйнымі элемэнтамі, але і дзеля практыкі лясное гаспадаркі.

Успомнім праф. Вейзе і Віменаўра, устанавіўшых месца сярэдняга дрэва па дыямэтру ў дрэвастане (40—45% ад самай тоўстай і 60—55% ад тонкай ступені); Капецкага, паказваючага на функцыянальную залежнасьць паміж аб'ёмамі дрэў і плошчамі сячэньня іх; Гуттэнберга і Гердтa, каторыя далі ў сваіх табліцах ходу росту разьмеркаваньне ствалоў па 5 см. ступенях па дзесяці годзьдзях (першы для сасны і елкі, другі—для елкі); апошнім адмечана таксама функцыянальная залежнасьць паміж вышынёю і плошчай сячэньня, відавой лічбай і плошчай сячэньня, вышынёй і відавой лічбай, якая выражаецца простымі лініямі GH. GF і HF; Шыфеля, па праву названага праф. Н. В. Трэцяковым таленавіцейшым дасьледчыкам і мэтадалёгам у галіне лясной таксацыі, каторы паказаў, што ў нармальных яловых дрэвастанах кожнае дрэва ў залежнасьці ад яго рангу ў дрэвастане складае некаторую сталую велічыню ад сярэдняга дрэва адносна дыямэтру, вышыні, відавае лічбы, відавой вышыні, а таксама плошчы сячэньня і аб'ёмаў; Мааса і Флюры, даўшых у табліцах ходу росту нармальных дрэвастанаў (першы для сасны, другі для бука, елкі і піхты) разьмеркаваньне запасаў драўніны па ступенях таўшчыні, праф. А. В Цюрына і А. І. Тарашкевіча, устанавіўшых разьмеркаваньне ствалоў па ступенях таўшчыні ў залежнасьці ад сярэдняга дыямэтру дрэвастану, пры чым, першы ў не залежнасьці ад пароды, а другі для чыстых сосновых, яловых і дубовых дрэвастанаў; прафэсара Н. В. Трэцякова, каторы, выкладаючы гістарычны шлях разьвіцьця вучэньня законамернасьцяй у пабудове дрэвастанаў і робячы яму глыбокі аналіз з тэарэтычнага і практычнага боку, пашырае вучэньне Шыфеля даводзінамі, што і сацыялягічныя здольнасьці дрэва характарызуюцца яго рангам у дрэвастане [1]).

Абмяжоўваючыся гэтым далёка ня поўным, шэрагам прац па вывучэньню законамернасьцяй у пабудове дрэвастанаў, як у зах.-эўрапэйскіх

[1]) К моманту карэктуры вышла праца праф. В. К. Захарава: „Изучение изменчивости формы древесных стволов дубовых насаждений и методика таксации леса“, у якой паказваецца законамернасьць у пабудове дубовых дрэвастанаў па каэф. формы $q_2$. Лесное хозяйство и лесная промышленность за 1929 г. № 7.

старонках, так і ў СССР., трэба адзначыць, па-колькі мне гэта вядома, адсутнічаньне паказаньняў па пытаньні пабудовы дрэвастанаў па каэфіцыентах формы, набыўшых вельмі вялікае значэньне ў практыцы лясное гаспадаркі (асабліва пры складаньні сартымэнтных і масавых табліц).

Праўда, маюцца, агульныя паказаньні праф. В. К. Захарава, што ў пытаньні разьмеркаваньня дрэў па $q_2$ назіраецца наступнае: „Пры значнай рознастайнасьці каэф. формы $q_2$ у межах пароды, банітэтаў і ступеняў таўшчыні, найвялікшая колькасьць ствалоў прадстаўлена сярэднім каэфіцыентам $q_2$, розным па пародах. Ад гэтай сярэдняй формы—лік ствалоў у абодвы бакі паступова зьмяншаецца і на крайнія формы— вельмі зьбежыстыя і вельмі поўнадраўнінныя прыходзяцца толькі адзінкавыя ствалы“.

Паказаныя абставіны прымушаюць нас, у выглядзе папярэдняга паведамленьня, закрануць пытаньне па вывучэньню пабудовы дрэвастану па каэфіцыенту формы $q_2$ з ужываньнем варыяцыйнай статыстыкі (закона Gauss'а.

## II

Матар'ял, каторы пакладзен у аснову дасьледваньня сабраны намі ў Лапіцкай дачы Бабруйскае акругі БССР шляхам суцэльнай вырубкі і абмеру ўсіх ствалоў на дзялянцы № 2 плошчай у 1 гэктар лесасекі 1928—29 апэрацыйнага году па чорна-альхавай гаспадарцы.

Па ўмовах месца вырастаньня дрэвастан адносіцца да тыпу „алёс з ясенам“, каторы займае звычайна плоскія паніжэньні з падзоліста-балотнымі глебамі багатымі перагнойнай матэрыяй у прамежнай паласе пераходу ад тыпу „старыны“ (груду) з ясенам да чыстага алёсу з багатым травяным акрыцьцем, найбольш распаўсюджанымі прадстаўнікамі каторага зьяўляюцца: Urtica dioica (крапіва), Asarum Eueropaeum (пад'-алешнік эўрапэйскі), Filipendula Ulmaria (мядунішнік), Lysimachia vulgaris (верабейнік), Carex'ы (асокі), Ranunculus repens (лютык паўзучы), Angelica silvestris (лясны дуднік), Geum rivale (панікніца ўзьбярэжная), Oxalis Acetosella (кісьліца), махі і інш.

Для выяўленьня формы ўсе ствалы дзялянкі, пасля папярэдняй нумарацыі і дасканалага абмеру дыямэтру на вышыні 1,3 mt ад каранёвай шыйкі (гэтая вышыня вызначалася да абмеру рысай пры дапамозе шосту ў 1,3 mt і фарбы) рубіліся і з дакладнасьцю 0,1 см абмяраліся дыямэтры па двух узаемна-стацявых напрамках у асновы, на $^1/_4$, $^1/_2$ і $^3/_4$ вышыні.

У выніку абмераў і непасрэднай апрацоўкі таксацыйная характарыстыка альховай часткі дрэвастану паказана ў табл. № 1.

Табліца 1. Tabelle № 1.

| Склад дрэвастану<br>Der Grad der Mischung | Узрост<br>Alt. | Вышыня<br>Höhe mt. | Дыямэтр<br>Durchmesser cm. | Відавая лічба<br>Formzahl | Каэфіц. формы<br>Formguotient q2 | Банітэт<br>Bonität | Паўната<br>Bestockungsgrad | Лік ствалоў<br>Stammzahl | Запас Holzmasse mt³<br>Фанеры<br>an Fineur | Піловачнік<br>an Sägholz | Дроў<br>an Brennholz | Разам<br>Summe |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 Вол. 2 Яс. 1 Е. | 77 | 25,9 | 29,2 | 0,494 | 0,720 | I | 0,9 | 240 | 22,136 | 43,928 | 140,808 | 206,872 |
| | | | + | + | + | + | + | + | 10,8% | 21,2% | 68% | 100% |

Бяручы пад увагу, што $q_2 = d_{1/2} : d_{в/г.}$ зьяўляецца асноўнай велічынёй для выяўленьня формы ствалоў, групоўка ствалоў па клясах формы з даў-

жынёю інтэрвалу ў 0,02 зроблена па $q_2$ у межах кожнай ступені таўшчыні, у выніку чаго маем наступную табліцу разьмеркаваньня № 2.

Табліца № 2. Tabelle № 2.

| Межы кляс / Grenzen der Klassen | 0,61—0,63 | 0,63—0,65 | 0,65—0,67 | 0,67 0,69 | 0,69—0,71 | 0,71—0,73 | 0,73—0,75 | 0,75—0,77 | 0,77—0,79 | 0,79—0,81 | Сума |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сярэдзіна кляс / Mittelklassen | 0.62 | 0,64 | 0,66 | 0,68 | 0,70 | 0,72 | 0,74 | 0,76 | 0,78 | 0,80 | Summe |
| Ступені таўшч. / Stärkstufen in sant· | Лік ствалоў | | | | | Stammzahl | | | | | |
| 16 | — | — | 1 | 1 | — | 1 | 1 | 4 | 2 | – | 10 |
| 20 | — | — | 1 | 2 | 6 | 7 | 6 | 6 | — | 1 | 29 |
| 24 | — | 1 | 1 | 9 | 13 | 6 | 9 | 2 | — | — | 41 |
| 28 | — | 1 | 5 | 7 | 9 | 20 | 14 | 10 | 2 | — | 67 |
| 32 | 1 | 2 | 3 | 5 | 9 | 13 | 13 | 7 | 3 | 1 | 57 |
| 36 | — | — | 1 | 3 | 5 | 5 | 6 | 2 | 2 | — | 24 |
| 40 | — | — | — | — | 1 | 3 | 1 | — | 1 | — | 6 |
| 44 | — | — | 1 | 1 | — | 1 | 1 | — | — | — | 4 |
| 48 | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | — | — | 2 |
| | 1 | 4 | 13 | 29 | 43 | 57 | 51 | 30 | 10 | 2 | 240 |
| | 0,4% | 1,7% | 5,4% | 12,1% | 17,9% | 23,8% | 21,2% | 12,5% | 4,2% | 0,8% | 100% |

Такім чынам, як для дрэвастану ў цэлым, так і ў мэжах кожнай ступені таўшчыні, разьмеркаваньне ствалоў па форме не зьяўляецца аднолькавым, а як-бы падпарадкуецца агульнаму закону зьменнасьці: максымальнай клясай зьяўляецца сярэдняя, а рэшта па меры аддаленьня робяцца ўсё меншымі

Дзеля большай яскравасьці зробім разьмеркаваньне ствалоў па ўтвораных клясах форм у выглядзе графіку; для гэтага па восі абсцыс ($x^{oy}$) простакутняй сыстэмы каардынат (пачатак каардынат супадае з сярэдняй арытмэтычнай $q_2 = 0,719$) адкладзем роўныя адцінкі, адпавядаючыя вызначанай даўжыні інтэрвалу, і па іх, як на асновах, пабудуем простакутнікі, вышыня каторых прапорцыянальна частотам зьявішча для адпаведных кляс.

Атрыманая ступеньчатая фігура (рыс. № 1)—гістаграма (па Пірсапу), плошча каторай адпавядае агульнаму ліку ўсіх назіраньняў, а верхні край каторай графічна выражае залежнасьць паміж фэрмаю ствалоў і частатой, можа быць заменена ламанай лініяй шляхам паступовага злучэньня простымі лініямі сярэдзін верхніх асноў простакутнікаў. Апошняя выражае тую-ж зьяву зьменнасьці форм ствалоў дадзенага дрэвастану, што і гістаграма, але ў больш простым выглядзе.




Мал. 1.

Ня маючы колькасна вялікшага ліку выбарак, характарызуючых адзначанае разьмеркаваньне ствалоў у дрэвастане па каэфіцыенту формы $q_2$, прааналізуем на аснове законаў праўдападобнасьці матар'ял, што ёсьць, з мэтай высьвятленьня яго адпаведнасьці паміж формай і частатой ($x^{-ом}$ і $y^{-ам}$) у межах усей савакупнасьці дрэвастанаў, з каторых узята дадзеная выбарка шляхам суцэльнай вырубкі ствалоў на плошчы аднаго гэктару.

Тэарэтычныя частоты, адпавядаючыя дадзенай выбарцы, вызначаюцца па раўнаньню:

$$m = \frac{n}{\sqrt{2\pi}\sigma}\int_0^x e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}} dx\,,\quad \text{дзе}$$

m — частоты інтэрвалаў (функцыя)
x — форма дрэў (аргумэнт)
n — лік назіраньняў (сума частот)
$\sigma$ — сярэдня-квадратычнае адхіленьне.
e — аснова Нэпeравых лёгарытмаў

Рашэньне гэтага раўнаньня патрабуе папярэдняга вызначэньня сярэдняй арымэтычнай велічыні каэфіцыенту формы—M і сярэдняга квадратычнага адхіленьня—$\sigma$, якія выражаюцца праз моманты першых двух парадкаў, а менавіта:

$$M = V_a + \lambda\nu, \quad \text{i} \quad \sigma_w = \lambda\sqrt{\nu_2 + \nu_1^2}, \quad \text{дзе}$$

$V_a$ — вар'янта з найвялікшай частатой
$\lambda$ — велічыня клясавага прамежку
$\nu_1$ і $\nu_2$ — моманты першага і другога парадку.

Апошнія, уяўляючыя сабою геамэтрычную адносіну паміж сумай здабыткаў велічыні адлегласьці кожнай вар'янты ад выбранага пачатку на яе частату і сумарнай частатой, вызначаюцца па формуле:

$$\nu^t = \frac{\Sigma x^t y}{\Sigma y}$$

Матар'ял для вылічэньня паказаных вялічынь згрупуем у наступную табліцу № 3.

Табліца № 3. Tabelle № 3.

| Сярэдзіны кляс<br>Mittelklassen | 0,62 | 0,64 | 0,66 | 0,68 | 0,70 | 0,72 | 0,74 | 0,76 | 0,78 | 0,80 | Σ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Назіраемыя частоты y<br>Die beobachtete Dichtheit | 1 | 4 | 13 | 29 | 43 | 57 | 51 | 30 | 10 | 2 | 240 |
| Адхіленьне ад выбранага пачатку x<br>Abweichungen von der ausgewählten Grundlage x | —5 | —4 | —3 | —2 | —1 | 0 | +1 | +2 | +3 | +4 | |
| x . y | —5 | —16 | —39 | —58 | —43 | 0 | +51 | +60 | +30 | + 8 | —12 |
| $x^2$ | 25 | 16 | 9 | 4 | 1 | 0 | 1 | 4 | 9 | 16 | |
| $x^2 . y$ | 25 | 64 | 117 | 116 | 43 | 0 | 51 | 120 | 90 | 32 | 658 |

Маем:

$$\nu_1 = \frac{\Sigma xy}{\Sigma y} = -\frac{12}{240} = -0{,}05; \quad \nu_2 = \frac{\Sigma x^2 y}{\Sigma y} = \frac{658}{240} = 2{,}742;$$

$$M = V_a + \lambda\nu_1 = 0{,}720 - 0{,}02 . 0.05 = 0{,}719 \pm 0{,}002;$$

$$\sigma_b = \sqrt{\nu_2 - \nu_1^2} = \sqrt{2{,}7395} = 1{,}655$$

$$\sigma_w = \lambda \cdot \sigma_b = 0{,}02 \cdot 1{,}655 = 0{,}0331$$

$$R = \pm \frac{\sigma_w}{\sqrt{n}} = \frac{0{,}0331}{\sqrt{240}} = \pm 0{,}002$$

Сярэдні каэфіцыент формы $q_2$ дасьледваемага дрэвастану аказаўся вышэй беларуска-таблічнага па 0,019 (0.719—0,70), што як відаць, тлумачыцца паўнатою дадзенага дрэвастану, которая вышэй сярэдняй паўнаты дрэвастанаў, якія далі матар'ял для складаньня масавых табліц на 0,2 (0,9 —0,7) і магчыма яшчэ і таму, што выбарка мадэльных дрэў для табліц да некаторай ступені не пазбаўлена суб'ектывізму.

На аснове атрыманых вялічынь тэарэтычныя частоты па вышэйпрыведзенай формуле вызначаюцца табл № 4.

Tabelle № 4. Табліца № 4.

| Межы інтэрвалаў Grenzen der Zwischenräume $V_a$ | Велічыня адхіленьня ад прынятага пачатку Abweichungen von der ausgewählten Grundlage $x = V_a - M$ | $\frac{x}{\sigma_w}$ | Адносная частата Relative Dichtheit $\frac{m}{n} = \frac{1}{\sqrt{2\pi}\,\sigma_r}\int_0^x e^{-\frac{2x^2}{2\sigma^2}}dx$ | Абсалютная частата ад сярэдня-арытмэтычнай Absolute Dichtheit von der arithmetischen Durchschnittszahl $m = \frac{n}{\sqrt{2\pi}\,\sigma_r}\int_0^x e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}}dx$ | Тэарэтычная частата інтэрвалаў Theoretische Dichtheit der Zwischenräume $m_t$ | Фактычная частата інтэрвалаў Tatsächliche Dichtheit der Zwischenräume $m_w$ | Розьніца Unterschied $m_w - m_t$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0,610 | — 0,109 | 3,293 | 0,49950 | 119,9 | 1 | 1 | 0 |
| 0,630 | — 0,089 | 2,689 | 0,49643 | 119,1 | 4 | 4 | 0 |
| 0,650 | — 0,069 | 2,085 | 0,48170 | 115.6 | 12 | 13 | + 1 |
| 0,670 | — 0,049 | 1.480 | 0.43056 | 103,3 | 29 | 29 | 0 |
| 0,690 | — 0.029 | 0,879 | 0,31057 | 74,5 | 49 | 43 | — 6 |
| 0,710 | — 0,009 | 0,272 | 0,10642 | 25,6 | | | |
| 0,719 | — | — | — | | 57 | 57 | 0 |
| 0,730 | + 0,011 | 0,332 | 0,12930 | 31 | 47 | 51 | + 4 |
| 0,750 | + 0,031 | 0,928 | 0,32381 | 77,7 | 27 | 30 | + 3 |
| 0,770 | + 0,051 | 1,541 | 0,43882 | 105,2 | 11 | 10 | — 1 |
| 0,790 | + 0,071 | 2,145 | 0,48422 | 116,2 | 3 | 2 | — 1 |
| 0,810 | + 0,091 | 2,749 | 0,49702 | 119,3 | | | |

З табліцы бачым, што для 7-і кляс, што складае 70% ад агульнага ліку, тэарэтычныя частоты або поўнасьцю супадаюць з фактычнымі, або адхіляюцца на ± 1 ствол, а з астатніх 3-х кляс толькі ў адной гэтая розьніца дасягае 6-і ствалов; сума-ж усіх дадатных адхіленьняў роўна суме адмоўных.

Атрыманая тэарэтычная залежнасьць паміж формаю ствалоў у дрэвастане і частатой (па мэтаду Gauss'a), даволі блізкая да фактычнай, на графіку будзе мець выгляд плаўнай крывой (глядзі рыс. № 1) так званай інтэрпаляцыйнай крывой, раўнаньне каторай (па Pearson'y) мае выгляд:

$$y = \frac{n}{\sqrt{2\pi}\,\sigma} \cdot e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}} \quad \text{дзе}$$

у — ардыната адпаведнага адхіленьня (функцыя), а астатнія літары маюць папярэдняе значэньне.

З мэтай атрыманьня вялікшай колькасьці пунктаў крывой намі вылічаны ардынаты для меж і сярэдзін інтэрвалаў а таксама і для пунктаў перагібу, што відаць з прыведзенай ніжэй табліцы № 5.

Табліца № 5. Tabelle № 5.

| $V_a$ | $x = V_a - M$ | $\frac{x}{\sigma_w}$ | $\psi\left(\frac{x}{\sigma}\right) = \frac{1}{\sqrt{2\pi}} e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}}$ | $y = k.\psi\left(\frac{x}{\sigma}\right) = \frac{n}{\sqrt{2\pi}\sigma} e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}}$ | $V_a$ | $x = V_a - M$ | $\frac{x}{\sigma_w}$ | $\psi\left(\frac{x}{\sigma}\right) = \frac{1}{\sqrt{2\pi}} e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}}$ | $y = k.\psi\left(\frac{x}{\sigma}\right) = \frac{n}{\sqrt{2\pi}\sigma} e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}}$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0,610 | — 0,109 | 3,293 | 0,00178 | 0,26 | 0,720 | + 0,001 | 0,030 | 0,39876 | 57,83 |
| 0,620 | — 0,099 | 2,991 | 0,00457 | 0,66 | 0,730 | + 0,011 | 0,332 | 0,37780 | 54,79 |
| 0,630 | — 0,089 | 2,689 | 0,01071 | 1,55 | 0,740 | + 0,021 | 0,634 | 0,32713 | 47,44 |
| 0,640 | — 0,079 | 2,387 | 0,02294 | 3,33 | 0,750 | + 0,031 | 0,928 | 0,25888 | 37,54 |
| 0,650 | — 0,069 | 2,085 | 0,04538 | 6,58 | 0,760 | + 0,041 | 1,239 | 0,18494 | 26,82 |
| 0,660 | — 0,059 | 1,782 | 0,08183 | 11,87 | 0,770 | + 0,051 | 1,541 | 0,12188 | 17,67 |
| 0,670 | — 0,049 | 1,480 | 0,13344 | 19,35 | 0,780 | + 0,061 | 1,843 | 0,07341 | 10,65 |
| 0,680 | — 0,039 | 1,178 | 0,19886 | 28,90 | 0,790 | + 0,071 | 2,145 | 0,03998 | 5,80 |
| 0,690 | — 0,029 | 0,879 | 0,27086 | 39,28 | 0,800 | + 0,081 | 2,447 | 0,01984 | 2,88 |
| 0,700 | — 0,019 | 0,574 | 0,33192 | 49,18 | 0,810 | + 0,091 | 2,749 | 0,00990 | 1,32 |
| 0,710 | — 0,009 | 0,272 | 0,38466 | 55,78 | пункт перагібу крывой | + 1,655 | 1,0 | 0,24197 | 35,09 |
| 0,719 | 0 | 0 | 0,39894 | 57,85 | | | | | |

Адкладаючы вылічаныя вялічыні у-аў па асі ардынат для адпаведных абсцыс, атрымаем шэраг пунктаў, пасьлядоўнае аб'яднаньне каторых дасьць інтэрпаляцыйную крывую, якая графічна выражае тэарэтычную залежнасьць (Gauss'a) паміж формаю ствалоў і частатою ў сьпелым альховым дрэвастане і наіральна паказвае адхіленьні ад фактычнай залежнасьці, прадстаўленай на графіку № 1 ламанай лініяй

Судзіць аб тым, наколькі добра, або не, выражае крывая паказаную залежнасьць, дазваляе меркаваць праўдападобнасьць паўтарэньня гэткай зьявы P пры новых досьледах, вызначаемая па мэтаду Pearson'a.

Д-р А. Леантовіч кажа: „Pearson вспользовался тем, что наиболее желательной оценкой какого-либо фактора является такая, когда мы можем сказать наперед, будет ли он повторяться и как часто" і далей: „Peason вычисляет вероятность встретить в будущем полигоны подобного же рода, т. е. отличающиеся от найденного теоретического не более чем в наличном случае".

Праўдопадобнасьць паўтарэньня зьявішча P, якое абяцае даць вынікі адрозныя ад маючыхся тэарэтычных ня больш, чым у дадзеным выпадку, вызначаецца наступным чынам: знаходзім квадратычную функцыю х-оў $\chi^2$, каторая роўна суме квадратаў розьніцы паміж назіраемай частатой і тэарэтычнай, падзеленай на тэарэтычную частату:

$$\chi^2 = \Sigma \frac{(m_w - m_t)^2}{m_t} = 1{,}915$$

Ведаючы $\chi^2$, па табліцы Elderton'а знаходзім, што праўдападобнасьць паўтарэньня зьявішча $P = 0{,}99$; гэта значыць, што пры паўтарэньні досьледаў са 100 выпадкаў 99 будзе выражаць такое-жа або меншае адхіленьне ад атрыманай тэарэтычнай крывой.

Д-р А. Леантовіч паказвае, што практыка мэтаду памылак звычайна лічыць здавальняючымі такія вынікі, калі праўдападобнасьць падзеі $P$ ня менш 0,5. Значыцца атрыманую велічыню $P = 0{,}99$ можна лічыць зусім здавальняючай.

Велічыня дабротнасьці матар'ялу, вынікі якога маглі-бы быць распаўсюджаны на ўсю суцэльнасьць дадзенай выбаркі, можа быць выражана крытэрыем Барткевіча:

$$K_B = \frac{\chi^2 - (z-1)}{\sigma_{\chi^2}} \quad \text{дзе}$$

z — лік вар'янт

$\sigma\chi^2$ — квадратычны ухіл $\chi^2$ і вызначаецца па формуле:

$$\sigma\chi^2 = \pm \sqrt{\left(\frac{m_w - 1}{m_w}\right) . 2(z-1) + \sum_{1}^{z} \frac{1}{m_t} - \frac{z^2}{m_w}} =$$

$$= \pm \sqrt{\frac{240-1}{240} . 2 . 9 + \left(\frac{1}{1} + \frac{1}{4} + \frac{1}{12} + \ldots + \frac{1}{3}\right) - \frac{100}{240}} = \pm 4\,404;$$

$$\text{па гэтаму } K_B = \left| \frac{1.915 - 9}{4{,}404} \right| = 1{,}6.$$

Лічыцца, што пры велічыні крытэрыя Барткевіча ад 3-х і ніжэй дабротнасьць матар'ялу прызнаецца здавальняючай. Значыць, і па другой адзнацы дадзеную выбарку можна лічыць удачнай дзеля характарыстыкі разьмеркаваньня ствалоў у дрэвастане па $q_2$.

Згоднасьць паміж фактычнаю частатою разьмеркаваньня і тэарэтычна вылічанай павінна так сама задавольваць раўнаньню:

$$\frac{2\mu\,[\delta^2]}{[\delta]^2} = \pi, \quad \text{дзе}$$

$[\delta]$ — сума першых ступеняў усіх адхіленьняў, узятых з дадатным знакам

$[\delta^2]$ — сума квадратаў адхіленьняў.

Ужываючы да нашага выпадку, гэтае раўнаньне можа быць выражана:

$$\frac{2\sigma^2}{x_d^2} = \pi \text{ [1]}$$

---

[1] $\frac{\Sigma |x| \rho}{n} = x_d = \frac{1}{h\sqrt{\pi}}$ ; $x_d^2 = \frac{1}{\pi h^2}$ ; $\pi x_d^2 = \frac{1}{h^2}$ ;

з другого боку $\sigma = \frac{1}{h\sqrt{2}}$ ; $\sigma^2 = \frac{1}{2h^2}$ ; $2\sigma^2 = \frac{1}{h^2}$ ;

адсюль $2\sigma^2 = \pi x_d^2$, альбо $\frac{2\sigma^2}{x_d^2} = \pi$

маем:

$$\frac{2 \cdot 2,7395}{[1,292]^2} = 3,28;$$

Значыцца, $\pi = 3,28$ узяўляе сабою велічыню, каторая нязначна адрозьніваецца ад сапраўднага $\pi$.

Такім чынам, па пытаньню ацэнкі згоднасьці паміж экспэрымэнтальнымі дадзенымі і тэорыяй, мы маем тры крытэрыі, зусім узгодненыя паміж сабою:

$$a)\ P = 0,99 \quad b)\ K_B = 1,6 \ \text{і} \quad c)\ \pi = 3,28.$$

З прычыны гэтага падаецца магчымасьць зацьвярджаць, што ўва ўсёй сукупнасьці дрэвастанаў, з каторай узята дадзеная выбарка, разьмеркаваньне стваалоў па форме будзе адпавядаць тэарэтычна вылічанаму па формуле нармальнага разьмеркаваньня.

Гэтае разьмеркаваньне стваалоў па $q_2$ у сьпелых дрэвастанах тыпу алёсу з ясенам, выражанае ў процантах павінна быць наступнае:

**Табліца № 6.** — **Tabelle № 6.**

| Каэфіцыент формы $q_2$ Formquotient $q_2$ | 0,62 | 0,64 | 0,66 | 0,68 | 0,70 | 0,72 | 0.74 | 0.76 | 0,78 | 0,80 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік стваалоў у $^0/_0{}^0/_0$ Stammzahl in $^0/_0{}^0/_0$ | 0,3 | 1,5 | 5,1 | 12,1 | 20,5 | 23,7 | 19,5 | 11,5 | 4,6 | 1,2 |

III

У далейшым прасочым, наколькі адпавядае закону Gauss'a разьмеркаваньне стваалоў па каэфіцыенту формы $q_2$ у межах ступеняў таўшчыні, аб'яднаных з-за недахопу матар'ялу ў тры клясы з прыблізна аднолькавым лікам стваалоў, што відаць з табл. № 7.

Табліца № 7. — Tabelle № 7.

| Клясы Klassen | Сярэдні дыямэтр Stärkestufen in sant. | Ступені таўшчыні Mittl. Durchmesser in sant. | Клясы па каэфіцыенту формы $q_2 = d^{1/2} : D$ Die Klassen nach dem Formquotienten $q_2$ — Лік стваалоў Stammzahl: 0,62 | 0,64 | 0,66 | 0,68 | 0,70 | 0,72 | 0,74 | 0,76 | 0,78 | 0,80 | Сума Summe |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | 16—26 | 22,4 | — | 1 | 4 | 14 | 22 | 17 | 20 | 11 | 3 | — | 92 |
| II | 28—30 | 29,2 | — | 3 | 5 | 7 | 9 | 20 | 17 | 10 | 2 | — | 73 |
| III | 32—48 | 35,2 | 1 | 1 | 4 | 7 | 12 | 20 | 16 | 7 | 6 | 1 | 75 |

Утвараючы адносна кожнае клясы па таўшчыні вылічэньні па ўжытаму раней мэтаду для дрэвастану ў цэлым, будзем мець (табл. № 8):

На падставе атрыманых вялічынь вылічым для кожнае клясы па таўшчыні тэарэтычнае разьмеркаваньне стваалоў па каэфіцыенту формы $q_2$, ужываючы мэтад Pearson'a. Гэта разьмеркаваньне з паказаньнем схэмы вылічэньняў відаць з табл. № 9.

Табліца № 8. Tabelle № 8.

| Класа I | | | | | Klasse | Класа II | | | | | Klasse | Класа III | | | | | Klasse |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сярэдзіны кляс Mittelklassen | y Назіраемыя частоты Die beobactete Dichtheit. | x Адхіленьне ад пачатку Abweichungen von der Grundlage | x . y | $x^2$ | $x^2 . y$ | Сярэдзіны кляс Mittelklassen | y Назіраемыя частоты Die beobactete Dichtheit. | x Адхіленьне ад пачатку Abweichungen von der Grundlage | x . y | $x^2$ | $x^2 . y$ | Сярэдзіны кляс Mittelklassen | y Назіраемыя частоты Die beobactete Dichtheit. | x Адхіленьне ад пачатку Abweichungen von der Grundlage | x . y | $x^2$ | $x^2 . y$ |
| | | | | | | | | | | | | 0,62 | 1 | — 5 | — 5 | 25 | 25 |
| 0,64 | 1 | — 4 | — 4 | 16 | 16 | 0,64 | 3 | — 4 | —12 | 16 | 48 | 0,64 | 1 | — 4 | — 4 | 16 | 16 |
| 0,66 | 4 | — 3 | —12 | 9 | 36 | 0,66 | 5 | — 3 | —15 | 9 | 45 | 0,66 | 4 | — 3 | —12 | 9 | 36 |
| 0,68 | 14 | — 2 | —28 | 4 | 56 | 0,68 | 7 | — 2 | —14 | 4 | 28 | 0,68 | 7 | — 2 | —14 | 4 | 28 |
| 0,70 | 22 | — 1 | —22 | 1 | 22 | 0.70 | 9 | — 1 | — 9 | 1 | 9 | 0,70 | 12 | — 1 | —12 | 1 | 12 |
| 0,72 | 17 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0,72 | 20 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0,72 | 20 | 0 | 0 | 0 | 0 |
| 0,74 | 20 | + 1 | +20 | 1 | 20 | 0,74 | 17 | + 1 | +17 | 1 | 17 | 0,74 | 16 | + 1 | +16 | 1 | 16 |
| 0,76 | 11 | + 2 | +22 | 4 | 44 | 0,76 | 10 | + 2 | +20 | 4 | 40 | 0,76 | 7 | + 2 | +14 | 4 | 28 |
| 0,78 | 3 | + 3 | + 9 | 9 | 27 | 0,78 | 2 | + 3 | + 6 | 9 | 18 | 0,78 | 6 | + 3 | +18 | 9 | 54 |
| | | | | | | | | | | | | 0,80 | 1 | + 4 | + 4 | 16 | 16 |
| Сума Summe | 92 | | —15 | | 221 | — | 73 | | — 7 | | 205 | | 75 | | + 5 | | 231 |

$\nu_1 = \frac{\Sigma xy}{\Sigma y} = -0{,}163$; $\nu_2 = \frac{\Sigma x^2 y}{\Sigma y} = 2{,}402$; $\nu_1 = \frac{\Sigma xy}{\Sigma y} = -0{,}096$; $\nu_2 = \frac{\Sigma x^2 y}{\Sigma y} = 2{,}808$; $\nu_1 = \frac{\Sigma xy}{\Sigma y} = +0{,}067$; $\nu_2 = \frac{\Sigma x^2 y}{\Sigma y} = 3{,}080$;

$M = V_a + \lambda\nu_1 = 0{,}717 \pm 0{,}003$; $M = V_a + \lambda\nu_1 = 0{,}718 \pm 0{,}003$; $M = V_a + \lambda\nu_1 = 0{,}721 \pm 0{,}004$;

$\sigma_b = \sqrt{\nu_2 - \nu_1^2} = 1{,}541$; $\sigma_b = \sqrt{\nu_2 - \nu_1^2} = 1{,}673$; $\sigma_b = \sqrt{\nu_2 - \nu_1^2} = 1{,}754$;

$\sigma_w = \lambda . \sigma_b = 0{,}0308$; $\sigma_w = \lambda . \sigma_b = 0{,}0335$; $\sigma_w = \lambda . \sigma_b = 0{,}0350$;

$R = \pm \frac{\sigma_w}{\sqrt{n}} = \pm 0{,}003$ $R = \pm \frac{\sigma_w}{\sqrt{n}} = \pm 0{,}003$ $R = \pm \frac{\sigma_w}{\sqrt{n}} = \pm 0{,}004$

Табліца № 9. Tabelle № 9.

| Межы інтэрвалаў<br>Grenzen der Zwischenräume<br>$V_a$ | Велічыня адхіленьня ад прынятага пачатку<br>Abweichungen von der ausgewählten Grundlage<br>$x = V_a - M$ | $\frac{x}{\sigma_w}$ | Адносная частата<br>Relative Dichtheit<br>$m = \frac{1}{\sigma\sqrt{2\pi}} \int_0^x e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}} dx$ | Абсалютная частата ад сярэдня-арытмэтычнай<br>Absolute Dichtheit von der arithmetischen Durchschnittszahl<br>$m = \frac{n}{\sigma\sqrt{2\pi}} \int_0^x e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}} dx$ | Тэарэтычная частата інтэрвалаў<br>Theoretische Dichtheit der Zwischenräume<br>$m_t$ | Фактычная частата інтэрвалаў<br>Tatsächliche Dichtheit der Zwischenräume<br>$m_w$ | $m_w - m_t$ | $(m_w - m_t)^2$ | $\frac{(m_w - m_t)^2}{m_t}$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **К Л Я С А I K L A S S E** | | | | | | | | | |
| 0,630 | — 0,087 | 2,825 | 0,49767 | 45,8 | 1 | 1 | 0 | 0 | 0 |
| 0,650 | — 0,067 | 2,175 | 0,48537 | 44,7 | 5 | 4 | —1 | 1 | 0,20 |
| 0,670 | — 0,047 | 1,526 | 0,43699 | 40,2 | 12 | 14 | +2 | 4 | 0,33 |
| 0,690 | — 0,027 | 0,877 | 0,31057 | 28,6 | | | | | |
| 0,710 | — 0.007 | 0,227 | 0,09095 | 8,4 | 20 | 22 | +2 | 4 | 0,20 |
| 0,717 | — | — | — | — | 24 | 17 | —7 | 49 | 2,04 |
| 0,730 | + 0,013 | 0,422 | 0,16640 | 15,3 | 18 | 20 | +2 | 4 | 0,22 |
| 0,750 | + 0,033 | 1,071 | 0,35769 | 32,9 | | | | | |
| 0,770 | + 0,053 | 1,728 | 0,45819 | 42,2 | 9 | 11 | +2 | 4 | 0,44 |
| 0,790 | + 0,073 | 2,370 | 0,49111 | 45,2 | 3 | 3 | 0 | 0 | 0 |
| **К Л Я С А II K L A S S E** | | | | | | | | | |
| 0,630 | — 0,088 | 2,627 | 0,49573 | 36,2 | 2 | 3 | +1 | 1 | 0,50 |
| 0,650 | — 0,068 | 2,030 | 0,47822 | 34,9 | 4 | 5 | +1 | 1 | 0,25 |
| 0,670 | — 0,048 | 1,436 | 0,42507 | 31,0 | 9 | 7 | —2 | 4 | 0,44 |
| 0,690 | — 0,028 | 0,836 | 0,29954 | 21,9 | | | | | |
| 0,710 | — 0.008 | 0,239 | 0,09483 | 6,9 | 15 | 9 | —6 | 36 | 2,40 |
| 0,718 | 0 | — | — | — | 18 | 20 | +2 | 4 | 0,22 |
| 0,730 | + 0,012 | 0,358 | 0,14057 | 10,4 | | | | | |
| 0,750 | + 0,032 | 0,955 | 0,33021 | 24,1 | 14 | 17 | +3 | 9 | 0,64 |
| 0,770 | + 0.052 | 1,552 | 0,43943 | 32,1 | 8 | 10 | +2 | 4 | 0,50 |
| 0,790 | + 0,072 | 2,149 | 0,48422 | 35,3 | 3 | 2 | —1 | 1 | 0,33 |
| **К Л Я С А III K L A S S E** | | | | | | | | | |
| 0,610 | — 0,111 | 3,171 | 0,49924 | 37,5 | — | 1 | +1 | 1 | 0 |
| 0,630 | — 0,091 | 2,600 | 0,49534 | 37,2 | 1 | 1 | 0 | 0 | 0 |
| 0,650 | — 0.071 | 2,029 | 0,47882 | 35,9 | | | | | |
| 0,670 | — 0,051 | 1,457 | 0,42786 | 32,1 | 4 | 4 | 0 | 0 | 0 |
| 0,690 | — 0,031 | 0,886 | 0,31327 | 23,5 | 9 | 7 | —2 | 4 | 0,444 |
| 0,710 | — 0,011 | 0,314 | 0,12172 | 9,1 | 14 | 12 | —2 | 4 | 0,286 |
| 0,721 | 0 | — | — | — | 17 | 20 | +3 | 9 | 0,529 |
| 0,730 | + 0,009 | 0,257 | 0,10257 | 7,7 | 15 | 16 | +1 | 1 | 0,067 |
| 0,750 | + 0,029 | 0,829 | 0,29673 | 22,3 | 9 | 7 | —2 | 4 | 0,444 |
| 0,770 | + 0,049 | 1,400 | 0,41924 | 31,4 | | | | | |
| 0,790 | + 0,069 | 1,971 | 0,47558 | 35,7 | 4 | 6 | +2 | 4 | 1,000 |
| 0,810 | + 0,089 | 2,543 | 0,49446 | 37,1 | 1 | 1 | 0 | 0 | 0 |

Дзеля таго, каб даць ацэнку адпаведнасьці фактычнага разьмеркаваньня ствалоў па форме ў межах кожнае клясы па таўшчыні тэарэтычна вылічанаму, альбо інакш кажучы, каб упэўніцца, што закон нармальнага разьмеркаваньня ствалоў па форме адпавядае ня толькі дрэвастану ў цэлым, але і клясам па таўшчыні, вызначым тры крытэрыі ацэнкі па раней ужытых формулах.

Гэтыя крытэрыі дадуць:

а) для першае клясы:

1) $\chi^2 = \sum \frac{(m_w - m_t)^2}{m_t} = 3,43$; адкуль па табліцы Elderton'a $P = 0,84$;

$$2)\ K_B = \left| \frac{\chi^2 - (z-1)}{\sigma_{\chi^2}} \right| = 0,92;$$

$$3)\ \frac{2\sigma_b^2}{|v_1|^2} = \pi = 2,94;$$

b) для другое клясы:

1) $\chi^2 = \sum \frac{(m_w - m_t)^2}{m_t} = 5,28$; адкуль $P = 0,63$;

$$2)\ K_B = \left| \frac{\chi^2 - (z-1)}{\sigma_{\chi^2}} \right| = 0,45;$$

$$3)\ \frac{2\sigma_b^2}{|v_1|^2} = \pi = 2,98;$$

с) для трэцяе клясы:

1) $\chi^2 = \sum \frac{(m_w - m_t)^2}{m_t} = 2,770$; адкуль $P = 0,97$;

$$2)\ K_B = \left| \frac{\chi - (z-1)}{\sigma_{\chi^2}} \right| = 1,42;$$

$$3)\ \frac{2\sigma_b^2}{|v_1|^2} = \pi = 3,20.$$

Такім чынам, поўная згоднасьць паміж сабою трох крытэрыяў дазваляе сказаць, што разьмеркаваньне ствалоў па каэфіцыенту формы $q_2$ і па клясах таўшчыні адпавядае таму-ж закону (Gauss'a), як і для дрэвастану ў цэлым.

На падставе усяго вышэй сказанага робім вывады:

1) Зьмена ствалоў у дрэвастане па каэфіцыенту формы $q_2$ падлягае закону выпадковых адхіленьняў.

2) Пабудаваньне чорна-альховых дрэвастанаў па каэфіцыенту формы $q_2$, як у цэлым, так і па клясе таўшчыні, адпавядае крывой нармальнага разьмеркаваньня, якая аналітычна выражаецца раўнаньнем:

$$y = \frac{n}{\sigma \sqrt{2\pi}} e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}}$$

3) Законамернасьць, якая выявілася ў пабудове дрэвастанаў па форме, абгрунтоўвае мэтазгоднасьць складаньня табліц для масавай таксацыі лесу на корані паводле аднаго сярэдняга каэфіцыенту формы $q_2$.

Асыстэнт Ф. П. Моісеянка.

Сьпіс скарыстанае літаратуры:


1. Проф. Н. В. Третьяков. Закон единства в строении насаждений. Москва 1927 г.
2. Проф. А. В. Тюрин. Строение одновозрастных насаждений. Записки Воронежского С.-Х. Института, том VIII, 1927 г.
3. А. И. Тарашкевич. Состав чистых насаждений. Сборник статей по лесному хоз-ву. Ленинград, 1926 г.
4. Праф. В. К. Захараў Табліцы аб'ёму, зьбегу і сартымэнтныя. Менск, 1928 г.
5. Проф. Л. К. Лахтин. Курс теории вероятностей.
6. Г. Л. Ритц. Математические методы в статистике. Москва, 1927 г.
7. А. А. Чупров. Очерки по теории статистики, 1909 г.
8. Д-р А. Леонтович. Элементарное пособие к применению методов Gauss'a и Pearson'a при оценке ошибок в статистике и биологии. Часть I-ая, 1909 г.
9. М. К. Бязверхі. Практычная варыяцыйная статыстыка для лесаводаў і аграномаў (рукапіс).


## Uber die Konstruktion der Schwarzerlenbestände dem Formquotienten $q_2$ nach.


Zusammenfassung.

1. Die Veränderund der Stämme in Beständen dem Formquotienten nach unterwirft sich dem Gesetze der zufälligen Abweichungen.

2. Die Konstrukti~n der Schwarzerlenbstände nach dem Formquotienten $q_2$ im Ganzen und auch nach Stärkeklassen entspricht der Kurve einer normalen Verteilung, die analytisch durch die Gleichung

$$y = \frac{n}{\sigma\sqrt{2\pi}} e^{-\frac{x^2}{2\sigma^2}}$$

ausgedrücht wird.

3. Die bestimmte Gesetzmässigkeit in der Beständekonstruktion dem Formquotienten bestätigt die Zweckmässigkeit des Tabellenanfertigens für Massentaxation der Bestände nur nach dem Durchschnitts—$q_2$.

F. Moissejenko.

# Якую каліфоню і шпігінар дае жывіца, сабраная ў розны час падсочнага сэзону і здабытая рознымі способамі падсочкі .

Імкненьні падсочнікаў павінны быць накіраваны да паляпшэньня способоў падсочкі ў мэтах атрыманьня ня толькі большай колькасьці жывіцы з падсочнай плошчы, але і лепшай якасьці яе. У сучасны момант, калі тэрпэнтынны промысел у нас мае шырокае распаўсюджаньне, больш ходкімі способамі падсочкі зьяўляюцца амэрыканскі і нямецкі. Пры гэтым часта яны ўжываюцца ў камбінаваным выглядзе. Як тэй так і другі спосабы некаторы час знаходзіліся ў пэрыяду дасьледваньняў і дапасаваньняў да нашых умоў, у выніку чаго зьявіліся пэўныя паказаньні ў літаратуры, у якіх даецца шырыня раны, крок уздымкі, процант засочанай паверхні ствала і г. д. Аднак у літаратуры не асьвятлялася пытаньне, якой якасьці каніфолю і шпігінар дае жывіца, якая зьбіраецца ў розныя часы падсочнага сэзону пры ўжываньні розных способаў падсочкі.

Вывучэньнем уплыву тэмпэратурных умоў на выхады жывіцы займаўся В. И. Лебедзеў[1]), пры чым ён устанавіў, што тэмпэратурныя умовы не зьяўляюцца галоўным фактарам, які мае уплыў на выхады жывіцы і што гэтыя выхады, знаходзячыся ў залежнасьці ад тэмпэратурных умоў, залежаць у большай меры ад іншых фактараў, як фізычнага характару, так і ад тэхнічных прыёмаў падсочкі. Калі выходзіць з гіпотэзы Дюпона, каторы, як вядома, дапускае, што ў смаляных ходах знаходзіцца не гатовая жывіца, а першапачатковая матчына матэрыя, якая толькі ў часе вытаку, пад уплывам энзыматычных прэцэсаў, дае жывіцу, так можна з упэўненасьцю сказаць, што склад жывіцы, сабранай у розны час, павінен зьмяняцца, як з колькаснага боку складальных яго элемэнтаў (шпігінара і каліфоні), так і з якаснага. Да разьвязваньня гэтага пытаньня можна падыйсьці з розных пунктаў гледжаньня.

Праф. Арбузаў вывучаў склад жывіцы, узятай зараз-жа пасьля вытаку яе з дрэва, але яго спосаб здабываньня жывіцы ня ўжываецца ў практыцы тэрпэнтыннага прамыслу. Мы-ж чыста практычна падыходзім да вывучэньня пытаньня, г. зн. дасьледваем прадукты жывіцы, якая выбіраецца з прыймальнікаў, куды яна трапляе, праходзячы перад тым той ці іншы шлях, у залежнасьці ад способа прамысловай падсочкі.

Як вядома, пры нямецкім способе падсочкі жывіца трапляе ў прыймальнік, прыходзячы шлях па вузкаму жалабку, пры чым гэты шлях пад восень скарачваецца. Пры амэрыканскім-жа способе падсочкі жывіца цячэ ў прыймальнік па ўсёй шырыні раны, даўжыня якой пад восень павялічваецца. Такім чынам амэрыканскі спосаб пад восень будзе даваць ўсё больш атляняную жывіцу, а нямецкі наадварот. Адсюль можна чакаць, што ў зьвязку з гэтым склад шпігінару і якасьць каліфоні пры розных способах падсочкі, будуць па рознаму зьмяняцца ад пачатку падсочнага сэзону пад канец яго.

[1]) В. И. Лебедев. Терпентинный промысел на Севере 1928 г.

Для развязваньня пастаўленай задачы намі зьбіралася жывіца з вучастку, адбітага ў Вяляціцкім лясьніцтве Менскае акругі, Барысаўскага раёну.

Вучастак гэты, плошчаю ў 0.75 гект., уяўляе сабой субар II банітэту. Паверхня вучастку роўная, мае нахіл з паўднёва-заходняга боку на паўночна-ўсходні к балоту, якое пачынаецца на адлегласьці 15—35 мэтраў. Склад: 8 хвоі (100—130 г) + 2 Елкі (60—70 г.). Дрэвастан двухпавярховы VI клясы ўзросту. Сярэдняя паўната—0,8. сярэдняя вышыня—27 мэтраў. Сярэдні дыямэтр для падсочных дрэў—48 сантымэтраў. Падрост па ўсім вучастку рэдкі яловы ва ўзросьце 10—15 год. У паўднёвай частцы сустракаюцца 10—15 гадовыя хвойкі, якія растуць паасобку. Расьліннае акрыцьцё па ўсім вучастку суцэльнае. Зялёныя мхі, з якіх Hypnum Schreberi распаўсюджан па ўсім вучастку. а астатнія: Mnium, Hylocomium і Politrichum сустракаюцца паміж іх латкамі рознае велічыні. Іншая травяная расьліннасьць разьмяркоўваецца наступным чынам: Vaccinium Myrtillus—усьцяж, Vaccinium Vitis idaea—паміж ёю. Шмат Goodyera repens, па ўсім вучастку сустракаецца Pteridium aquilinum, гнёздамі на адкрытых мясцох—Melampyrum pratense, іншыя—рэдка.

Глеба на вучастку: слаба падзолавая сугліна-супесь на супесі, падасланая пяском. Заляганьне грунтовых вод на глыбіні 2-х мэтраў у гравельным пяску.

Усяго на гэтым вучастку была падсочана 96 дрэў. Не падсочваліся толькі хвоі, дыямэтр якіх на вышыні грудзей быў меней 20 сант. і елкі. Як нямецкім, гэтак і амэрыканскім способам падсочана было па 48 дрэў, з лікам ран па 150. Пры разьбіўцы дрэў на групы падзяляліся яны пароўну па кожнай ступені таўшчыні, і прымалася пад увагу, каб дрэвы розных груп роўнамерна былі раскіданы па ўсім вучастку. Кожная ступень таўшчыні нясе пэўную колькасьць ран, пры чым падсочаная паверхня ня перавышала 40% усей паверхні ствала. Увесь вучастак падсочваўся яшчэ і ў мінулым годзе, пры гэтым ня нямецкіх каррах былі зроблены жалабкі такой даўжыні, каб іх хапіла на 2 гады працы. Прыймальнікі (казыркі) ў гэтым годзе не перабіваліся. Такім чынам жывіца на амэрыканскіх каррах, раней чым трапіць у прыймальнік, праходзіла шлях леташняй карры і сёлетняй. Жывіца на нямецкіх каррах цякла па жалабку, які з кожнай уздымкай скарочваўся.

Казыркі на амэрыканскіх ранах былі наўмысна пакінуты на леташніх мясцох, каб больш яскрава выявіць уплыў доўгага шляху на зьмены жывіцы ў параўнаньні з нямецкім спосабам падсочкі.

Уздымкі рабіліся адначасова ў абедзьвюх групах два разы на тыдзень. Зборы жывіцы браліся ў канцы чэрвеня, ліпеня, жніўня і верасьня пасьля дзьвюх уздымак апош іх сямі дзён месяца і захоўваліся каля 8 дз. у зачыненых цычкаваных бітонах, абкладзеных унутры паперай, каб жывіца не датор квалася да сьценак. Затым з жывіцы ў лябараторыі парай адганяўся шпігінар, які і дасьледваўся.

Для азначэньня якасьці каліфоні, апошняя атрымлівалася наступным чынам: жывіца на пясчанай лазьні ў фарфаравай місцы растаплялася і фільтравалася праз мэрлю ў колбу ў колькасьці 250—300 грам. Далей з гэтай фільтраванай жывіцы парай адганяўся шпігінар, пры адначасовым награваньні жывіцы, а каліфоня ўварвалася пры 170°. Атрыманыя шпігінар і каліфоня ўзважваліся. З каліфоні, пасьля яе ўваркі, адліваўся кубік (2,5 × 2,5 с.), каб мець мажлівасьць параўнаць яго з скалой амэрыканскіх марок паводле колернасьці.

Такім чынам атрымаліся даныя выхадаў каліфоні і шпігінара з фільтраванай жывіцы, і маркі каліфоні. Апрача таго ў атрыманай калі-

фоні азначалася тэмпэратура тапленьня, кіслотны лік і процант неабмыленых матэрый.

Тэмпэратура тапленьня вызначалася ў капілярных трубачках, прымацаваных да тэрмомэтру пры дапамозе каўчукавага пярсьцёнка. Тэрмомэтр разам з капілярам апускаўся ў налітую вадой прабірку, якая награвалася ў шклянцы з вадой. За пункт тапленьня мы прыймалі тую тэмпэратуру, якую паказваў тэрмомэтр у момант ашкляненьня парашкавобразнай каліфоні.

Для вызначэньня кіслотнага ліку расчынялася 1—2 гр. каліфоні ў 50 к. с. сьпірытусу і ў прысутнасьці фэноль—фталеіну тытравалася $^1/_2$ нармальным растворам едкага калія. Лік міліграм KOH, якое пайшло пры тытраваньні на 1 гр. каліфоні, дае кіслотны лік апошняй.

Для вызначэньня проціанту неабмыленых матэрый, бралася наважка 4—5 гр. каліфоні і абмыльвалася 1% растворам NaOH (у такой колькасьці, каб заставаўся лішак шчолаку) пры награваньні з адваротным халадзільнікам на вадзяной лазьні 50 хвілін. Абмылены раствор апрацоўваўся чатырохкротна ў дзяліьнай лейцы этарам. Этарныя выцяжкі зьліваліся разам, прамываліся 1% растворам NaOH, а затым вадой, і з іх адганяўся этар. Астача з неабмыленых матэрый высушвалася ў сушыльнай шафе пры t 98°—100° і ўзважвалася.

Што датычыцца шпігінару, дык для вывучэньня яго складу карысталіся фракцыянаванай перагонкай яго ў Вюрцаўскай колбе, ёмістасьцю 300 куб. с. без дэфлегматара, пры чым адбіраліся наступныя фракцыі: 1) да 160°, 2) ад 161°—165°. 3) 166°—170°, 4) 171°—175°, 5) 176°—180°. Астача лічылася за фракцыю, якая кіпіць вышэй 180°. Каб атрымаць мажлівасьць параўнаньня розных узораў шпігінару, разгонка іх рабілася пры зусім аднолькавых умовах велічыні і разьмераў перагоннай колбы, палажэньня тэрмомэтра, нагрэва і пры хістаньні атмасфэрнага ціску 741—744 mm. Перад разгонкай вызначалася адносная вага шпігінару і яго здольнасьць вярчэньня роўніцы палярызацыі.

Табліца I.

| | Спосабы падсочкі | Месяцы, у концы якіх выбіралася жывіца / Месяцы, в конце которых выбиралась живица | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Чэрвень (июнь) | Ліпень (июль) | Жнівень (август) | Верасень (сентяб.) |
| Выхады каліфоні ў %% | Нямецкі | 75,1 | 79,4 | 79,1 | 73,4 |
| Выходы канифоли в %% | Амэрыканскі | 77,3 | 79,8 | 79,1 | 80,3 |
| Выхады шпігінару ў %% | Нямецкі | 18,9 | 19,1 | 18,3 | 25,0 |
| Выходы скипидара в %% | Амэрыканскі | 17,7 | 17,6 | 17,6 | 16,6 |
| Маркі каніфолі | Нямецкі | N | M | N | M |
| паводле амэрыкан. скалы | Амэрыканскі | K | J | K | H |
| Тэмпэратура тапленьня | Нямецкі | 64,0° | 64,5° | 66,0° | 65,0° |
| (температура плавления) | Амэрыканскі | 63,0° | 64,0° | 63,5° | 63,5° |
| Кіслотны лік каліфоні | Нямецкі | 163 | 163 | 164 | 163 |
| (кислотное число канифоли) | Амэрыканскі | 163 | 162 | 162 | 163 |
| % неабмыленых матэрый | Нямецкі | 6,5 | 6,8 | 6,6 | 7,0 |
| % неомыляемых веществ | Амэрыканскі | 6,6 | 6,3 | 7,1 | 6,4 |

Пры вывучэньні даных, паданых у табліцы I, перш за ўсё неабходна адзначыць, што жывіца, здабытая па амэрыканскаму спосабу дае каліфоню больш афарбаваную, чым каліфоня з жывіцы нямецкіх ран. У той час, як нямецкі спосаб падсочкі дае каліфоню маркі N і M, амэрыканскі спосаб дае маркі K, J і нават H. Інтэнсыўнасьць афарбоўкі „амэрыканскай“ каліфоні павялічваецца пад восень, што зусім зразумела бо жывіца, праходзячы большы шлях пад восень, больш атляняецца.

Каліфоня з жывіцы нямецкіх ран дае хоць і нязначнае, але усё-ж такі некаторае павышэньне тэмпэратуры тапленьня (у сярэднім прыблізна на 1,5°). Процант неабмыленых матэрый у абодвух выпадках мала зьмяняецца. Тут толькі можна заўважыць, што нямецкі спосаб падсочкі дае каліфоню з больш сталым утрыманьнем неабмыленых матэрый.

Кіслотны лік, як відаць з табліцы, амаль што ня зьмяняецца. Ва ўсякім разе заўважыць якую-небудзь заканамернасьць тут нельга. Што датычыцца выхадаў каліфоні, так хоць яны пры нямецкім спосабе падсочкі крыху і памяншаюцца, але-ж за тое жывіца з нямецкіх карр дае большы выхад шпігінару.

## Шпігінар Скипидар

Табліца II.

| | | Спосабы падсочкі | Месяцы | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Чэрвень (июнь) | Ліпень (июль) | Жнівень (август) | Верасень (сентяб.) |
| Адносная вага пры 20° / Удельный вес при 20° | | Нямецкі | 0,8595 | 0,8590 | 0,8582 | 0,8589 |
| | | Амэрыканскі | 0.8600 | 0,8600 | 0,8585 | 0.8599 |
| Здольнасьць вярчэньня $\alpha_D$ / Вращательная способность | | Нямецкі | 16,6° | 18,1° | 17,1° | 23,0° |
| | | Амэрыканскі | 20,0° | 21,4° | 22,6° | 24,1° |
| Фракцыі ў вагавых %/% / Фракции в весовых %/% | Да 160° | Нямецкі | 49,93 | 50,55 | 53,31 | 83,98 |
| | | Амэрыканскі | 43,78 | 33,78 | 59,47 | 73,03 |
| | 161°—165° | Нямецкі | 36,54 | 38,53 | 35,11 | 11,88 |
| | | Амэрыканскі | 39,69 | 50,60 | 32,81 | 20,98 |
| | 166°—170° | Нямецкі | 7,81 | 5,80 | 6,23 | 1,93 |
| | | Амэрыканскі | 9,71 | 8,52 | 4,71 | 2,98 |
| | 171°—175° | Нямецкі | 1,79 | 1,20 | 1,88 | 0,36 |
| | | Амэрыканскі | 2,33 | 2,62 | 1,21 | 0,72 |
| | 176°—180° | Нямецкі | 1,07 | 1,00 | 1,09 | 0,47 |
| | | Амэрыканскі | 1,48 | 1,08 | 0,44 | 0,31 |
| | Вышэй 180° | Нямецкі | 2,54 | 2,48 | 2,31 | 0,94 |
| | | Амэрыканскі | 3,00 | 2,81 | 1,35 | 1,56 |
| Страты / Потери | | Нямецкі | 0,32 | 0,44 | 0,06 | 0,44 |
| | | Амэрыканскі | 0,01 | 0,59 | 0,01 | 0,42 |
| Атмосферны ціск, пры якім утваралася разгонка / Атмосферное давление, при котором производилась разгонка | | | 741 mm. | 744 mm. | 742 mm. | 741 mm. |

Пераходзячы далей да разгляданьня табл. II, мы можам адзначыць, што способ падсочкі ў значнай ступені адбіваецца на складзе шпігінару. Так для шпігінара чэрвеньскага збору жывіцы з нямецкіх карр мы маем $[\alpha]_D = +16°$, а для шпігінара з жывіцы, здабытай па амэрыканскаму спосабу — $[\alpha]_D = +20°$. Пінэнавая фракцыя для першага складае амаль што 50%, для другога—43,78% г. з. на 6,22% меней. Такім чынам мы тут маем шпігінар з большай здольнасьцю вярчэньня і з меншым утрыманьнем пінэна, што пацьвярджае палажэньне, выказанае Б. А Арбузавым[1]), што оптычная дзейнасьць шпігінару не заўсёды зьяўляецца крытэрыем для суджэньня аб колькасьці пінэнавай фракцыі, г з. аб якасьці шпігінару.

Меншае процантнае ўтрыманьне пінэнавай фракцыі ў шпігінары, адогнаным з жывіцы, здабытай амэрыканскім спосабам, наглядаецца на працягу ўсяго падсочнага сэзону і ў канцы яго розьніца дасягае 10%. Выключэньне дае жнівень месяц, дзе наглядаецца адваротнае зьявішча.

Далей, калі параўнаць склад шпігінараў па месяцах, так тут мы ўбачым рэзкую розьніцу ў складзе шпігінараў, адгоненых з жывіцы першых збораў (чэрвень м-ц) і збораў у канцы сэзону (верасень м-ц). Калі нямецкі спосаб падсочкі даў ў чэрвені шпігінар, які ўтрымлівае амаль што 50% пінэнавай фракцыі, так у верасьні мы маем 84%, г. з. на 34% больш. Тое самае дае і амэрыканскі спосаб падсочкі. У чэрвені шпігінар утрымлівае 43,78% пінэну, а ў вэрасьні—73,03%, г зн. на 29,25% болей. Такім чынам на працягу падсочнага сэзону мы маем паступовае нарастаньне пінэнавай фракцыі і шпігінар з жывіцы верасьневага збору, здабытай нямецкім спосабам падсочкі, зьяўляецца лепшым па якасьці і набліжаецца да шпігінара, атрыманага з жывіцы, здабытай спосабам праф. А. Е. Арбузава, склад якога дасьледваўся Б. А. Арбузавым[2]). Паводле яго дасьледваньняў у склад гэтага шпігінара ўваходзіць да 80% α—пінэну. Б. Арбузаў дасьледваў таксама шпігінар з жывіцы, здабытай французкім спосабам падсочкі. Гэты шпігінар паказаў наступны склад: dα—пінэну 81%, $d\Delta^3$ карэну—14% і вышэйшых фракцый 5%. Як відаць пасьля пінэну наступнай галоўнай складальнай часткаю шпігінара зьяўляецца карэн. Наяўнасьць апошняга зьяўляецца вельмі важным фактарам для ацэнкі шпігінару, бо карэн абумоўлівае моцную атляняльную здольнасьць расійскага жывічнага шпігінару, які перавышае атляняльную здольнасьць французкага шпігінару. Апошні ня ўтрымлівае карэна, а складаецца з α і β пінэнаў, якія менш атляняюцца.

Пры разгонцы жывічнага шпігінару пад звычайным атмасфэрным ціскам фракцыя 165°—168° паводле дасьледваньняў Б. Арбузава ўяўляе сабой чысты $d\Delta^3$ карэн. Калі мы возьмем з табліцы II-й фракцыю 166—170°, у якую трапіў, трэба думаць, увесь карэн, які знаходзіўся ў нашых шпігінарах, так мы убачым, што амэрыканскі спосаб падсочкі даў шпігінар з большым утрыманьнем карэна, чым нямецкі. Прычым найболей карэну даюць шпігінары з жывіцы чэрвенскага збору. Высокакіпучых фракцый, наогул, шпігінар з жывіцы, атрыманай амэрыканскім спосабам, утрымлівае болей.

Падагульваючы вышэйпаданае, можна зрабіць наступныя вывады:

1) Нямецкі способ падсочкі дае каліфоню больш высокай якасьці, як па тэмпэратуры тапленьня, так і па колернасьці, чым амэрыканскі.

---

[1]) Б. А. Арбузов. Изучение состава живицы из Pinus silvestris. Журнал. Физико-химического Общества. Т. LIX, вып., 3—4.

[2]) Б. Арбузов. О химическом составе русского живичного скипидара из Pinus silvestris. Журнал Физико-химич. Об-ва. Том LXI, вып. II.

2) Спосаб падсочкі амаль што ня уплывае на процант утрыманьня ў каліфоні неабмыленых матэрый.

3) Нямецкі спосаб падсочкі дае шпігінар лепшай якасьці, чым амэрыканскі, калі лічыць за лепшы шпігінар той, які больш утрымлівае піненавай фракцыі.

4) Найлепшай якасьці шпігінар дае жывіца збораў у канцы падсочнага сэзону, здабытая як амэрыканскім, гэтак і нямецкім спосабамі падсочкі (% пінэну ў першым—73, а ў другім—84%)

*Дацэнт* К. М. Караткоў і *асьпірант* В. П. Сініцкі.

## Какую канифоль и скипидар дает живица, собранная в разное время подсочного сезона и полученная разными способами подсочки

### Краткое содержание.

В этой работе нами изучались продукты живицы, выбираемой из приемников, куда она попадает, проходя предварительно тот или иной путь, в зависимости от немецкого и американского способов подсочки. Образцы живицы брались в конце июня, июля, августа и сентября месяцев из сборов от двух вздымак последних семи дней месяца. Полученный из живицы скипидар разгонялся в Вюрцевской колбе без дефлегматора пры атмосферным давлении. Колебания в атмосферным давление не превышали 3 mm.

При изучении даных, приведенных в табл. I, можно отметить, что немецкий способ подсочкі дает более лучшую по цветности конифоль и с немного высшей температурай плавления (в среднем на 1,5°). На содержание же неомыляемых веществ способ подсочки не оказал влияния. Кислотное число тоже почти не изменяется.

Изучая таблицу II мы видим, что способ подсочки влияет в значикельной степени на состав скипидара. Для скипидара из живицы июньизого сбора с немецких карр мы имеем $[\alpha]_D = +16°$, и для скипидара но живицы, полученной по американскому способу $[\alpha]_D = +20°$[1]). Пинествая фракция для первого составляет 50%, а для второго 43,78%, т.е. на 6,22% меньше. Меньшее процентное содержание пиненовой фракции в скипидаре из живицы, полученной по американскому способу, наблюдается на протяжении всего подсочного сезона и в конце его разница достигает 10%. Исключение предоставляет август м-ц, где наблюдается обратное явление.

Сравнивая состав скипидара по месяцам, мы замечаем резкую разницу в составе скипидаров из живицы июньского и сентябрьского сборов. Немецкий способ подсочки дал в июне скипидар с 50% пиненавой фракции, а в сентябре с 84%, т. е. на 34% больше. Тоже дает и американский способ: в июне в скипидаре 43,78% пинена, а в сентябре 73,03%. Таким образом мы наблюдаем наростание пиневой фракции к

[1]) Увеличение вращательной способности и удельного веса скипидара, отогнанного из живицы, полученной по амэрыканскому способу, можно, пожалуй, об'яснить присутствие в нем вербенона, который был извлечен Блюманом и Цейтшелем из продуктов окиеления α-пинена из алепского скипидара. Его $[\alpha]_D = +249,°62$, а $d_{15} = 0,981$.

осени, и живица сентябрьского сбора, полученная по немецкому способу, дает лучший по качеству скипидар и приближается по составу к скипидару из живицы, полученной по способу проф. А. Е. Арбузова, состав которого исследовался Б. Арбузовым[1]). По его исследованиям скипидар содержал до 80% пинена. Исследованный Б. Арбузовым скипидар полученный по французскому способу подсочки имел такой состав: dα—пинена 81%, d$\Delta^3$ карена 14% и высших фракций 5%

При разгонке живичного скипидара под обыкновенным давлением, фракция 165°—168°, по исследованиям Б. Арбузова, представляет собою чистый d$\Delta^3$ карен. Если мы возьмем в таблице II фракцыю 166°—170°, в которую, надо палагать, попал вес карен, то мы увидим, что скипидар из живицы, полученной по амэрыканскому способу падсочки, дает больше карена, чем скипидар из живицы с немецких карр, при чем найболее богатый кареном скипидар дает живица июньского сбора. Наличие того или иного количества карена является важным фактаром при оценке скипидара, так как доказано, что сильная окислительная способност. русского скипидара обусловливается именно присутствием карена. Французский же скипидар не содержит карена и состоит из α и β пиненов Он обладает меньшей окислительной способностью, чем русский скипидар

*Доцент* К. Н. Коротков.

*Аспирант* В. П. Синицкий.

[1]) Б. Арбузов. О химическом составе русского живичного скипидара. Журнал Физ. Хоз. Об-ва. Т. LXI вып. II.

# Вытворчыя нормы па лесакультурных і лесамэліарацыйных работах для БССР (праэкт).

Адсутнасьць вытворчых норм па лесакультурных і лесамэліарацыйных работах, якія-б адпавядалі сапраўдным жыцьцёвым запатрабаваньням, якія-б давалі магчымасьць рацыяналізаваць у далейшым як тэхнічныя спосабы асобных работ так і арганізацыйныя мэтады іх,—недавала магчымасьці хуткім тэмпам разьвівацца і ўдасканальвацца тэхніцы вытвару паказаных работ.

Акрамя таго, адсутнасьць дэталёва распрацаваных сапраўдных вытворчых норм не давала магчымасьці лясьнічым дакладна падлічваць патрэбную колькасьць працоўнай сілы пры практычным выкананьні асобных лесакультурных і лесамэліарацыйных работ, што, як вядома, цягнула за сабой неэканомнае выдаткаваньне адпускаемых сродкаў.

Усё гэта прымусіла Наркамзем Беларусі прыступіць да вывучэньня норм і распрацоўкі ўрочнага палажэньня па галінах лесакультур і лесамэліарацый.

Праца гэта пачалася ў 1927 годзе і працягвалася да 1929 году. Уся праца па сутнасьці зьбіраньня матар'ялу разьбіваецца на дзьве часткі: а) зьбіраньне матар'ялу тым-жа мэтадам хронамэтражу рацыяналізатарам Арг. Бюро Наркамзема і б) зьбіраньне матар'ялу тым-жа мэтадам апаратам лясьніцтв (лясьнічыя, пам. лясьнічыя).

Усяго эроблена 2825 назіраньняў. З іх рацыяналізатарам—621, што складае 22%. Назіраньнямі ахоплена 48 асобных відаў работ. Матар'ял зьбіраўся па 41 лясьніцтву, што па акругах дае ў %%-ах наступныя лічбы.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менская | акруга | ахоплена | назіраньнямі | 17% | усіх | лясьн-в | акругі |
| Бабруйская | „ | „ | „ | 38% | „ | „ | „ |
| Мазырская | „ | „ | „ | 18% | „ | „ | „ |
| Гомельская | „ | „ | „ | 12% | „ | „ | „ |
| Магілёўская | „ | „ | „ | 30% | „ | „ | „ |
| Аршанская | „ | „ | „ | 6% | „ | „ | „ |
| Віцебская | „ | „ | „ | 13% | „ | „ | „ |
| Полацкая | „ | „ | „ | 30% | „ | „ | „ |

Сярэдні процант ахопленых назіраньнямі лясьніцтв Беларусі складае 22%.

Назіраньні рабіліся абавязкова і выключна на працягу ўсяго працоўнага дню і толькі над аднымі і тымі-ж рабочымі ў працягу данага працоўнага дню. У некаторых толькі выпадках, для кантроля, дазвалялася рабіць назіраньні ў пачатку і ў канцы дню па 2 часа над адной і тэй-жа работай над аднымі і тымі-ж рабочымі.

Апрацоўка сабранага матар'ялу рабілася наступным парадкам: па кожнаму назіраньню абсалютныя выразы вялічынь у чалавека-гадзінах

прыводзіліся да аднаго, для кожнага віду работы вымерніку, напрыклад, затрачаны час для баразновага пасеву—на адзін мэтр, для пасадкі—да аднаго сеянца, для рабленьня пляцкоў — да аднаго пляцка і г. д., такі шлях дае магчымасьць наглядна ўяўляць якасьць сабранага матар'ялу, яго прыгоднасьць для апрацоўкі і канкрэтна ілюстраваць разыходжаньне паміж атрыманымі данымі.

*Напрыклад*: на рабленьне 50-ці пляцкоў патрачана 1 гадз. 30 хв., на 85 пляцкоў — 2 гадзіны 50 хв., на 33 пляцкі 56 хвілін і г. д.; прыведзеныя лічбы не даюць магчымасьці рабіць адпаведных канкрэтных вывадаў, а для гэтага неабходна знайсьці адпаведныя вялічыні, якія паказваюць затрату часу на адзінку работы ў даным прыкладзе на адзін пляцок; зрабіўшы гэта, мы атрымаем: 1,8 хв., 2,0 хв., 1,7 хв. Атрыманыя лічбы ўжо даюць вызначанае канкрэтнае ўяўленьне аб якасьці сабранага матар'ялу.

Выходзячы з атрыманых паказальнікаў шляхам знаходжаньня сярэдняга ўзважанага з усіх вялічынь па данай рабоце вызначаем неабходны час для больш буйных маштабных работ, удобных для вытвару падліку і адпавядаючых разьлікаў. Сярэднія вялічыні для вытвару асобных работ знаходзіліся для кожнага лясьніцтва і з іх сярэднее для ўсёй Беларусі ўваходзіла ў вызначэньне сапраўдных норм. Гэты мэтад ужываўся ў апрацоўцы матар'ялу, як па назіраньнях лясьнічых, так і па назіраньнях рацыяналізатара.

Для вызначэньня верагоднасьці серэдняга арытмэтычнага (сярэдняга ўзважанага) і для высьвятленьня, наколькі наша сярэдняя падпадае ўплыву выпадковасьці, дадаткова вызначалася велічыня сярэдняй памылкі для кожнага асобнага віда работ [1]).

| Найменьне работ | Адзінка работ | Кольк. прац. сілы | |
|---|---|---|---|
| | | Конных дзён | Пешых дзён |
| **I. Апрацоўка глебы** | | | |
| 1. Правядзеньне баразён плугам, глыбінёю да 10 см. | | | |
| суглінак | | 0,13 | — |
| сухая пяшчаная | 1000 п. м. | 0,08 | — |
| мокрая супясь | | 0,11 | — |
| 2. Рабленьне пляцкоў: зьняцьцё дзёрану матыкамі (пляцкі ў папярэчніку 0,36 кв. мтр.). | | | |
| суглінак | | — | 3,5 |
| сухая пяшчаная | 1000 пляц. | — | 1,5 |
| окрая супясь | | — | 2,0 |

[1]) Асноўны матар'ял, дастаўлены аўтарам, у выглядзе табліцы з паказаньнем кожнага выпадку работы ў кожным лясьніцтве ня друкуецца з прычыны яго грамоздкасьці і дарагавізны надрукаваньня, а перададзен для сховы ў навуковы архіў Цэнтральнай Лясной Дасьледчай Станцыі БССР. Акрамя таго, гэга-ж табліца ў асноўным матар'яле маецца, вядома, ў Наркамземе БССР. Тут-жа надрукавана канчатковая табліца ўрочных норм. Па асноўнаму матар'ялу аўтара магчыма скласьці табліцу норм і з іншым падзелам работ.

*Рэдакт.*

| Найменьне работ | Адзінка работ | Кольк. прац. сілы | |
|---|---|---|---|
| | | Конных дзён | Пешых дзён |
| 3. Рыхленьне глебы на пляцкох матыкамі | | | |
| суглінак | | — | 1,1 |
| сухая пяшчаная | 1000 пляц. | — | 0,8 |
| мокрая супясь | | — | 1,0 |
| 4. Рыхленьне глебы на пляцкох сьвідрамі | | | |
| суглінак | | — | 1,4 |
| сухая пяшчаная | 1000 пляц. | — | 0,9 |
| мокрая супясь | | — | 1,0 |
| 5. Рыхленьне ў боразнах месц для пасадкі | 1000 саж. | — | 0,5 |
| 6. Узорваньне 1 мэтравых палос і іх баранаваньне | 1000 п. м. | 0,42 | — |
| 7. Рыхленьне баразён матыкамі для суцэльнага пасеву | 1000 п. мтр. | — | 0,31 |
| 8. Апрацоўка глебы пляцкамі ў папярочніку 0,25 кв. мтр., пераштыкоўка іх і рыхленьне для пасадкі дубу | 100 пляц. | — | 1,0 |
| **II. Пасеў і пасадка.** | | | |
| 9. Пасеў сасны і елкі ў боразны радковы | 1000 п. мтр. | — | 0,53 |
| 10. „ „ „ „ „ месцамі | 1000 месц | — | 0,63 |
| 11. „ „ „ „ пляцкі | 1000 пляц. | — | 0,63 |
| 12. „ дубу ў пляцкі (на 1 пляц. па 4—6 жaлудоў | 1000 „ | — | 4,8 |
| 13. Пасеў сасны і елкі ў пляцкі ручною сеялкаю | 1000 „ | — | 0,5 |
| 14. „ „ „ „ боразны сеялкай „Плянэт": месцамі | 1000 месц | — | 0,15 |
| радковы | 1000 п. мтр. | | 0,13 |
| 15. Пасеў суцэльны ў 1 мэтр. палосы сасны і елкі | 1000 п. м. | — | 1,2 |
| 16. Пасадка ў боразны сеянцаў іглястых парод 1-гадовых (пад меч) | 1000 сеянцаў | — | 1,3 |
| 17. Пасадка 3-х гадовых сеянцаў іглястых парод у боразны | 1000 сеянцаў | — | 4,4 |
| 18. Пасадка 1-гадовых сеянцаў іглястых парод у суцэльную ральлю (пад меч) | 1000 „ | — | 1,4 |
| 19. Пасадка аднагадовых сеянцаў іглястых парод у пляцок (пад меч) | 1000 пляц. | — | 1,8 |
| 20. Пасадка трохгадовых сеянцаў іглястых парод у пляцкі (пад меч) | 1000 „ | — | 5,2 |
| 21. Пасадкэ аднагадовых сеянцаў дубу ў пляцкі пад меч Колесава па 5 шт. у пляцок | 100 „ | — | 1,5 |
| 22. Поліва і рыхленьне пасадак сасны (у папярочніку 0,35 мтр) | 1000 саж. | — | 1,7 |

| Найменьне работ | Адзінка работ | Кольк. прац. сілы | |
|---|---|---|---|
| | | Конных дзён | Пешых дзён |
| **III. Работы па гадавальніку** | | | |
| 23. Узорваньне і баранаваньне ў гадавальніку | | | |
| пясок | | 0,30 | — |
| сьвежая супясь | 1000 кв. м. | 0,40 | — |
| суглінак | | 0,60 | — |
| 24. Пераштыкоўка глебы пасьля ўзорваньня— на 1 штык | 100 „ „ | — | 0,65 |
| на 2 штыкі | | — | 1,2 |
| 25. Пераштыкоўка глебы гадавальніку на штык— пясок | | — | 1,0 |
| мокрая супясь | 100 „ „ | — | 1,3 |
| суглінак | | — | 2,2 |
| 26. Пераштыкоўка глебы гадавальніку на 2 штыкі— пясок | | — | 2,0 |
| мокрая супясь | 100 „ „ | — | 2,5 |
| суглінак | | — | 4,0 |
| 27. Разьбіўка плошчы гадавальніку на грады, насыпка іх і зраўнаваньне— пясок | 100 „ „ | — | 1,0 |
| суглінак | | — | 1,2 |
| 28. Маркіроўка прыгатаваных град і пасеў ігластых і лісьцёвых парод з засыпкай насеньня рукамі (пры адназубай сеяльнай дошцы) | 100 кв. м. карыс. плош. | — | 1,5 |
| 29. Тое самае без засыпкі насеньня (пры аднаэубай сеяльнай дошцы) | 100 кв. м. | — | 1,0 |
| пры 5-ці зубай сеяльнай дошцы | кар. плош. | — | 0,8 |
| 30. Покрыўка засеяных град мохам з падноскай на адлегласьць 20 мэтраў | 100 кв. м. кар. плош. | — | 0,9 |
| 31. Покрыўка засеяных град яловым гальлём з падноскай на адлегласьць 20 мэтраў | 100 кв. м. кар. плош. | — | 0,25 |
| 32. Маркіроўка і пасеў белай акацыі з засыпкай насеньня рукамі пры аднаэубай сеяльнай дошцы | 100 кв. м. кар. плош. | — | 1,9 |
| 33. Прыкатваньне засеяных град дзеравяным чурбаком | 100 кв. м. кар. плош. | — | 0,15 |
| 34. Усе работы (акрамя агарожы) па дубоваму гадавальніку патрабуюць (дошка 5-ці зубая, парацоўка глебы ручная, пасеў з засыпкай насеньня рукамі, пакрыўка мохам) | 100 кв. м. кар. плош. | — | 7,5 |
| 35. Паліваньне засеяных град гадавальніку лейкай, ёмістасьцю ў 1 вядро з падноскай на адлегласьць 40 мэтраў (паліваньне аднакратнае) | 100 кв. м. кар. пл. | — | 0,3 |

| Найменьне работ | Адзінка работ | Кольк. прац. сілы | |
|---|---|---|---|
| | | Конных дзён | Пешых дзён |
| 36. Аднакратнае поліва град гадавальніку . . . . | 100 кв. м. кар. плош. | — | 1,6 |
| 37. Агарожа жэрдкамі, з замацоўваньнем іх ў слупох кручаным бярозавым хворастам; агарожа вышынёю ў 1½ мтр. . . . . . . . . . . . | 100 паг. мтр. | — | 3,1 |
| **IV. Шэлюгаваньне.** | | | |
| 38. Прагонка баразён плугам, глыбінёю 22—27 см. | 1000 паг. м. | 0,08 | — |
| 39. Укладка шэлюгі ў баразны і ўтаптваньне . . | 1000 „ „ | — | 0,65 |
| 40. Засыпка шэлюгі па прагнаных баразнах . . . | 1000 „ „ | 0,08 | 0,— |
| 41. Разноска шэлюгі па кульцівіруемай плошчы пры 1½ мтр. адлегласьці між баразнамі . . . . . | на 1 га | — | 1,25 |
| 42. Пасадка чаранкоў шэлюгі пры пабудове шэлюговай плянтацыі (у плужныя баразны) . . . | 1000 чаранк. | — | 3,6 |
| 43. Пасадка чаранкоў тапалі пад меч Колесава . . | 1000 „ | — | 4,0 |
| **V. Аблясеньне пяскоў.** | | | |
| 44. Выкопка 2-х гадовых сеянцаў іглястых парод з град гадавальніку . . . . . . . . . . . . | 10000 шт. | — | 0,23 |
| 45. Пераборка 2-х гадовых сеянцаў іглястых парод . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1000 „ | — | 0,16 |
| 46. Падноска на адлегласьць 200—300 м. 2-х гадовых сеянцаў іглястых і ліcьцёвых парод . . . | 10000 „ | — | 0,13 |
| 47. Прыкопка на месцы аблясеньня, покрыўка мохам і паліўка прыкопаных сеянцаў . . . . . | 10000 „ | — | 0,25 |
| 48. Пасадка паміж радамі шэлюгі 2-х гадовай сасны . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1000 „ | — | 1,7 |

*Інспэктар па рацыяналізацыі НКЗ БССР*

1929 г.
Менск.

**В. Амаліцкі.**

торыі Жорнаўскай Раённай Лясной Дасьледчай Станцыі Бабруйскай акругі БССР у 1929 г.

| Зьяўленьне на парастках новых пучкоў | | | Дасьпяваньне пладоў, або насеньня | | | Ападаньне пладоў, або насеньня | | | Ступень ураджайнасьці пладоў або насеньня | Зьмена афарбоўкі лісьцяў | | Ападаньне лісьцяў | | | Адзервяненьне парастк. | | Працяжнасьць вэгетацыйнага пэрыяду | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| новыя пучкі зьявіліся, але ледзь прыкметны | Новыя пучкі выраслі бадай да нармальнай веліч. | Новыя пучкі набылі нармальную велічыню, форму, афарбоўку і выгляд лусачак | Пачатак дасьпяваньня | Масавае дасьпяваньне | Канец дасьпяваньня | Пачатак натур. ападаньня пладоў або насен. (дасьп.) | Найбольшае ападаньне пладоў або насеньня | Канец ападаньня пладоў або насеньня | | Пачатак васеньн. зьмены афарбоўкі лісьцяў | Агульная зьмена афарбоўкі лісьцяў | Пачатак васеньняга ападаньня лісьцяў | Масавае (найбольшае) ападаньне лісьцяў | Канец ападаньня лісьцяў | Пачатак адзервяненьня парасткаў | Канец адзервяненьня парасткаў | Ад якога да якога часу | Лік дзён |
| 11а | 11б | 11в | 12 | 3 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |

зусім новыя парасткі

чынам, верхняе гальлё

маладыя галіны

гэтымі пародамі ў гэтым годзе не-
вытвараліся

ной Дасьледчай Станцыі М. М. Якаўлеў.

# Навуковыя працы па аддзелу лясной гаспадаркі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскай і Лясной Гаспадаркі імя Леніна за 1928—1929 г.

I.

Праца Аддзелу Лясной Гаспадаркі, як і ў мінулым годзе, складалася з наступных разьдзелаў: 1) з навукова-дасьледчых работ 5 П/Аддзелаў, 4) Лясных Дасьледчых вучасткаў, Станцыі спробы лясного насеньня і вэгетацыйнага доміку і навукова-дасьледчых экспэдыцый, 2) спэцыяльных дасьледваньняў па даручэньню Наркамзему БССР і Лесбела, 3) з работ па падрыхтоўцы асьпірантаў, 4) консультацый па запатрабаваньням лясьніцтв БССР і Кіраўніцтва Лясамі БССР.

Працягвалася арганізацыйная дзейнасьць па аддзелу. Апошняя ў справаздачным годзе акрамя далейшага разгортваньня П/Аддзелаў і ужо існаваўшых Лясных Дасьледчых Вучасткаў, складалася яшчэ з таго, што вясною 1929 году пачата арганізацыя чацьвертага дасьледчага вучастку, менавіта: Сьляпянскага, каля г. Менску, а таксама пачата арганізацыя пры Сьляпянскім Вучастку Менскага дэндралягічнага парку. Па Сьляпянскаму вучастку выканана прыёмка Сьляпянскай лясной дачы, плошчаю каля 900 гэктараў, выканана абмежаваньне дачы, папярэдняе азнаямленьне з ёю, арганізавана ахова дачы, выкананы неабходныя працы па будаўніцтву будынкаў у дачы. Па Дэндралёгічнаму парку выканана наступнае: абмежавана адведзеная для парку плошча, зроблена нівэліроўка тэрыторыі парку і згатавана мапа з гарызанталямі праз 0,25 мэтраў, вясною 1929 г. закладзен пры парку лясны гадавальнік на плошчы 400 кв. мэтраў, дзе на 52 градках увосень 1929 году высеяна 15 відаў дрэў і кустоў, утворана лясная школа на плошчы 400 кв. мэтраў, дзе высаджана каля 35 відаў дрэў і хмызьнякоў. Падрыхтавана глеба гадавальніку і школы для пасеву і пасадак вясною 1930 году. Падрыхтавана глеба для сталых пасадак парку. Пачата пабудова плоту вакол парку. Падрыхтован матар'ял для ўтварэньня конкурсу на разьбіўку парка. Акрамя таго, закладзены гадавальнік і лясная школа, якія ў 1930 годзе будуць скарыстаны для Выстаўкі, а пасьля для Дэндралягічнага парку і Сьляпянскага Вучастку.

Навукова-дасьледчая праца ў справаздачным годзе выконвалася згодна зацьверджаных праграм з некаторымі скарачэньнямі па грунтоўным работам і з пашырэньнем экспэдыцыйных досьледаў.

II.

Досьледы і навукова-дасьледчыя працы справаздачнага году пералічваюцца ў далейшым па Пад'аддзелам, а ў межах кожнага Пад'аддзелу па групах.

А.

## Па Аддзелу Лесазнаўства, дагляду і высечак.

I. Працы па вывучэньню дэндралёгіі і біалёгіі дрэўных парод БССР.

1) Працягваліся леса-фэналёгічныя назіраньні над дрэвамі і кустамі ў чатырох пунктах Беларусі: у Горацкім дэндралёгічным садзе над 135 экзэмплярамі 128 відаў дрэў і хмызьнякоў, на Горацкім лясным дасьледчым вучастку над 27 экзэмплярамі 24 відаў і над 5 расьлінымі асоцыяцыямі, на Веляціцкім лясным дасьледчым вучастку над 49 экзэмплярамі 35 відаў і на Жорнаўскім лясным дасьледчым вучастку над 85 экзэмплярамі 55 відаў.

2) Працягвалася тэма па вывучэньню калярова-насенных рас сасны звычайнай (пачата ў 1928 г.). Вырашчваліся ў градцы № 4 і № 5 кварталу 19 дасьледчага гадавальніку ў Горках 2-х гадовыя сеянцы асобна па расам.

3) Таксама там-жа працягвалася вырашчваньне 8×5 сэрый фармацыйных рас хвоі звычайнай.

4) Працягвалася вырашчваньне 2-х гадовых сеянцаў елкі звычайнай для вывучэньня сэзонна-дыморфных адмен елкі звычайнай.

5) Працягваліся досьледы па параўнальнаму вырашчваньню дрэўных парод у лесе, у тым ліку і чужаземных.

а) Абсьледаваны 10|VI—29 г. пасадкі ў кв. № 44 Горацкага вучастку, клетка № 26, якія ўтвораны вясною 1928 г. Захавалася наступная колькасьць ад высаджаных экзэмпляраў: Acer tataricum—61⁰|₀, Acer platanoides - 61,6⁰|₀ Robinia pseudoacacsa — уся прапала, Gleditschie triacanthos — 48,2⁰|₀, Fraxinus Mandschurica — 86,5⁰|₀, Juglans Mandschurica — 8.8⁰|₀, Acer campeetre—6,3⁰|₀, Acer Negundo 43,0⁰|₀, Acer pseudoplatanus —усе прапалі, у другім месцы, Acer tataricum — i Acer platanoides захавалася 41,5⁰|₀. Клёны пастрадалі галоўным чынам ад таго, што кара каля шыйкі кораня пагрызена мышамі. Глядзічыя—ад марозу. Белая акацыя—ад марозу.

б) На Веляціцкім лясным вучастку ў кв. № 48 высаджана 1350 шт. 2-х гадовых сеянцаў Pinus Gembra—кедра сібірскага—на плошчы 982 кв. метры. Пасадка зроблена чыстымі культурамі пры разьмяшчэньні 1,5×0.5 м. Вясеньні вучот паказаў, што захавалася 1151 экзэмпляр, г. зн. 85⁰|₀.

6) Працягнут досьлед па вывучэньню шпаркасьці росту 19 відаў у школе Горацкага гадавальніку.

7) Працягнута дасьледваньне 2-х адмен дубу на Жорнаўскім вучастку.

8) Закончан досьлед па акальцоўцы асіны ў клетцы № 1, кв. № 45 і ў клетцы № 52, кв. № 44 Горацкай дачы. На першай клетцы акальцаваньня вялося праз адзін месяц. Нагляданьні паказалі, што акальцованая асіна аблісьцяецца на 6 дзён пазьней неакальцованай, а канчатковае ападзеньне лісьцяў раней на 6 — 7 дзён, чым у асін неакальцаваных. Усяго ў гэтай клетцы акальцавана 71 асіна.

У клетцы № 52 уся асіна была акальцавана ў маі месяцы 1925 г. Вясною 1929 году 44 асіны не далі лісьця, зрабіліся засохшымі, а дзьве асіны далі лісьці дробныя, каторыя былі бледна-жоўтымі і апалі 1|VIII—29 г. Такім чынам досьлед у гэтай клетцы паказаў, што ў нас для завяльваньня асіны на корані патрэбна ня менш 3 х год, а ў выключных

выпадках і 4-х год, г. зн. больш, чым лічылася да гэтуль на падставе старога вопыту пад Ленінградам. Практычнае значэньне гэтага закончанага вопыту тое, што яго трэба скарыстаць пры паступовых высечках у яловых дрэвастанах БССР. Пры высечцы завяленых асін трэба, каб Лесатэхналёгічны Пад'аддзел зрабіў досьлед далейшы: вывучэньне тэхнічных якасьцяй заявленай на корані асіны.

9) Працягвалася вырашчваньне экзотаў на гадавальніках для далейшых досьледаў.

## II. Дасьледваньне біалёгіі лясных дрэвастанаў і ўмоў месца вырастаньня БССР.

10) Скончана вывучэньне глебы на Веляціцкім лясным дасьледчым вучастку.

11) Працягвалася па ранейшай праграме вывучэньне рэжыму грунтовых вод на Горацкім вучастку ў розных тыпах рамені, сумшары, мшары і балота па 15 калодцам, вывучэньне рэжыму верхаводкі па 9 вадамерных трубах і на балоце па 16 трубах.

Гэты досьлед працягваўся і на Жорнаўскім вучастку ў 27 трубах, у лесе і аднэй трубе, каля Мэтстанцыі на полі.

12) Працягваўся па ранейшай праграме стацыянарны досьлед па вывучэньню сьнегавага насьцілу пры розных умовах: на Горацкім вучастку па 19 рэйкам, на Веляціцкім — па 12 і на Жорнаўскім — па 4. Шчытнасьць сьнегу вызначалася праз 10 дзён на Горацкім і Веляціцкім вучастках.

Працяжнасьць сьнегавага насьцілу ў лесе на Горацкім вучастку была 148 дзён, а побач на полі 141 дзень.

13) Працягваўся вучот ападкаў, якія затрымліваюцца каронамі—на Горацкім вучастку. Колькасьць ападкаў, якая затрымліваецца лясным палогам дрэвастанаў елкі значнай паўнаты, магчыма бачыць з наступнай табліцы:

| Месяцы 1929 г. | Колькасьць ападкаў: У мэлімэтрах 1 | 2 | 3 | У процантах 1 | 2 | 3 | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | 20,9 | 22,1 | 28,2 | 100 | 105,7 | 134,9 | Дажджамер № 1 знаходзіцца на паляне № 2 пад каронай елкі ў лесе кв. № 45, кл. 22, № 3 там, дзе і № 2 у стычцы карон 2-х елак. |
| II | 12,7 | 17,1 | 23,5 | 100 | 134,5 | 185,0 | |
| III | 24,4 | 31,1 | 20,8 | 100 | 127,4 | 85,2 | |
| IV | 55,2 | 27,0 | 32,6 | 100 | 48,9 | 59,0 | |
| V | 35,3 | 2,2 | 15,9 | 100 | 6,2 | 45,0 | |
| VI | 47,8 | 12,3 | 23,6 | 100 | 25,9 | 49,3 | |
| VII | 107,3 | 16,6 | 49,4 | 100 | 15,4 | 46,0 | |
| VIII | 36,7 | 18,4 | 22,9 | 100 | 50,1 | 62,4 | |
| IX | 50,2 | 17,0 | 32,6 | 100 | 33,8 | 64,9 | |
| X | 55,3 | 15,3 | 32,8 | 100 | 27,7 | 59,4 | |
| XI | 19,5 | 9,9 | 10,5 | 100 | 51,0 | 53,8 | |
| XII | 30,6 | 37,8 | 21,1 | 100 | 123,5 | 68,9 | |
| Сума: | 495,9 | 226,8 | 313,9 | 100 | 45,7 | 63,3 | |
| Сярэдняе | — | 270,35 | | -- | 54,5% | | |

Такім чынам палог дрэвастану ў 1929 годзе затрымаў 55,5% усіх ападкаў. У 1928 годзе блізкую суму—56,3%. Гэты процант да глебы не дайшоў і выпарыўся з карон дрэў у паветра.

14) Працягнуты досьледы па вывучэньню выпарэньня вільгаці ў травені, чэрвені, ліпені, жніўні, верасьні і кастрычніку параўнальна на адкрытым месцы на 2-х мэтравай вышыні, там-жа на глебе пад сеткай, там-жа на глебе бяз сеткі, пад старым яловым дрэвастанам пад сеткай, пад 30 гадовым яловым дрэвастанам пад сеткай і бяз сеткі. Вынікі паказалі, што выпарэньне вады на адкрытым месцы (на паляне) у 8 разоў больш, чым пад дрэвастанам, а пакрыцьцё выпарыцеля драцянай сеткай зьніжае выпарэньне (за ліпень месяц) на 14%.

15) Працягвалася дасьледваньне абсяваньня суцэльных лесасек яловых дрэвастанаў на Горацкім вучастку. Сэрыі досьледаў наступныя:

26 насеньнемераў на суцэльнай лесасецы пры сьценах лесу з заходу і з усходу. Найбольшаеападаньне яловагя насеньня прыходзіцца на май месяц, на другім месцы стаіць красавік і на трэцім чэрвень месяцы.

Акрамя таго, у ўсходняй сьцяны лесу насеньня выпадае значна больш, чым у заходняй сьцяны лесу. Так было і ў мінулым годзе. Звычайна дагэтуль, на падставе вопытаў у другіх частках БССР, лічылася наадварот і таму лічылася, што заходняя сьцяна лесу больш абсемяняе лесасеку, чым усходняя. Для Беларусі ў гэтым напрамку лесагадоўчая практытка павінна зрабіць папраўку. Усходняя сьцяна лесу робіць уплыў на абсяваньне лесасекі рэзка заметна на 25 мэтраў.

9 наседьнямераў на суцэльнай лесасецы пры сьцяне лесу толькі з захаду. Уплыў сьцяны рэзка сказаўся на 20 мэтраў.

9 насеньнямераў на суцэльнай лесасецы пры сьцяне лесу толькі з поўначы. З поўдня адкрытае месца і маладняк. Уплыў сьцяны лесу сказаўся на 25 мэтраў.

Для вырашэньня пытаньня, якая сьцяна лесу з усіх напрамкаў лепш для абсяваньня, трэба вопыт працягнуць 10 год.

16) Працягнуць досьлед па вывучэньню натуральнага абсяваньня пад палогам яловага і хваёвага дрэвастану на Горацкім вучастку рознай паўнаты.

У вільготнай рамені пад яловым стагадовым дрэвастанам (кв. 45, клетка 38), склад 10Е, ед. Ос., I бан., паўната 0,9, узрост 100 гадоў, пры 6 насеньнямерах апад насеньня пачаўся 6|IV, скончыўся 30|IX. Найбольш насеньня выпала ў маі, затым у чэрвені, далей у красавіку і г. д., а менавіта: у красавіку 222 насеньня, у маі — 1206, у чэрвені — 412, у ліпені—64, у жніўні—18, у верасьні—16. Калі падлічыць на 1 гэктар, то атрымаем, што тут прырода пасеяла 3230000 штук яловага насеньня г. зн. 18,9 кгр.

У сьвежай рамені пад яловым дрэвастанам (кв. 44, клетка 51) складу 7-Е, 1 Кл., 2Ас., ед. Д, I бан., пры паўнаце 0,5 у 6 насеньнямерах выпала ў красавіку—55, у маі—1039, у чэрвені 296, у ліпені—45, у жніўні—69, у верасьні—16, усяго 1460 штук насеньня на 6 кв. мэтраў. На 1 гэктар гэта складае 2.433333 штукі, г. зн. 14,2 кгр.

У тыпе сумшары (кв. № 45, клетка № 36) пад палогам 65-гадовага хваёвага дрэвастану складу 8 С., 2 Б., III бан., паўнаты 0,8, пры 6 насеньнямерах выпала зярнят хвоі: у красавіку—0, у маі—144, у чэрвені—17, у ліпені—2, у жніўні—0, у верасьні—0, усяго—163 штукі на 6 кв. мэтраў, што складае на 1 гэктар 271,666 штук, г. зн. 1,5 кгр.

17) Працягвалася дасьледваньне вывучэньня абсяваньня на Веля-

ціцкім вучастку хвоі, як на суцэльных лесасеках пры ровных сьценах лесу, гэтак і пад палогам дрэвастану, пры 59 насеньнямерах, з каторых 6 у хваёва-яловым дрэвастане VI клясы ўзросту, сярэдняй паўнаты; 6 у хваёвым дрэвастане з прымешкай 0,2 елкі, VI клясы ўзросту, паўнаты 0,9; 6 у чыстым хваёвым дрэвастане V клясы ўзросту, сярэдняй паўнаты; 6 у чыстым хваёвым дрэвастане VI клясы ўзросту, паўнаты 0,5—0,4; 6 у тыпе мшары, апошнія насеньнямеры на суцэльнай лесасецы пры ўсходніх і заходніх сьценах лесу.

18) Працягвалася вывучэньне абсяваньня ў грудавых дрэвастанах пры 23 насеньнямерах на Жорнаўскім вучастку, а таксама на 27 сталых насеньнямерных пляцкох і 4 насеньнямерах пад дубам. Пляцкі гэтыя-ж, што і ў папярэднія гады.

19) Працягнута вывучэньне буралому і ветравалу на Горацкім вучастку ў кварталах №№ 41, 43, 44, 45.

20) Па складзенаму ў 1925 годзе праэкту асушалася частка балота з хвоей на Горацкім вучастку — Сенькаўскае балота. (На сродкі НКЗ БССР). У зьвязку з гэтым закладзена тут 12 сталых пробных плошч на мшары, сумшары і балоце з мэтай вывучэньня ўплыву асушкі на зьмену расьліннасьці і на зьмену росту дрэвастанаў. Праца ў кварталах 44 і 45.

### III. Вывучэньне тыпаў дрэвастанаў у лясох БССР.

21) Апрацоўваўся матар'ял па вывучэньню тыпаў дрэвастанаў на дасьледчых вучастках.

22) Пачата вывучэньне тыпаў дрэвастанаў у лясох БССР на сродкі НКЗ БССР. Мэтаю дасьледваньня зьяўляецца вывучэньне прыродных умоў лесу БССР, складаньне натуральнай клясыфікацыі дрэвастанаў, каб даць лесаводныя зводкі, неабходныя для практычных прац па лесаўпарадкаваньню, арганізацыі гаспадаркі і лесааднаўленьня. Улетку працавалі дзьве тыпалёгічныя партыі: Паўднёвая і паўночная. Першая закончыла абсьледваньне лясоў Мазыршчыны, другая Віцебшчыны. Першая партыя абсьледавала 17 лясных дач, у 9 лясьніцтвах, пры чым зроблена апісаньне 320 пробных плошчаў і пробных вучасткаў, 338 глебавых ям, узята 830 глебавых узораў, закладзена 17 пробных плошчаў, узята 55 мадэльных дрэў і скарыстана 84 з пробных плошчаў лесаўпарадкаваньня і 369 мадэльных дрэў лесаўпарадкаваньня НКЗ БССР. Другая партыя, якая абсьледавала лясы Віцебскай акругі, абсьледавала 6 лясных дач у трох тыповых лясьніцтвах, прычым апісала 58 вучасткаў лесу, 53 глебавых ям, узяла 272 глебавых узораў для аналізаў, заклала 26 спробных плошч, абмерала 83 мадэльных дрэвы, скарыстала 24 спробных плошчы і 138 мадэльных дрэў лесаўпарадкаваньня НКЗ БССР.

Працяг працы разьлічаны на тры гады. Узімку матар'ял апрацоўвае Пад'аддзел пры дапамозе тых-жа двух лесатыпалёгічных партый.

23) Таксама новая праца пачата па вывучэньню дубу БССР і дубовай гаспадаркі за кошт сродкаў Лясбелу і па яго заданьням. Працавала адна дасьледчая партыя ў Гомельскай акрузе. Сабран матар'ял па вывучэньню адмен нашага дубу, па вывучэньню сухавяршыннасьці рэзэрвнадубовых дрэў, па вывучэньню мэханічных уласьцівасьцяй драўніны, па вывучэньню некаторых фізычных уласьцівасьцяй дубовай драўніны (каэфіцыенту ўсушкі, вільготнасьці і ўдзельнай вагі) і па вывучэньню фаутаў дубу, як мэханічнага, так і фітапаталёгічнага характару.

Узята з 12 дубоў 1300 узораў для вывучэньня вільготнасьці і спэцыфічнай вагі; з 19 дубоў каля 200 кружэлак для вывучэньня ходу росту

сухавяршынных дубоў; узяты ўзоры з 6 глебавых ям, абсьледавана на Васілевіцкім складзе Лясбелу да 500 ванчэсаў і кражоў з боку іх фаутнасьці; сабрана калекцыя да 50 розных фаутаў; закладзены спробныя плошчы і сабран іншы матар'ял.

Як праца № 22, так і праца № 23 вядуцца па дэталёва распрацованай праграме.

### IV. Дасьледваньне прыроднага аднаўленьня ў лясох БССР.

24) Вывучалася натуральнае аднаўленьне пад палогам яловых дрэвастанаў у кв. № 45, клетка 12.

25) Ізноў закладзена на Жорнаўскім вучастку для вывучэньня натуральнага аднаўленьня 75 спробных пляцкоў па 200 кв. мэтраў.

Там-жа у грудавых і ясенева-вальховых маладнякох закладзена 51 спроба па 200 кв. мэтраў для вывучэньня маючагася натуральнага падросту дубу і ясеню. Тут вывучаецца ўплыў на лесааднаўленьне пашы жывёлы, ачысткі лесасекі, паўнаты, складу дрэвастану і падлеску.

26) Зроблены пералікі на зноў закладзеных і раней закладзеных спробных пляцоўках натуральнага падросту ў дзялянках, якія былі дасьледаваны у ранейшыя гады на Жорнаўскім вучастку.

27) Вясною 1929 году на сродкі НКЗ БССР у кв. № 45, кл. 3 закладзен досьлед на тэму: „Уплыў розных ступеняй вапнаваньня глебы на рост некаторых дрэўных парод". Дрэўныя пароды узяты наступныя: дуб, вяз, ясень звычайны, клён востралісьцёвы, ліпа, елка. На вапнаваных пляцоўках утвораны пасевы. Паўторнасьць вопыту—тройчатая.

### V. Досьледы па дагляду за дрэвастанамі.

28) На сродкі НКЗ БССР закладзена 8 сталых спробных плошчаў па прачыстцы яловых маладнякоў у кварталах №№ 39 і 40 Горацкай дачы і 12 сталых пробных плошчаў па прарэджваньню ў тых жа кварталах. Зроблен вучот прыродных умоў дрэвастану да і пасьля высечак дагляду і атрыманых пры высечках матар'ялаў па аб'ёму і сартымэнтам.

Гэтакі-ж досьлед закладзен у Веляціцкай лясной дачы ў хваёвых дрэвастанах на 15 спробных плошчаў (кв. № 61) па прарэджваньню.

У кв. № 70 Жорнаўскай дачы ў культурах дубу, утвораных у 1912 г. калідорным мэтадам, закладзена 4 спробныя плошчы на 1 гэктары па дагляду за маладнякамі: з пасадкай на пень усіх падгонных парод (маладжэньне падгону) з вузкім калідорам, з пашыраным калідорам і кантрольнай пляцоўкай бяз высечкі і дагляду.

У кв. № 58 Жорнаўскай дачы ў натуральным маладняку дубу закладзена спроба ў 1 гэктар з падзелам на 4 сэкцыі дагляду за дубам: кальцовае асьвятленьне дубу, прасяканьне калідораў, маладжэньне падгону і прыгнеценага дубу і 4 сэкцыя—кантрольная.

У квартале № 74 Жорнаўскай дачы паўтораны досьледы двух папярэдніх спроб.

На Жорнаўскім вучастку ў хваёвых культурах 1912 году вытварана нізавое зрэджваньне дрэвастану пры трох ступенях высечак зрэджваньня.

У кв. 76 і 87 Жорнаўскай дачы на культурах дубу 1925 году на задзярнелай грудавай глебе закладзена 4 спробных плошчы дагляду па $^1/_4$ гэк.: а) кантрольная застаўлена ў натуральным выглядзе, б) на радох уведзен падгон з шматгадовага лубіну, в) па радох парыхлена глеба, а паміж радоў працягваюцца практыкаваўшыяся да гэтага часу сенакашэньні,

г) сенакашэньні вытвараюцца паміж радоў, а пры радох дубу кідаецца палоса шырынёю 1 мэтр бяз сенакашэньня.

29) Дабаўлены 3 новыя спробныя плошчы ў кв. №№ 31, 32, 39, 40, кв. № 45. Горацкага вучастку, з закладзепымі тут рубкамі зраджваньня. Кожная плошча роўна 1 гэктару.

Тут жа абмераны пробныя плошчы з высечкамі дагляду, якія закладзены ў 1924 годзе.

### VI. Дасьледчыя высечкі.

30) На лесасеках суцэльнай вопытнай высечкі, якія закладзены ў 1926—27 г. у Горацкім Лясьніцтве выканан пералік натуральнага лесааднаўленьня.

31) Выкананы чарговыя працы па вучоту лесааднаўленьня на вопытнай высечцы па спосабу Карнакоўскага ў 105 квартале Жорнаўскай дачы і па паступовай высечцы ў кв. № 70 гэтай жа дачы.

### VII. Праца ў лясным вэгетацыйным доміку.

32) Прадоўжана дасьледваньне на тэму „Вызначэньне мінімальнай вільготнасьці глебы для розных відаў дрэў і кустоў“.

33) Закончан асыстэнтам Бруевым досьлед на тэму: „Уплыў урадлівасьці глебы на сьветлалюбнасьць дрэўных парод“.

34) Закончан асьпірантам Чарняковым досьлед на тэму: „Уплыў вапнаваньня глебы вільготнай рамені на рост і разьвіцьцё елкі, ліпы, дубу, клёну вастралісьцёвага, ясеня звычайнага і вязу“.

35) Пачаты новы досьлед на тэму: „Вызначэньне аптымальнай вільготнасьці глебы для глаўнейшых відаў дрэў: ясеня, звычайнага дубу“.

36) Працягнут досьлед па вывучэньню ўплыву гэнэтычна-розных гарызонтаў падзолістай глебы на разьвіцьцё галоўных нашых дрэўных відаў.

## Б.

## Па Пад'аддзелу лясных культур і лесамэліарацый.

### І. Досьледы ў Горацкім лясным дасьледчым гадавальніку.

1) Працягнута праца па вывучэньню суадносін паміж % усхожасьці насеньня елкі звычайнай і хвоі звычайнай у прарашчвацеля Лібэнбэрга ў лябараторыі і % усходаў на градах. Пасеў рабіўся ў кв. № 11 Горацкага дасьледчага гадавальніку.

2) У тым жа 11 квартале на градках №№ 6, 13 паўторан вопыт пасеву елкі, мадрыны сібірскай і хвоі звычайнай на рознай глыбіні.

3) У квартале № 5 таго-ж Горацкага гадавальніку закладзен вопыт сідарацыйнага ўгнаеньня. Па ўгнаеньню і без угнаеньня высеяны: елка, хвоя, мадрына сібірская і высаджаны: елка, мадрына сібірская, ясень амэрыканскі, дуб. Гэтыя пароды высаджаны ў 2-гадовым узросьце.

4) Працягнута праца па вывучэньню падрэзкі каранёвай сыстэмы ў сеянцаў дубу ў кв. № 7.

5) Працягнута праца па пэрыядычнаму вопытнаму пасеву елкі і хвоі ў кв. № 17. Пасеў утвараўся на працягу вэгэтацыйнага пэрыяду праз 10 дзён па 10 бараздках кожнай пароды. Утворана па 16 пасеваў, прычым першы 27—V, а апошні—27|X.

6) У квартале № 11 вялася барацьба з драцяным чарвяком (Athous

niger i Agriotes lineatus), барацьба вялася шляхам бульбянай прынады збору чарвяка.

7) У кастрычніку месяцы вытваран чарговы пералік і абмер сеянцаў і саджанцаў на гадавальніку.

**II. Закладаньне дасьледчых лясных культур, дагляд за імі і вывучэньне старых лясных культур у лясох БССР.**

8) Досьлед на тэму: „Уплыў інтэнсыўнасьці асушкі балота на рост культур“.

У квартале № 65 Горыцкага вопытнага лясьніцтва на асушаным Чапялінскім балоце ў 1927 годзе былі падрыхтаваны палосы для пасадкі (гл. справаздачу па ЦЛДСБ за 1926—27 год, том II „М. па ЛДС БССР, п. 18 на старонцы 268). У 1929 годзе 27 і 28 мая на гэтых палосах вытварана пасадка пад меч Колесава хвоі звыч., ясеня амэрыканскага і бярозы гузаватай. Разьмяшчэньне ў квадрат пры 0,75 мэтра. Пасадачны матар'ял вырашчан у лясным дасьледчым гадавальніку. Насеньне атрымана: хвоі з Цэльскага Л-ва, бяроза гузаватая ад насеньнікаў бярозы, што знаходзяцца з боку вопытнага гадавальніку. Колькасьць высаджаных дрэў і засаджанай плошчы відаць з наступай табліцы:

| №№ па чарзе | №№ вопытных дзялянак | Плошча дзялянак у м² | Парода і яе ўзрост | Колькасьць высаджан. экзэмпляр. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 76 | 200 | Хвоя звыч,; сеянцы ў двухгадовым узросьце | 288 | Пасадка ўсіх парод вытваралася з аголеным карэньнем |
| 2 | 77 | 200 | | 288 | |
| 3 | 79 | 150 | | 138 | |
| 4 | 80 | 150 | | 204 | |
| 5 | 83 | 100 | Бяроза гуз.; двічкі 2—3 год | 126 | |
| 6 | 86 | 100 | | 156 | |
| 7 | 85 | 100 | | 150 | |
| 8 | 75 | 200 | | 288 | |
| 9 | 78 | 150 | Ясень амэрык.; сеянцы ў 2-х гадовым узросьце | 204 | |
| 10 | 81 | 100 | | 120 | |
| 11 | 82 | 100 | | 126 | |
| 12 | 84 | 100 | | 150 | |

9) Закладзены культуры па вывучэньню ўплыву папярэдняй падрэзкі карэньняў у сеянцаў дубу ў гадавальніку на рост і ўстойлівасьць вытвараных з іх культур. Вопыт закладзен на лесасецы 1927—28 г. на вучастку № 9 кв. № 14 Горацкага лясьніцтва на плошчы 0,75 гэктара. Пасадка ўтворана а) сеянцаў з цэлымі карэньнямі, б) сеянцамі, у каторых карэньні падсечана пры пасадцы і в) сеянцаў з карэньнямі, падрэзанымі на градках з „вусамі“, як назвала гэткія сеянцы лясная стража

Горацкага лясьніцтва. У наступнай табліцы паказаны нумары дзялянак колькасьць пляцкоў і колькасьць высаджаных экзэмпляраў:

| №№ вопытных дзял. | Прыём, апрацоўка сеянцаў дубу перад пасадкай | Колькі на вопытных дзялянках | | Узрост саджанцаў |
|---|---|---|---|---|
| | | Пляцкоў | Высаджана экзэмпляр. | |
| 1. | Падрэзка каранёў пры пасадцы . . . . | 70 | 1750 | 2 гады |
| 2. | Без падрэзкі . . . . . . . . . . . . . | 64 | 1600 | |
| 3. | З папярэдняй падрэзкай на градах у гадавальніку . . . . . . . . . . . | 64 | 1600 | |
| | Разам . . . | 198 | 4950 | |

Пасадачны матар'ял — 2-х гадовыя сеянцы дубу з насеньня сабранага ў восень 1926 году на палёх вёскі Тосна, каля 4 кілёмэтраў ад г. Горы Горак.

Вопыт закладзен у маі месяцы пад непасрэдным наглядам лясьнічага Горацкага лясьніцтва Я. В. Слукі.

10) Вывучэньне ўплыву часу вытварэньня культур елкі пасевам. Праца гэта пачата ў 1928 годзе ў кв. № 30 Горацкай дачы. У 1929 годзе праца працягнута побач з пасевамі 1928 году. Чарговыя пасевы у 1929 годзе вытвараліся на грабнёх, падрыхтаваных увясну 1928 году. Вытварана 8 тэрміновых пасеваў, з якіх першы — 17|VI і далей 1 і 15 числа кожнага месяцу. Апошні пасеў вытваран 1|X—1929 году. Пасевы вытвараліся пад непасрэдным нагляданьнем памочніка лясьнічага К. М. Сучко.

11) Вопыт гнездавога пасеву і пасадкі елкі навокал пнёў і па прыпрыродным мікраўзвышшам на лесасецы ў тыпе яловай рамені. Вопыт закладзен у 36 кв. на лесасецы 1927—28 году (дзялянка № 1).

12) Экспэдыцыйным шляхам у пяршыню вывучаліся старыя лясныя культуры ў лясьніцтвах БССР. Працавала асобная дасьледчая партыя на сродкі Наркамзема БССР. Сабраны папярэдні матар'ял, шляхам выпісак з кніг і спраў Кіраўніцтва Лясамі па 109 лясьніцтвам з 311 лясных дач, па 8 акругах БССР. Апрача таго, анкетным парадкам сабраны дадзеныя—аб старых культурах па 18 лясьніцтвах. За час працы экспэдыцыі ахоплены вывучэньнем Нёманскае, Ленінскае, Узьдзенскае і Веляціцкае лясьніцтвы Менскай акругі і часткова Аршанскае лясьніцтва, г. зн. сярэдзіна БССР. Закладзена 43 пробных плошчы, узята 209 мадэльных дрэў. Матар'ял апрацоўваецца.

Для замацаваньня за ЦЛДСБ вучасткаў старых культур для далейшага стацыянарнага іх вывучэньня мэтазгодна намеціць наступнае:

Ў Нёманскім Л-ве а) па Прусінаўскай дачы:

1) У кв. 35 вучастак „h“ плошчаю ў 2,2 ha—культура Вэймутавай хвоі (пр. пл. № 3), хвоі звычайнай, (пр. пл. № 4) і там-жа аднаўзроснае з культурамі прыроднае аднаўленьне хвоі звыч. (пр. пл. № 5); сярэдні ўзрост 30 год.

2) У кв. 35 вуч. „f“—культура хвоі звычайнай, утвораная пасадкай

дзічкоў з глыбкай. З агульнай плошчы вучастку ў 22,5 ha замацаваць у паўночна-усходнім рагу плошчу ў 2 ha.

3) У кв. 42 вуч. „b“ плошчаю ў 1,6 ha—культура Вэймутавай хвоі ў 33 годнім узросьце (пр. пл. № 1).

b) Па Негарэльскай дачы:

1) У кв. 2 наступныя вучасткі:

Вуч. „b“ пл. 1,3 ha—культура мадрыны ў мешаніне з хвоей звыч. (пр. пл. № 8), ва ўзросьце каля 30 год;

вуч. „c“ пл. 0,7 ha—культура хвоі звыч. з дамешкай мадрыны ва ўзросьце каля 30 год;

вуч. „d“ пл. 0,3 ha—культура елкі ва ўзросьце каля 29 год;

вуч. „e“ пл. 1,0 ha — культура 8 Вэйм. хвоі 2 хвоі звыч.—(29 год)

вуч. „g“ пл. 2,2 ha культура 6 хвоі зв. 2 елкі, 2 бярозы (29) год.

2) У кв. 3 вуч. „b“—культура 7 хвоі зв. 3 дубы (каля 30 год). З усей плошчы вучастку ў 7 ha замацаваць клетку плошчай у 1 ha, дзе заложана пр. пл. № 7.

3) У кв. 60 вуч. „c“ пл. 5 ha—культура хвоі звыч. і хвоі Вэймута, на якім заложаны пр. пл. №№ 12, 13, 14 і 15, а таксама пастаўлен вопыт на тэму: „Уплыў прачыстак ад лісьцяных парод (бярозы) на рост культур хвоі звыч. і хвоі Вэймута“. Першая вопытная прачыстка выканана ў 1929 г. лясьнічым Ю. Ю. Шарапа. Схэма вопытаў у справах Ц. Л. Д. С. Б.

У Ленінскім Л-ве. Па Прылуцкай дачы. Замацаваць за ЦЛДСБ вучастак культуры Мадрыны эўрапэйскай плошчаю ў 1000 м² (пр. пл. № 5), што знаходзіцца ў заходняй частцы 5 кв. па дарозе з Шчомысьліцы ў Воўчкавічы.

У Веляціцкім л-ве. Па Веляціцкай дачы ў кв. 60 замацаваць пробныя плошчы № 3 ў вуч. „d“ і пр. пл. № 4 ў вуч. „d²“. Астатнія пробы знаходзяцца на тэрыторыі Веляціцкага ляснога дасьледчага вучастку і таму хадайнічаць аб іх замацаваньні за ЦЛДСБ ня прыходзіцца.

13) На Горацкім вучастку выканан пералік і абмер вопытных культур, утвораных у 1925 годзе.

14) На Жорнаўскім вучастку ўвясну 1929 году вытварана новая дасьледчая культура на плошчы 3,6 гэктара з а) сумесі ясеню звычайнага з вальхою чорнаю—пасадка і б) чыстага дубу—пасеў. Колькасьць у наступнай таблічцы:

| №№ па чарзе | Найменьне парод | Плошча ў гэктарах | Расстаноўка. ў мтр. Паміж радамі | Расстаноўка. ў мтр. У радох. | Агульная кольк. рад. | Кольк. высадж. матар'ялу (прыбліз.) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пасадка | | | | | |
| 1 | Ясеню звычайнага з вольхай чорнаю . . . . . | 3,20 | 3 | 1 | 135 | Ясень 9400<br>Вольха 320 |
| 2 | Пасеў дубу . . . . . . | 0,40 | 2 | 0,6 | 40 | 3,400 |

15) Выконваўся догляд за культурамі, раней закладзенымі.

### III. Досьледы па лесаахове.

16) Працягнуты досьледы ўплыву пашы жывёлы на пасьпяховасьць прыроднага лсааднаўленьня на лесасеках у дрэвастане тыпу сьвежай яловай рамені, у 33 квартале Горацкай дачы. Выканана наступнае: а) паша жывёлы на вопытных дзялянках па праграме мінулага 1928 году на працягу часу з 1/VI па 1/X—29 г., б) вывучэньне батанічнага складу жывога акрыцьця па мэтаду Раўнікіера і Друдэ, в) пералік прыроднага аднаўленьня па мэтаду закладкі пробных пляцовак і г) узята 75 глебавых узораў для вывучэньня ўплыву рознага стопню пашы жывёлы на фізыка-хэмічныя ўласьцівасьці глебы.

## В.

## Па Пад'аддзелу таксацыйна-лесаўпарадкаўчаму.

### I) Па таксацыі лесу.

1) Працягнута праца мінулага году на тэму: „Асьвятленьне грунтоўнага матар'ялу, пакладзенага ў аснову складзеных табліц аб'ёму, зьбегу і сартымэнтных для хвоі, елкі, дубу, ясеню, вольхі чорнай і асіны, бярозы, грабу".

2) Пачата праца па вывучэньню ходу росту дрэвастанаў БССР. У справаздачным годзе на сродкі Наркамзема БССР вывучаўся ход росту хваёвых дрэвастанаў. Працавала асобная дасьледчая партыя. якая зьбірала матар'ял па наступнаму маршруту: Панькаўскае Л-ва, Магілеўскай акр., Веляціцкае Л-ва, Барысаўскае Л-ва, Стара-Барысаўскае Л-ва, Неманіцкае Л-ва, Пруд-Баранскае Л-ва, Чарняўскае Л-ва Менскай акругі, Ухвальскае Л-ва Аршанскай акругі, Махаедаўскае Л-ва Мазырскай акругі, Цэльскае Л-ва Бабруйскай акругі.

У лясьніцтвах закладзена 69 пробных пляцовак у аднаўзростных чыстых дрэвастанах хвоі, па мажлівасьці з максымальнай паўнатой пры вывучэньні на іх, як таксацыйных элемэнтаў, так і ўмоў росту. На кожнай пробнай плошчы ўзята па 5 — 6 мадэльных дрэў. Акрамя складу табліц ходу росту, гэтая праца каштоўна будзе і тым, што частка пробных плошчаў будзе зроблена сталымі і даручана для бліжэйшых раённых лясных дасьледчых станцый з мэтаю паўторных назіраньняў за імі і абмераў.

3) Вывучаўся выхад піламатар'ялаў з бярвеньняў шляхам непасрэднага абмеру і атрыманьня гэтых дадзеных на дрэваапрацоўчых працах Лесбелу ў Барысаве, Бабруйску і Віцебску.

4) Выконвалася дасьледваньне па вывучэньню пабудовы дрэвастанаў па каэфіцыенту формы ствала.

### II. Па лесаўпарадкаваньню.

5) Роўналежна з дасьледваньнем ходу росту вывучаецца абгрунтаваньне звароту высечак у хваёвых дрэвастанах лясоў БССР.

## Г.

## Па Пад'аддзелу лесаэканамічнаму.

1) На сродкі Лесбелу выконвалася праца на тэму. „Вывучэньне сырцовай базы для фанернай прамысловасьці ў лясох БССР". Мэта тэмы вывучыць магчымасьць пашырэньня фанернай галіны прамысловасьці за конт такіх парод, як бяроза, асіна, ліпа, дуб, ясень і хвоя.

Выканана наступнае: па ўсіх акругах БССР закладаліся пробныя плошчы каля 0,5 гэктара кожная. Усяго закладзена пробных плошчаў 40 у бярозавых дрэвастанах (32 для галоўнага карыстаньня) і 8 для прамежнага карыстаньня), 36 у асінавых дрэвастанах (32+4), 8 у дубовых, 5 у ясеневых, 6 у ліпавых, 3 у хваёвых, а ўсяго 98. Узята мадэльных дрэў: бярозы 292, асіны 233, дубу 64, ясеня 51, ліпы 48, хвоі 28, а ўсяго 715.

Прыгодная для фанеры драўніна ўсіх сартоў і разьмераў была апрацована на станках бліжэйшых фабрык. Пры гэтым рабіўся вучот выхаду фанеры з падраздзяленьнем яе на 6 сартоў і з вызначэньнем часу, патрэбнага на апрацоўку сыр'я. Папярэднія падлікі далі наступныя вынікі: сярэдні выхад бярозавага фанернага сыр'я першых трох сартоў раўняецца 20,7% ад агульнага запасу, а ўсіх чатырох сартоў — 27,7%. Гэты процант хістаецца ў залежнасьці ад банітэту так: для I-а банітэту—39,1%, для I—32,2%, для II — 25,4%, для III — 18,6%. Усяго фанернага сыр'я з бярозы атрымліваецца з гадзічнай лесасекі БССР 118000 куб. мэтраў. Гатовай фанеры ад фанернага сыр'я першых трох сартоў атрымліваецца 47%, пры чым першага сорту фанеры з бярозы зусім не атрымліваецца.

Сярэдні процант выхаду асінава-фанернага сыр'я першых трох сартоў ровен 12,8% ад агульнага запасу, а ўсіх чатырох сартоў 20,6%. Усяго фанернага сыр'я па гэтай пародзе на гадзічнай лесасеке 82000 куб. мэтраў. Выхад гатовай фанеры з фанернаго сыр'я для першых трох сартоў равен 54%.

2) Другая работа па Пад'аддзелу выконвалася на тэму: „Статыстычнае вывучэньне статыкі і дынамікі хваёвых дрэвастанаў". Мэта— дасьледваньне найбольш выворчай і рэнтабельнай структуры дрэвастанаў". Для досьледу ўзята пробная плошча ў 0,48 гэктара ў хваёвым дрэвастане I банітэту 60 гадовага ўзросту, у квартале № 62 Веляціцкага лясьніцтва.

## Д.

## Па Лесатэхналёгічнаму пад'аддзелу.

### I. Па хэмічнай лясной тэхналёгіі.

1) Выконвалася праца на тэму: Дасьледвань смалістасьці нармальна растучай Беларускай хвоі на розных высотах".

2) Вывучалася тэма: „Які мае ўплыў нямецкі і амэрыканскі спосабы падсочкі на выхад шпігінару і каніфолі з жывіцы".

3) Сабран матар'ял для дасьледваньня захаваньня і накапленьня гарбарных матэрый у елкі living рознага ўзросту. Прадугледжана больш дэталёвае вывучэньне замены вельмі дарагога і адсутнічаючага кожнага парашку чыстым жалацінам".

4) Працягвалася на Веляціцкім лясным вучастку вывучэньне розных мэтадаў падсочкі. Падсочка працягвалаcя з 1|VI па 1|X на пробных плошчах. №№ 1, 3, 4, 5,—трэці год, а на пробнай плошчы № 6—другі год.

Пробная плошча № 6 падзелена на дзьве часткі па 50 карр, з якіх адна падсочвалася амэрыканскім, а другая нямецкім спосабам.

Вучастак № 1 працягваўся падсочваньнем па францускаму мэтаду, але з мэталёвым казырком і з вузкай каррай у 8 см. шырыні, а вучастак № 3 падсочваўся амэрыканскім і нямецкім спосабамі.

Вучастак № 6, які ўступіў у другі год падсочкі, падзелен на дзьве

часткі па 150 карр, якія падсочваліся амэрыканскім і нямецкім спосабамі. Апрача таго, на гэтым вучастку закладзен быў яшчэ ўлетку 1928 году новы досьлед, які адрозьніваўся ад француского і нямецка-амэрыканскага спосабаў і які не спамянуты ў справаздачы 1928 году з прычыны некаторых няўдач, якія здарыліся пры яго дапасаваньні. Спосаб гэты выяўляе з сябе нібы падвойны францускі, г. зн. складаецца з дзьвюх вузкіх францускіх карр з прамежкамі паміж імі, якія зачосаны з такім разьлікам, каб агульная шырыня дзьвюх карр ні ў якім выпадку не дасягала шырыні нямецкай альбо амэрыканскай, а была-бы нават некалькі меншай.

У выглядзе прыймальніку ўнізе ставіцца звычайны казырок. Спосаб гэты прапанован праф. В. В. Шкацелавым з мэтай увядзеньня ў падсочку мэтаду, які менш-бы шкодзіў нармальнаму росту дрэва, дзякуючы меншай паверхні ўсыханьня абголенай драўніны. Тут рана, пры аднэй і тэй-жа паверхні прадаўжае жывіцца ад блізу ляжачых тканак некранутай абалоны.

Параўнальны ход жывіцы па вучастках №№ 1, 3, 4 і 5 відаць з наступнай табліцы:

| | Лета 1928 году | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Вуч. № 1 | Вучастак № 9 | | Вуч. № 4 | Вуч. № 5 |
| | Франц.-расійс. | Нямецка-амэрыкан. | | Францускі | Францускі |
| Сабрана на 1 карру грам. | 312 | 546 | 587 | 368 | 293 |
| Шырыня карр у снт. | 9,4 | 16 | 16 | 84 | 7,6 |
| Выхад на 1 снт. шырыні | 33,2 | 34,2 | 36,2 | 43,7 | 38,5 |
| Павялічэньне супраць 1927 г., прынятага за адзінку | 1,27 | 1.33 | 1.34 | 1,5 | 1,6 |
| Лета 1929 году | | | | | |
| Сабрана на 1 карру ў грамах | 341 | 490 | 480 | 336 | 251 |
| Шырыня карр у снт. | 8 | 15,5 | 15 | 8.2 | 7,1 |
| На адзін снт. шырыні | 42,6 | 31,6 | 32,0 | 41,0 | 35,3 |
| Павялічэньне супраць 1927 г. | 1,64 | 1,24 | 1,17 | 14,1 | 14,7 |
| Супраць 1928 г. на 1 карру | 1,09 | 0,903 | 0,82 | 0,913 | 0,857 |
| На 1 см. шырыні | 1,28 | 0,924 | 0.961 | 0,938 | 0,92 |

Разглядаючы гэтую табліцу, бачым, што супраць дадзеных, якія маюцца ў літаратуры для розных месц Саюзу, трэці год падсочкі для Беларусі хоць і дае некаторае агульнае зьніжэньне збораў супраць другога году, але яшчэ значна перавышае збор першага году. Прымаючы прыбытак з 1 карры сантымэтру шырыні першага году за адзінку, ат-

рымаем павялічэньне па ўсіх вучастках, асабліва-ж па вучастку № 1, які падсочваецца сякерай. Вучастак гэты даў павялічэньне і на трэці год.

Другагадовая падсочка па вучастку № 7таксама наогул паказала памяншэньне супроць 1928 г. хоць абсалютна на 1 карру і атрыманы амаль аднолькавыя колькасьці жывіцы: па амэрыканскаму спосабу 552 гр. супроць 544,6 і па нямецкаму 601 супраць 610,4 гр., але прымаючы пад увагу, што ў 1928 годзе зроблена 30 уздымак, а ў 1929—36, прыход на карра—уздымку зьнізіўся, што відаць з наступнай табліцы:

| | Нямецкі спосаб | | Амэрыканскі спосаб | |
|---|---|---|---|---|
| | 1925 г. | 1929 г. | 1928 г. | 1929 г. |
| Збор на 1 карру ў гр. | 610,4 | 601 | 544,6 | 552 |
| На 1 карра-уздымку ў гр. | 20,3 | 16,7 | 18,15 | 15,4 |

Вельмі цікава, што ў бягучым годзе ў канцы лета, калі амэрыканскі спосаб перастаў амаль зусім даваць жывіцу (напр., за верасень з 150 карр атрымана 13,890 гр.), нямецкі зусім ня зьнізіў прытокі жывіцы, даўшы з тых жа 150 карр 25,665 гр. Такім чынам нямецкі спосаб зьяўляецца нібы больш устойлівым і менш чульлівым да зьмен тэмпэратур.

Спосаб з дзьвюма вузкімі каррамі (В. В. Шкацелава) закладзен у кв. № 6 у 1928 годзе, г. зн. у тых жа ўмовах, як нямецкі і амэрыканскі, у колькасьці толькі 15 карр. Спосаб характарызуецца дзьвюма вузкімі францускімі зачоскамі над адным агульным зборным казырком з прамежным раменём кары з сарэдняй шырынёй 5,67 см. Сярэдняя шырыня карр левай 1,16 см. і правай 6,17 см., у суме 13,83 см. У мінулым 1928 годзе спосаб гэты адразу пачаў даваць значныя выхады на карра-уздымку, але потым, па меры падняцьця карры ўгору частка смалы стала праходзіць міма, і выхад моцна паменшыўся. Аднак за 28 збораў атрымана 6146 гр. альбо ў сярэднім 14,6 гр. на карра-уздымку.

У 1929 годзе, дзеля ўжываньня ўцечкі, да казыркоў былі падвешаны жалабкі, і вынікі атрымаліся значна вышэйшыя. З 15 карр у 1929 годзе прышлося адкінуць тры, якія былі нанесены на дрэва, каторае пачало ўсыхаць, і такім чынам у рабоце былі толькі 12 карр. Гэтыя 12 карр за 34 уздымкі да кастрычніка далі 9958 гр., што склала 830 гр. на карру альбо 24,4 гр. на карра-уздымку пры сярэдняй агульнай вышыні 30,2 см. і агульнай шырыні 13,83 см. Дзеля дакладнага параўнаньня гэтага спосабу з нямецкім, у справаздачы праф. В. В. Шкацелава пераводзяцца прыбыткі на выкрытую плошчу ў кв. сантымэтрах. Выкрытая плошча пры вышыні пад'ёму нямецкай карры ў 20 см. і шырыні 15,5 см. будзе: $20 \times 15,5 = 310$ кв. см., а падвойнай францускай $30,2 \times 13,83 = 417,7$. Прыбытак на кв. сантымэтр нямецкай падсочкі будзе:

$$\frac{490}{310} = 1,58 \text{ гр.},$$

а для падвойнай францускай:

$$\frac{830}{417,1} = 1,98 \text{ гр.},$$

альбо ў 1,25 разоў болей.

Такім чынам спосаб гэты, як відаць, менш утамлівае дрэва і апрача таго нанесеныя ім вузкія раны ўжо хутка пачнуць зацягвацца зьнізу ў

часе падняцьця падсочкі ўгару, а цераз некалькі год, падобна да французскіх, могуць зусім зачыніцца. Далей, спосаб гэты хоць і ўздымае рану на 30—35 см у год, але з посьпехам можа служыць для пяцігадовай працы, бо француская сякерка зусім выгадна можа ўтвараць падкоўку на вышыню 1,5 — 1,75 мэтра, чаго няможна сказаць адносна нямецка-амэрыканскага спосабу, пры якім нават ужо чацьверты год падсочкі робіць цяжкім утвараць уздымкі бяз вышак. На спосаб з дзьвюмя вузкімі ранамі і адным прыймальнікам неабходна зьвярнуць увагу і ў будучым 1930 годзе павялічыць лік зачосаў і працягваць назіраньне на 3-ці год на зробленых 12 зачосах.

Зьвяртае на сябе ўвагу той факт, што хвоя БССР не падпадае дапушчэньню аб зьмяншэньні з гадамі падсочкі падачы жывіцы, а наадварот паступова павялічвае прыбытак у параўнаньні з першы годам падсочкі, тады як хвоі, якія вырастаюць больш на поўдзень і даюць спачатку багатыя выдзяленьні, стомліваюцца вельмі хутка.

Трэба адзначыць, што атрыманыя ў справаздачным годзе вынікі зьяўляюцца некалькі пераўменшанымі з прычыны горшага тэхнічнага абслугоўваньня. Назіраньні над адпадам падсочных дрэў, у параўнаньні з непадсочнымі, канстатавалі гэтакі ў вельмі абмежаваным разьмеры.

Дакладныя падлікі будуць зроблены ў будучым годзе на вучастках №№ 1 і 3, якія павінны заканчваць свой падсочны пэрыяд. Вучасткі-ж №№ 4 і 5, якія падсочваюцца па чыста францускаму мэтаду, могуць быць пакінуты яшчэ на 1 год.

5) На сродкі Лесбелу выканана праца на тэму: Вывучэньне сырцовай базы для экстракцыйна-каніфольна-шпігінарнай прамысловасьці".

## Е.

## Па Пад'Аддзелу аховы лесу ад шкоднікаў.

1) Шляхам выконваньня асьпіранцкай працы рабілася вывучэньне яловых караедаў у лясох БССР.

## Ж.

## Па станцыі апрабаваньня лясного насеньня.

Як і ў мінулыя гады, станцыя вяла, па першае кантрольнае дасьледваньне насеньня, дасланага лясьніцтвамі, па-другое—свае спэцыяльныя навукова-дасьледчыя работы, па-трэцяе—дапаможныя працы па дасьледваньню насеньня для аснаўных Пад'аддзелаў і для Раённых лясных дасьледчых станцый.

У якасьці кантрольных работ дасьледвана 129 узораў лясного насеньня, з якіх 107 было ад 47 лясьніцтв БССР, 9 узораў ад 6 лясьніцтв Бранскай губэрніі, адзін ад лясьніцтва Смаленскай губ. і 12 узораў ад розных асоб і ўстаноў БССР і СССР.

## З.

## Іншыя працы.

На лясных дасьледчых вучастках выконваліся фэтэоролёгічныя назіраньні для абслугоўваньня як самых лясных вучасткаў, так і ўсіх Пад'-аддзелаў.

## II.

Асьпірантаў пры Аддзеле ў справаздачным годзе было 6. Чарнянкова А. І. пры Пад'аддзеле Лесазнаўства, дагляду і рубак, Фаміи Ф. І.

пры Пад'аддзеле Таксацыйна-Лесаўпарадкаўчым, **Касьцюковіч Т. Т.** пры Пад'аддзеле Лесаэканамічным, **Сініцкі В. П.** пры Пад'аддзеле Лесатэхналёгічным па лясной хэмічнай тэхналёгіі, **Галавач А. Ф.** адкамандырован для падрыхтоўкі па мэханічнай лясной тэхналёгіі, **Закрэўскі З. П.** падрыхтоўваецца па лясной энтамалёгіі.

У справаздым годзе склад працоўнікоў быў наступны:

Загадчык Аддзелу праф. **С. П. Мельнік.**

Па пад'аддзелу лесазнаўства догляду і рубак: загадчык проф. **С.П. Мельнік**, асыстэнт **З. О. Манцэвіч**, хімік—аналітік—**В. І. Пашын**, асьпірант **А. І. Чарнянкоў.**

Па пад'аддзелу лясных культур і лесамеліарацый—абавязкі загадчыка выконваў праф. **С. П. Мельнік**, асыстэнт **К. Ф. Міран.**

Па пад'аддзелу таксацыі—загадчык праф. В. К. Захараў, асыстэнт **Ф. П. Міхневіч** і асьпірант **Ф. І. Фомін.**

Па пад'аддзелу Лесаэканамічнаму—Загадчык праф. **А. І. Кандрацьеў** і асьпірант **Т. Т. Касьцюковіч.**

Па пад'аддзелу Лесатэхналёгічнаму—праф. **У. В. Шкацелаў**, асьпіранты **В. П. Сініцкі** і **А. Ф. Галавач.**

Па Станцыі Выпрабаваньня Ляснога насеньня асыстэнт **С. М. Бруяў.**

Па пад'аддзелу аховы лесу ад шкоднікаў—асьпірант **З. Ф. Закрэўскі.**

Па Горацкай Раённай Лясной Дасьледчай Станцыі—Загадчык Станцыі асыстэнт **Р. Г. Круглікаў.**

Па Веляціцкай Раённай Лясной Дасьледчай Станцыі—Загадчык Станцыі асыстэнт **М. М. Лубяко.**

Па Жорнаўскай Раённай Лясной Дасьледчай Станцыі—Загадчык Станцыі асыстэнт **М. М. Якаўлёў** і назіральнік вучоны лесавод **А. І. Казакевіч.**

Па Горацкім Дасьледчым Лясьніцтве: лясьнічы вучоны лесавод **Я. В. Слука**, памочнікі вучоныя лесаводы **К. І. Дзікоўскі** і **К. М. Сучко**, справавод М. І. Васільяў.

Загадчык Аддзелу Лясной
Гаспадаркі БНДІ, **Праф. Мельнік.**

16|I—1930.

